Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПАЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б

Інв. 1953 г.

## № 6
ЧЭРВЕНЬ




МЕНСК — 1929

Б. Стасевіч.

# Вынікі Ўсебеларускай нарады агітпропаў.

Усебеларуская нарада агітпропаў распрацавала наступныя чатыры пытаньні: аб масавай агітпропрабоце, партыйнай і комсамольскай палітасьвеце і антырэлігійнай рабоце. Усе гэтыя пытаньні разглядаліся з пункту погляду праверкі выкананьня папярэдніх партыйных дырэктыў, прыстасаваньня работы да асаблівасьцяй сучаснага пэрыяду соцыялістычнага будаўніцтва і намячэньня шэрагу новых мерапрыемстваў у зьвязку з выяўленымі недахопамі і перашкодамі ў рабоце.

Па масавай рабоце нарада канстатавала некаторае палепшаньне масавае работы за апошнія два гады, некаторыя колькасныя і якасныя дасягненьні і посьпехі ў выкананьні дырэктыў аб масавай рабоце сакавіковага Пленуму ЦК 1927 г. Але разам з гэтым нарада адзначыла, што масавая работа зьяўляецца найбольш слабым і забытым вучасткам культурнага будаўніцтва. Масавая работа, як важнейшы палітычны і культурны сродак організацыі і выхаваньня працоўных мас, недастаткова скарыстоўваецца дзеля мобілізацыі ўвагі і волі працоўных на актыўнае перамаганьне цяжкасьцяй соцыялістычнага будаўніцтва, дзеля палітычнага выхаваньня працоўных у напрамку ўвязкі пэўнай канкрэтнай работы з агульна-палітычнымі ўстаноўкамі, дзеля разьвіцьця рэволюцыйнай чуласьці і ўменьня весьці рашучае барацьбу з непролетарскімі ўплывамі і варожымі антысавецкімі думкамі і настроямі сярод працоўных.

Да ліку буйнейшых недахопаў у масавай рабоце, нарада аднесла тое, што чарговыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва (індустрыялізацыя краіны, пад'ём сельскае гаспадаркі на базе колектывізацыі і вытворчага коопэраваньня сялянскіх гаспадарак, рашучы наступ на капіталістычныя элемэнты, культурная рэволюцыя і г. д.) знаходзяць недастатковы адбітак у масавай рабоце, што гэтыя задачы ў масавай рабоце праламляюцца з значным спазьненьнем і часамі з ідэолёгічным скажэньнем, асабліва на вёсцы, што ў рабоце клюбаў, нардамоў, хатчытален, чырвоных куткоў і г. д. пераважае культурніцкі ўхіл, які часамі набывае аполітычны характар, што якасьць і ідэолёгічная вартасьць масавае работы часамі бывае нявысокай, што масавая работа яшчэ не ахапіла і не захапіла шырокія колы працоўных і не прыстасавалася да бытавых, нацыянальных, узростных, палавых і соцыяльных асаблівасьцяй працоўных, што ў масавай рабоце ня вылучаны ўдарныя вучасткі работы, што дзе-ні-дзе адчуваецца недаацэнка значэньня ролі масавае работы і г. д.

У прапазыцыях на далейшы час нарада падкрэсьліла, што асноўнае і галоўнае ў масавай рабоце, па-першае—гэта *палепшаньне ідэёвага зьместу і ідэолёгічнай якасьці работы*, прыстасаваньне масавае работы да папулярызацыі і прапрацоўкі рашэньняў XII-га партзьезду і XVI-ай партконфэрэнцыі, у першую чаргу—шырокая прапрацоўка сярод працоўных усесаюзнай і ўсебеларускай пяцігодкі, організацыя і шыро-

кае разгортваньне інтэрнацыянальнага выхаваньня, барацьбы з праявамі нацыянал-дэмократызма, шовінізмаў розных гатункаў і асабліва з антысэмітызмам, рашучае змаганьне з фактамі замазываньня клясавай пролетарскай лініі, асабліва на вёсцы; па-другое—гэта *перанясеньне цэнтру масавай работы ў цэх на прадпрыемстве,* прыстасаваньне яе да ўмоў зьменнай работы, а таксама перанясеньне масавай работы ў хатнія абставіны рабочых (рабочы пасёлак, казарма, інтэрнат, вёска), і на вёсцы—перанясеньне цэнтру масавае работы ў саўгас і калгас; па-трэцяе—*пастаноўка на належную вышыню работы сярод новых і сэзонных рабочых, батрацтва, калгасьнікаў і вясковае беднаты;* па-чацьвертае—дасягненьне належнага пералому ў ацэнцы значэньня і ролі масавай работы і *стварэньні неабходных культурных кадраў* (лепшае скарыстаньне тых, што маюцца, падрыхтоўка і перападрыхтоўка новых).

У адносінах да партасьветы, нарада адзначыла, як дадатныя бакі, гэта значнае павялічэньне тэорытычнага ўзроўню і актыўнага ўдзелу ў унутры-партыйным жыцьці ўсёй КПБ, што спрыяла правільнай орыентацыі партыі ў правядзеньні ленінскай лініі, у барацьбе з усялякімі ўхіламі ад гэтае лініі, што дапамагло партыі даць такі-ж рашучы адпор праваму ўхілу і прымірэнцтву да яго, як і раней трацкізму. Адначасова нарада адзначыла, што прынцып добраахвотнасьці партасьветы цалкам сябе апраўдаў, што першапачатковае камплектаваньне партсеці значна ўзрасло ў параўнаньні з мінулым годам, асабліва за колькасьць беспартыйных і комсамольцаў (на 63%), што значна павялічыліся ў сыстэме партасьветы сярэднія ступені (у горадзе павялічылася колькасьць вячэрніх партшкол з двухгадовым курсам навучаньня і ўпяршыню былі організаваны савпартшколы ў большасьці вясковых раёнаў), значна пашырылася сетка завочнага навучаньня, павялічыліся кадры прапагандыстых (да 950 чалавек і г. д.).

Але, ня гледзячы на шэраг дасягненьняў у галіне партасьветы, нарада адзначыла і шэраг недахопаў. Нарада падкрэсьліла, што партвучоба яшчэ недастаткова ўвязана з практычнай работай, што партвучоба яшчэ недастаткова дапамагае ў вырашэньні практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва, што партвучоба яшчэ недастаткова задавальняе запатрабаваньні паасобных партыйцаў. Да ліку буйных недахопаў партасьветы трэба аднесьці, з аднаго боку, недастатковы нагляд і кіраўніцтва партасьветай з боку партворганаў, што прыводзіла да значнага адсеву жадаючых займацца (40—50%) і з другога боку—значную раскіданасьць у сыстэме ахопу партвучобай, адсутнасьць ударных вучасткаў у ахопе партвучобай, у выніку чаго значная колькасьць кандыдатаў партыі і нізавога партактыву засталася неахопленай партвучобай.

Нарада распрацавала шэраг практычных мерапрыемстваў па палепшаньню партасьветы на будучы час. Нарада ўхваліла: каб камплектаваньне партсеці праводзіць на працягу ўсяго году, павялічыць сетку партасьветы з разьлікам на максымальны абхоп сеткай беспартыйных рабочых, батракоў, с.-г. рабочых, калгасьнікаў, вясковае беднаты і лепшай часткі серадняцтва, прыстасаваць работу партасьветы да ўмоў работы і быту партыйцаў, асаблівую ўвагу зьвярнуць на ахоп жанчын і раскіданых паасобку партыйцаў і комсамольцаў на вёсцы, дабіцца своечасовага снабжэньня школ падручнікамі і неабходнай літаратурай, палепшыць пастаноўку консультацыі і рэцэнзаваньня завочным навучаньнем, дабіцца таго, каб АПА-габінэты сапраўды ператварыліся ў навукова-дасьледчыя лябораторыі па мэтадычным кіраўніцтве і мэтадычнай апрацоўцы мясцовага матар'ялу для партсеткі, пакінуць

у партсетцы агульна-адукацыйныя дысцыпліны, наладзіць падрыхтоўку і перападрыхтоўку кадраў прапагандыстых, у першую чаргу рабочых прапагандыстых і г. д.

У галіне комсамольскай палітадукацыі нарада адзначыла, што асноўнымі недахопамі яе зьяўляюцца: недастатковая падрыхтоўка прапагандыстых, асабліва на вёсцы, няўменьне ўвязаць палітвучобу з практычнай работай, слабасьць кіраўніцтва вучобай з боку партыйных і камсамольскіх організацый, слабое задавальненьне цягі да агульнай асьветы, слабое разьвіцьцё такіх форм адукацыі, як прадметныя гурткі, слабое разьвіцьцё школьнай сеткі на вёсцы і г. д. Нарада вызначыла шэраг практычных мерапрыемстваў па палепшаньні палітадукацыі як у горадзе, так і на вёсцы, па вучобе актыву і палепшаньню кіраўніцтва вучобай. Гэтыя мерапрыемствы ў асноўным зводзяцца да таго, каб прыстасаваць формы, мэтады і зьмест палітвучобы да запатрабаваньняў розных груп камсамольцаў, каб для задавальненьня цягі рабочай моладзі да атрыманьня агульнае асьветы пашырыць сецьВШРМ, з уключэньнем агульна-адукацыйных дысцыплін у камсамольскую сетку партвучобы, павялічыць ахоп камсамольцаў і ў першую чаргу актыву сыстэмай партасьветы, палепшыць работу па падрыхтоўцы пропагандыстых, у пляны работы партворганаў уключыць пытаньні праверкі становішча камсамольскай палітадукацыі.

У адносінах да антырэлігійнае работы нарада адзначыла, што антырэлігійная прапаганда не знайшла яшчэ належнага адбітку і праламленьня ва ўсёй сыстэме культурна-асьветнае работы, што антырэлігійная прапаганда мае пераважна павярхоўны характар, праводзіцца ад кампаніі да кампаніі і толькі ў апошні час (2—3 м-цы) наглядаецца некаторы рух у гэтай працы, які прывёў да павялічэньня колькасьці сяброў саюзу „Бязбожнік“ з 10—15 тысяч да 50 тысяч.

Улічваючы, што, у зьвязку з абвастрэньнем клясавае барацьбы ў краіне, наглядаецца ажыўленьне дзейнасьці рэлігійных організацый, асабліва сэктанцкіх груп, якая часамі набывае яскрава выяўлены контррэволюцыйны характар, што ў антырэлігійную работу ўцягнуты зусім нязначныя пласты працоўных, што антырэлігійная работа зусім слаба зьвязана з чарговымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва, нарада распрацавала шэраг мерапрыемстваў па замацаваньні і пашырэньні дасягнутых вынікаў антырэлігійнае работы, па пераводу работы з кампанейскіх рэек на рэйкі штодзённай сыстэматычнай работы, укараненьне антырэлігійнай прапаганды ўва ўсю палітасьветработу (клюбы, хаты-чытальні, радыё, кіно і г. д.), па пераапрацоўцы праграмы навучальных устаноў з такім разьлікам, каб у школах праводзілася небезрэлігійнае, а антырэлігійнае выхаваньне, па падрыхтоўцы неабходных прапагандысцкіх кадраў антырэлігійнікаў, па стварэньні нізавога антырэлігійнага актыву, па выданьні неабходных падручнікаў і папулярызацыі антырэлігійнай літаратуры і г. д.

Усе рашэньні агітпропнарады павінны быць вядомы шырокім колам парторганізацыі, і прыстасованы да мясцовых умоў працы.

Ш. Гольдзін.

# Аўстра-марксызм і аграрнае пытаньне.

## I. Рэфармісцкая ўстаноўка аграрнай праграмы пад „левай“ шыльдай.

Аўстра-марксызм—„левае“ крыло соцыял-дэмократыі. Досьлед апошніх 15 год, у асаблівасьці пасьля рэволюцыйнага пэрыяду паказаў, што так званае „левае“ крыло соцыял-дэмократыі заўсёды зьяўляецца толькі заслонай правых, што яно нічым, фактычна, не адрозьніваецца ад правай соцыял-дэмократыі, за выключэньнем левай фразы, ад якой правыя даўным-даўно ўжо адмовіліся. Гэтай соцыялістычнай фразэолёгіяй ім удаецца ўтрымліваць несьвядомых рабочых ад рэволюцыі, гэтай соцыялістычнай фразэолёгіяй купляецца падтрымка адсталымі рабочымі соцыял-дэмократыі.

Падобна соцыял-дэмократыі іншых краін, аўстрыйскую рэволюцыю аўстрыйская соцыял-дэмократыя стала абасноўваць тэорыяй міжнароднай „левай“ соцыял-дэмократыі. Гэта тэорыя павінна была, з аднаго боку, апраўдаць здраду, з другога боку—прыкрыць гэту здраду словамі аб рэволюцыі і соцыялізьме. Гэта тэорыя ў асноўным зводзіцца да таго, каб *без рэволюцыі* заваяваць уладу, без супраціўленьня эксплёатуючых кляс яе замацоўваць пасьля так званага заваяваньня ўлады, прыстасоўваючыся да клясава-розных пластоў, будаваць тое, што на аўстра-марксыцкай мове завецца соцыялізмам. Утварылі яны таксама тэорыю аграрнага пытаньня, якая атрымала канчатковае афармленьне ў аграрнай праграме прынятай на Венскім партэйтазе ў 1925 годзе і пацьверджанай праграмай партыі на Лінцкім партэйтазе 1926 г. Прыняцьцю праграмы папярэдніцай была вялікая дыскусія, якая вялася на працягу некалькіх год на старонках іх цэнтральнага органу „Дэр Кампф“ і ў спэцыяльных работах.

Гэта праграма з *надворнага боку* ва многім падобна да праграмы бальшавікоў у аграрным пытаньні. Отто Баўэр неаднакраць, як да партэйтагу ў розных артыкулах у „Дэр Кампф“ і ў яго кнізе „Барацьба за зямлю“, а таксама і на самым партэйтазе прызнае, што яны вучыліся ў бальшавікоў, прызнае бальшавіцкі ўплыў на ўтварэньне іх аграрнай праграмы. У сваім дакладзе на партэйтазе ён заяўляе: „Зьяўляецца пэўнай *заслугай бальшавікоў* і тое, чаму ў іх вучыцца неабходна, што яны думку (думку Маркса, што пролетарыят можа толькі перамагчы, як кіраўнік, як верхавод усіх працоўных мас, а найперш за ўсё сялянства) з найвялікшай энэргіяй ўноў успрынялі“ (пратаколы Венскага партэйтагу, 1925 г., стар. 249).

А ў сваёй кнізе „Барацьба за зямлю“ Отто Баўэр піша: „...Перамога бальшавізму ў Расіі і паражэньне соцыялізму ў цэнтральнай Эўропе паказалі, што прамысловы рабочы ня зможа заваяваць і замацаваць сваю ўладу, пакуль ён ня здоляе заўладаць кіраўніцтвам шырокіх мас вясковага насельніцтва“. (Отто Баўэр, „Барацьба за зямлю“ стар. 204, выд. „Прибой“, 1926 г.). Гэта зусім правільна, аб гэтым

даўно ўжо гаварылі бальшавікі, яшчэ задоўга да перамогі соцыялізму ў Расіі. І далей... „Вясковы рабочы, бабыль, дробны селянін пачынае эмансіпавацца ад кіраўніцтва заможнага селяніна, шукаць задавальненьня сваіх эканамічных і соцыяльных запатрабаваньняў у саюзе з прамысловым пролетарыятам. Соцыял-дэмократыя павінна заваяваць і організаваць гэтыя масы, павінна ўказаць сродкі, пры дапамозе якіх можна задаволіць жыцьцёвыя, эканамічныя і соцыяльныя патрэбы гэтых мас у згодзе з патрабаваньнямі грамадзкага разьвіцьця“ (там-жа). Баўэр далей прызнае, што „паміж капіталістычным і соцыялістычным грамадзкім укладам будзе ляжаць вельмі доўгі пераходны пэрыод, у эканамічным парадку якога будуць пераплятацца капіталістычныя і соцыялістычныя элемэнты“.

Ня будзем, аднак, спакушацца знадворнай падобнасьцю. Унікнем глыбей у аўстра-марксысцкую мудрасьць. Паглядзімо, як аўстра-марксызм разумее задавальненьне жыцьцёвых, эканамічных і соцыяльных патрэб „у згодзе з патрабаваньнямі грамадзкага разьвіцьця“ і якія ў яго маюцца для гэтага сродкі. Зьвернемся для атрыманьня адказу на гэтыя пытаньні да аграрнай праграмы. Праграма падзяляецца на тры часткі: 1) найбліжэйшае патрабаваньне падняцьця сельскае гаспадаркі, 2) найбліжэйшае патрабаваньне палепшаньня становішча вясковага пролетарыяту, 3) пераход да соцыялістычнага грамадзкага ладу. У адрозьненьне ад праграмы германскай с.-д., у якой гэтая трэцяя частка (аб пераходзе да соцыялістычнага грамадзкага ладу) зусім адсутнічае, у праграме аўстрыйскай с.-д. ёй адводзіцца спэцыяльная частка. Гэта павінна падкрэсьліць, што іх канчатковай мэтай зьяўляецца соцыялізм, падкрэсьліць „лявізну“ аўстра-марксызму. Але больш блізкае азнаямленьне з гэтай праграмай пакажа, што яна па сутнасьці, мала чым адрозьніваецца ад праграмы германскай с.-д. і левая фразэолёгія засланяе толькі яе рэвізыянісцкую сутнасьць. Асабліва дзіўна падобнасьць паміж пачаткам аграрнай праграмы германскай с.-д. і пачаткам першае часткі аграрнае праграмы аўстра-марксызму. Праграма германскай с.-д. пачынаецца наступнымі словамі: „Падвышэньне вытворчасьці чалавечае працы праз усё павялічваючаяся прымяненьне навукі і тэхнікі зьяўляецца агульным інтарэсам працоўнага народу ў горадзе і ў вёсцы“. А ў пачатку аўстрыйскай праграмы гаворыцца: „Падняцьцё вытворчасьці сельска-гаспадарчае працы, зьяўляецца аднэй з важнейшых прадпасылак палепшаньня эканамічнага становішча народных мас як у вёсцы, так і ў горадзе“.

Як тая, так і другая праграма тлумачыць аб падняцьці вытворчасьці працы наогул. Отто Баўэр у сваім дакладзе на Венскім партэйтазе таксама гаворыць: „падняцьцё вытворчасьці сельскае гаспадаркі зьяўляецца для нас толькі сродкам палепшаньня становішча працоўнага насельніцтва на сяле, але адначасова адным з важнейшых істотных,—хаця адным з найбольш цяжка дасягаемых—*сродкаў пашырэньня ўнутранага рынку нашай індустрыі*“ (пратаколы Венскага партэйтагу аўстрыйскай с.-д., Вена, 1925 г., стар. 246). Працоўныя масы гораду і вёскі зацікаўлены ў падняцьці вытворчасьці сельска-гаспадарчай працы, „у падвышэньні вытворчасьці чалавечае працы наогул“, у рынку для індустрыі наогул, незалежна ад соцыяльна-клясавай асновы, на якой адбываецца гэтае падняцьцё вытворчасьці працы і гэтае павялічэньне рынку. Дык *рэвізіянізм* тлумачыў аб карыснасьці для працоўных мас падняцьцё вытворчасьці працы і росту гаспадаркі *наогул*, незалежна ад канкрэтных соцыяльна-палітычных умоў. Марксыстыя-ж заўсёды зацьвярджалі, што пры капіталістычным парадку падняцьця вытворчасьці працы, рост прадукцыі, рост гаспа

даркі спалучаецца з самай бязьлітаснай эксплёатацыяй працоўных мас. Такім чынам, выходны пункт аўстрыйскай „левай“ праграмы зводзіцца да рэвізіянісцкага прызнаньня карыснасьці разьвіцьця вытворчых сіл наогул, не ацэньваючы захаваўшыхся клясавых супярэчнасьцяй у гэтым разьвіцьці. Адгэтуль першы крок да абаснаваньня тэорыі міру ў капіталістычнай прамысловасьці і ў капіталістычнай сельскай гаспадарцы.

## II. Праграма мінімум без праграмы максымум.

У першай частцы праграмы маецца цэлы шэраг патрабаваньняў культурнага і культурна-эканамічнага характару: устанаўленьня поўнага абавязковага васьмігадовага навучаньня, абмежаваньне колькасьці вучняў у кожнай клясе, правядзеньне прынцыпаў рэформы выкладаньня ў вясковай школе, абавязковае дадатковае навучаньне для ўсіх занятых у сельскай гаспадарцы ад 14 да 18 год, шырокае распаўсюджваньне сельска-гаспадарчых і лясных школ з стыпэндыямі з грамадзкіх сродкаў для дзяцей дробных сялян і сельска-гаспадарчых рабочых, будаўніцтва вышэйшай народнай школы. Далей ідуць такія сродкі падняцьця вытворчасьці сельскае гаспадаркі, як сельска-гаспадарчая дасьледчая справа, выстаўкі, заахвочваньне коопэрацыі, дарожнае будаўніцтва, танны крэдыт для меліорацыі, правядзеньне за грамадзкі рахунак найбольш важных меліорацыйных мерапрыемстваў, правядзеньне прымусовага аграмінімуму і г. д. Затым ідуць патрабаваньні, маючыя мэту пазбаўленьня сельскай гаспадаркі ад эксплёатацыі гандлёвага капіталу (хлебныя манаполіі, зьнішчэньне капіталістычнага гандлю сельска-гаспадарчымі прадуктамі шляхам арганізацыі непасрэднай сувязі паміж сельска-гаспадарчымі збытавымі таварыствамі і гарадзкімі спажывецкімі таварыствамі), мерапрыемствы супроць запазычанасьці сялянства і працэнтшчыны (танны крэдыт, абавязковае дзяржаўнае страхаваньне сялянскай маёмасьці і г. д.), і, у канцы канцоў, цэлы шэраг патрабаваньняў па палягчэньню падатковага цяжару сялянства.

У другой частцы праграмы маюцца такія патрабаваньні, як пераняcеньне закону аб прымірыцельных камерах і калектыўных умовах на сялянскую гаспадарку, аб ператварэньні прамысловых судоў у працоўныя суды, наогул арганізацыя *парытэтных* (курсіў наш—*Ш. Г.*) Бірж працы і для сельскае гаспадаркі, распаўсюджваньне закону аб водпусках, аб рэгуляваньні рабочага часу, забесьпячэньне памяшканьнем, забарона ўласнай сялянскай гаспадаркі с.-г. рабочых і г. д.

Ня будзем спыняцца на ўсіх гэтых патрабаваньнях. Яны носяць чыста рэформісцкі характар, іх ажыцьцяўленьне ня выходзіць з рамак капіталістычнага грамадзтва. Яны ставяць сваёй мэтай палепшаньне становішча сялянства і сельска-гаспадарчых рабочых у рамках капіталістычнага грамадзтва, так сказаць „праграма-мінімум“. На большае яны і не прэтэндуюць. Бадай і разумны капіталіст-фэрмер і наш кулак у асноўным згодзяцца на ажыцьцяўленьне гэтае праграмы. Гэтыя дзьве часткі аўстрыйскай праграмы мала чым адрозьніваюцца ад германскай. Такія патрабаваньні магла-б выстаўляць любая другая с.-д. партыя, зусім не супярэчачы супроць сваёй рэформісцкай істоты. Усё гэта зусім ажыцьцяўляема ў рамках капіталістычнага грамадзтва. Капіталістычны спосаб вытворчасьці гэтымі рэформамі не зачапляецца. Падрабязна спынімся на трэцяй частцы аўстрыйскай праграмы, у якой гаворыцца аб пераходзе да соцыялістычнага грамадзкага ладу. Аналіз гэтай часткі праграмы пакажа, што пад, як-быццам, марксысцкімі, амаль

не бальшавіцкімі, словамі захоўваюцца на справе опортуністычныя ўчынкі, поўны адыход ад марксызму, фактычная здача ўсіх позыцый рэвізіянізму. „Левая“ шыльда зьяўляецца вельмі зручным прыкрыцьцём правай рэформісцкай істоты.

## III. „Канечная мэта“ аўстра-марксызму альбо ілюзіі дробна-буржуазнага соцыялізму.

Гэтая частка праграмы мае тры падзелы:

1) Соцыялізацыя буйнага земляўладаньня; 2) соцыялізацыя буйнага сельска-гаспадарчага земляўладаньня, 3) селянін у соцыялістычным грамадзтве.

Хто правядзе ўсе гэтыя „соцыялістычныя“ мерапрыемствы? Якая дзяржаўная ўлада? (Наколькі яны на справе зьяўляюцца соцыялістычнымі—мы скора ўбачым).

У праграме аўстрыйскай соцыял-дэмократыі, прынятай на Лінцкім партэйтазе 1926 г., гаворыцца, што „яна (рабочая кляса) заваёўвае дзяржаўную ўладу шляхам усеагульнага выбарчага права“ (пратаколы Лінцкага партэйтагу, стар. 174). „Соцыял-дэмократычная рабочая партыя будзе ажыцьцяўляць дзяржаўную ўладу ў дэмократычных формах і пры захаваньні ўсіх дэмократычных гарантый“ (там-жа, стар. 176). „Заваяваўшы ў першы пэрыяд сваёй барацьбы дэмократычную рэспубліку, перад соцыял-дэмократычнай рабочай партыяй паўстане задача скарыстаньня *дэмократычных сродкаў барацьбы* (курсіў наш—*Ш. Г.)*, для зьбіраньня большасьці народу пад кіраўніцтвам рабочае клясы для таго каб скінуць, такім чынам, клясавае панаваньне буржуазіі і заваяваць ў *дэмократычнай рэспубліцы* (курсіў наш—*Ш. Г.)* панаваньне рабочае клясы“ (там-жа, стар. 175).

І калі О. Баўэр ў сваім дакладзе на гэтым партэйтазе гаворыць аб заваяваньні палітычнай улады, ён таксама мае на ўвазе заваяваньне гэтае ўлады дэмократычнымі сродкамі, выбарчым бюлетэнем у дэмакратычнай рэспубліцы. Мы на гэта пытаньне,—якая дзяржава правядзе гэтае мерапрыемства,—як у партыйнай праграме, прынятай на Лінцкім партэйтазе, так і ў артыкулах і прамовах аўстра-марксыстых, знаходзім даволі выразны і нядвухсэнсовы адказ: „дэмократычная дзяржава“. Праўда, Баўэру і К-о падабаецца называць гэту дзяржаву дыктатурай пролетарыяту толькі на той падставе, што большасьць у парляманце выпадкова апынулася ў руках яго партыі. Але ці патрэбна яшчэ даказываць недарэчнасьць такога „отождествления“, такой цьвёрдай большасьці (нават пры дапушчэньні, што Баўэроўская большасьць сапраўды захацела-б сур'ёзна ажыцьцяўляць соцыялістычныя мерапрыемствы), дзе гарантыя таго, што пры наступных выбарах, паколькі буржуазная дзяржава не разбурана, паколькі буржуазія не падаўлена, паколькі яе эканамічная моц ня зьнішчана, зброя ідэолёгічнага ўплыву і духоўнага зьняволеньня ў яе руках, дзе гарантыя таго, што і ў будучым захаваецца за імі гэтая большасьць, дзе гарантыя таго, што буржуазія дапусьціць спакойна праводзіць сапраўды сацыялістычныя мерапрыемствы. Гарантый, зразумела, ніякіх няма і пагэтаму аўстра-марксыстым прыходзіцца як у самой праграме, так і ў выступленьнях прыбягаць да наіўна-фальшывых вымудраў аб умовах заваяваньня „пралетарскай улады“ ў дэмократычнай рэспубліцы!

У першым падзеле гэтае часткі праграмы, па-першае, высоўваецца патрабаваньне адабраньня з уласнасьці прыватнага і царкоўнага лесаўладаньня. Ці павінна гэта адабраньне з уласнасьці быць праведзена з выкупам, альбо бяз выкупу,—аб гэтым праграма змоўчвае. І ў дру-

гіх мясцох праграмы, дзе гаворыцца аб адабраньні з уласнасьці буйнага земляўладаньня, пытаньне аб выкупу зусім абыходзіцца. Мы пазнаем толькі, што гэтыя „соцыялістычныя лясы“ павінны кіравацца не капіталістычным парадкам, а сацыялістычным; кіраўніцтва імі павінна знаходзіцца ў руках агульнадзяржаўных і акруговых лясных органаў у складзе прадстаўнікоў дзяржавы, лясных рабочых і сялян. Аб якой дзяржаве ідзе размова, нам ужо вядома. Гэта дзяржава дэмократычная, у якой ня толькі пасыўным і актыўным выбарчым правам, але і поўнай свабодай ідэолёгічнага ўплыву будуць уладаць і капіталісты і былыя земляўласьнікі і духавенства. Увесь стары дзяржаўны апарат не разбураецца. Паколькі захоўваюцца ўсе „дэмократычныя гарантыі“, дык хто зможа нам паручыцца за тое, што прадстаўніком дзяржавы не скажацца капіталіст, абшарнік, усім вядомы вораг ня толькі сацыялізму, але і наогул усякіх рэформ у лясной гаспадарцы. У адносінах-жа сялянства аграрная праграма аўстра-марксыстаў гаворыць аб сялянстве наогул, не разьлічваючы розных пластоў сялянства.

Сапраўды, і кулак, вясковы эксплёататар, карыстаецца тымі-ж правамі, што і сапраўдны працоўны селянін. Пануе-ж у баўэраўскай „пролетарскай“ дзяржаве поўная роўнасьць паміж капіталістым і пролетарам, паміж абшарнікам і кулаком—з аднаго боку і дробнымі працоўнымі сялянамі і сялянскай беднатой—з другога. Пры такой хвалёнай дэмократыі зусім не выключаецца, а скарэй прадугледжваецца магчымасьць, што і прадстаўніком сялянства таксама зможа апынуцца які-небудзь вясковы буржуй. Чые інтарэсы пры такім складзе лясного кіраўніцтва будуць лепш абараняцца, ня цяжка ўгадаць.

Гэта аб арганізацыі кіраўніцтва лясамі. А цяпер аб эканамічных мотывах лясной гаспадаркі, аб эканамічных яе мэтах. Як сказана ў праграме, мэтай соцыялістычнай лясной гаспадаркі не павінна зьяўляцца атрыманьне большага прыбытку ад лясоў, а рацыянальная эксплёатацыя лесу ў карысьць грамадзтва. А дакладчык партэйтагу „Аб аграрнай праграме“, О. Баўэр, у сваёй кнізе „Барацьба за зямлю“ піша: „Прыватнаўласьніцкі лес дае большы прыбытак у сучасны момант; дзяржаўны дае больш поўную гарантыю таго, што лясная глеба і самі лясы бяз шкоды і бясьпечна захоўваюцца для будучага“ (стар. 157, выд. „Прыбой“, 1926 г.) Выходзіць, што адным з мотываў „соцыялізацыі“ буйнага лесаўладаньня зьяўляецца клопат аб будучыні лесу, аб яго будучай прыбытковасьці. Другім мотывам гэтай „соцыялізацыі“ зьяўляецца дапамога індывідуальнай сельскай гаспадарцы, у асаблівасьці папаснай. „Дзяржава павінна з дапамогаю актаў адчужэньня і прымусовых мер,—гаворыць О. Баўэр у сваей кнізе „Барацьба за зямлю“,—у краёх, дзе сяляне недастаткова надзелены папасамі, выдзяляць з лясной гаспадаркі вучасткі, прыгодныя для эксплёатацыі ў якасьці папасу і аддачы іх сялянам; у краёх, дзе недастатковае надзяленьне сялян сенажацямі і пашняй пазбаўляе іх магчымасьці скарыстаць маючыяся папасы, павінна выдзеліць з лясной плошчы прыдатныя для звароту іх пад лугі і сенажаці і аддаць іх ва ўласнасьць сялян“ (стар. 163). Акрамя гэтага, „соцыялістычнае лясное кіраўніцтва“ павінна забясьпечыць сялянству магчымасьць шырокага карыстаньня лесам, папасам і саломай у соцыялістычных лясох. У гэтай „соцыялізацыі“ буйнага лесаўладаньня мы ўсё-ж ніякай сацыялізацыі ўгледзець ня зможам. У сваёй кнізе „Барацьба за зямлю“ О. Баўэр параўноўвае эксплёатацыю лесу ў дзяржаўных і прыватных лесаўладаньнях і прыходзіць да выніку, што дзяржава прытрымліваецца значна больш празорлівай політыкі ў адносінах эксплёатацыі лесу, чым прыватныя лесаўласьнікі. А гутарка ў яго ідзе аб сучаснай аўстрыйскай дзяржаве,

у якой яшчэ няма баўэраўскай „пролетарскай улады“. Значыць, пераход лясоў у дзяржаўную ўласнасьць само па сабе, і клопат аб „будучым лесу“, аб будучай прыбытковасьці гэтага лесу, зусім яшчэ ня можа лічыцца социялістычнай мерай. Яшчэ менш можа лічыцца соцыялістычным мерапрыемствам, дапамога індывідуальнай сельскай гаспадарцы і жывёлагадоўлі, забесьпячэньне сялянства папасамі, лясамі і саломай. Усё гэта ня выходзіць з рамак капіталістычнага грамадзтва, а зьяўляецца добрымі буржуазнымі рэформамі, якія змог-бы сабе дазволіць больш альбо менш празорлівы буржуазны ўрад, жадаючы перацягнуць на свой бок сялянства. Толькі пры дыктатуры пролетарыяту, пры сапраўднай пролетарскай уладзе, якая лясныя багацьці будзе скарыстоўваць для социялістычнага будаўніцтва, якая будзе ўсімі сіламі актыўна садзейнічаць калектывізацыі сялянскай гаспадаркі, нават такія рэформы, як забесьпячэньне працоўных сялян папасамі, лясамі і саломай, змогуць паслужыць службу сацыялізму, хаця такое забесьпячэньне само па сабе, зразумела, не зьяўляецца соцыялістычным мерапрыемствам.

У дэмократычнай дзяржаве аўстра-марксыстаў, пры тым у складзе кіраўнічых лясных органаў дзяржаўных лясоў, які прадугледжваецца іх аграрнай праграмай, соцыялізмам і ня пахне. Аўстра-марксыцкая „соцыялізацыя буйнага лесаўладаньня“ зьяўляецца чыста буржуазнай рэформай, якая ў выпадку свайго ажыцьцяўленьня склала-б глебу для разьвіцьця дзяржаўнага капіталізму ў ляснай гаспадарцы і дала-б штуршок далейшаму разьвіцьцю індывідуальнай таварнай сельскай гаспадаркі. Самая звычайная буржуазная рэформа тут, як і ўсюды, прыкрываецца соцыялістычнай фразэолёгіяй.

Таксама мала соцыялізму і ў падзеле „соцыялізацыя сельска-гаспадарчага буйнага землеўладаньня“.

У праграме прызнаецца карыснасьць буйнай сельскай гаспадаркі ў адносінах да дробнай, але гэта зусім не азначае, што буйная сельская гаспадарка заўсёды перамагае дробную. О. Баўэр у сваей кнізе „Барацьба за зямлю“ зусім правільна адзначае, што перамога буйнай сельскай гаспадаркі над дробнай будзе залежаць ад таго, наколькі розьніца ў вытворчасьці буйнай сельскай гаспадаркі, больш прэміі на самастойнасьць дробнай. Буйная гаспадарка прадукцыйней дробнай, але дробныя гаспадары (арэндатары, дробныя зямельныя ўласьнікі), шануючы сваю самастойнасьць, маючы магчымасьць задаволіцца меншым прыбыткам, нават прыбыткам ня вышэй (а часам і ніжэй) заработнай платы наймовага рабочага, могуць плаціць больш за арэндованую ці купленую зямлю, могуць утрымаць сваю дробную гаспадарку. Розьніцу паміж арэнднай платай і цаной зямлі, якую можа плаціць дробны гаспадар ў параўнаньні з буйным, О. Баўэр называе прэміяй за самастойнасьць. Калі розьніца ў прадукцыйнасьці буйнай сельскай гаспадаркі вышэй прэміі за самастойнасьць, якую могуць выплачваць дробныя гаспадары, зямля пераходзіць у рукі буйнага арандатара. Калі розьніца ў прадукцыйнасьці ніжэй прэміі за самастойнасьць, зямля пераходзіць у рукі дробнага арандатара. Буйная сельская гаспадарка прадукцыйней дробнай, а пагэтаму ў аўстрыйскай праграме на буйную сельскую гаспадарку ўскладаюцца задачы падвышэньня тэхнікі дробнай сельскай гаспадаркі.

Праграма выхоўвае патрабаваньне адчужэньня і перадачы дзяржаве буйнага землеўладаньня. Тая частка нацыяналізаванай зямлі, якая не знаходзілася ў апрацоўцы буйных маёнткаў, перадаецца абшчынам для падзелу паміж сялянамі, альбо для здачы дробным арандатарам. Тыя-ж буйныя маёнткі, якія існавалі, як буйнае капіта-

лістычнае сельска-гаспадарчае прадпрыемства, захоўваюцца, як буйныя *калектыўныя* сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы. Але... „там і да тых часоў пакуль няма яшчэ прадпасылак для рацыянальнай калектыўнай арганізацыі вытворчасьці“,—гаворыцца ў праграме,—„буйныя прадпрыемствы перадаюцца ў арэнду самым здольным сельскім гаспадаром. Арандатары бяруць на сябе абавязак прадстаўляць маёнткі, як паказальныя для мэт сельска-гаспадарчай адукацыі, а таксама акружаючых сялянскіх гаспадарак, праводзіць у іх сельска-гаспадарчую дасьледчую работу, прадстаўляць ў распараджэньне сялян, на магчыма карысных умовах насеньне, завадзкую жывёлу і машыны“.

Дакладчык па аграрнаму пытаньню на партэйтазе, О. Баўэр, таксама лічыць, што буйнае земляўладаньне павінна быць адчужана, нацыялізавана; падзяліць яго паміж дробнымі сялянамі змаглі-б заставіць толькі ўнеэканамічныя прычыны, як скажам, такая-ж мера з боку Венгрыі „ў інтарэсах аховы ўсходняй граніцы рэспублікі“, але-ж, бачыце, кіраваць гэткімі буйнымі маёнткамі, абярнуць іх ў дзяржаўныя, у вогнішчы соцыялістычнай гаспадаркі „мы ня зможам“. Ён піша: „Але мы ня зможам, аднак, кіраваць гэтымі, застаўшыміся па адчужэньні буйнага земляўладаньня маёнткамі, як дзяржаўнымі прадпрыемствамі. Пры мэтазгоднай арганізацыі кіраўніцтва дзяржава здольна, вядома, рацыянальна кіраваць буйнымі ляснымі прадпрыемствамі, але бюракратычнае кіраўніцтва буйнымі сельска-гаспадарчымі прадпрыемствамі нідзе сябе не апраўдала“. Відаць Баўэраўская „пролетарская дзяржава“ абавязкова бюрократычная і зможа кіраваць толькі бюрократычна. Ці патрэбна перадаць гэтыя маёнткі вытворчым арцелям, альбо грамадзкім эканамічным органам. На гэтае пытаньне Баўэр таксама адказвае адмоўна. Пачынаецца старая байка міжнародных соцыял-здраднікаў аб тым, што неабходна асаблівая падрыхтоўка да кіраўніцтва гэтымі маёнткамі. Баўэр ня ведае, што рабочы, толькі на кіруючай рабоце, толькі ў процэсе работы навучаецца кіраваць, ён ня ведае, што адна з асаблівасьцяй пераходнага пэрыяду і складаецца з таго, што рабочая кляса вучыцца кіраваць дзяржавай, коопэрацыяй, гаспадаркай, хаця гэта вучоба часамі і дорага абыходзіцца, але з другога боку, зьяўляецца адзіным сродкам сапраўднай вывучкі і падрыхтоўкі да кіраўніцтва. Ён піша (гл. яго кніжку „Барацьба за зямлю“ стар. 207): „Рабочая кляса толькі паступова ў працэсе шматгадовай барацьбы, шматгадовай работы ў профсаюзах і фабрычных камітэтах набывае інтэлектуальныя і маральныя якасьці для рацыянальнага кіраўніцтва арцельным, альбо грамадзка-эканамічным прадпрыемствам. Вельмі магчыма, што адчужэньне буйнага сельска-гаспадарчага земляўладаньня наступіць у той момант, калі сельска-гаспадарчыя рабочыя, уступіўшыя ў клясавую барацьбу значна пазьней прамысловых рабочых, яшчэ не пасьпелі ў дастатковым стане набыць гэтае якасьці“. Значыць, трэба іх аддаць ў арэнду арандатарам капіталістым. Ну, а гэтыя буйныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы павінны будуць па Баўэру (як мы ўжо знаем з праграмы) выконваць тыя-ж функцыі, якія ў нас ляжаць на савецкіх гаспадарках. Ён піша: „Дзяржава ўскладае на арандатараў абавязак зрабіць свае маёнткі ўзорнымі для аказаньня паслуг усёй сельскай гаспадарцы, у асаблівасьці суседняй сялянскай гаспадарцы, абавяжа клапаціцца аб разьвіцьці на іх пад дзяржаўным кантролем дасьледчых станцый, прадастаўляць сваю гаспадарку да паслуг сельска-гаспадарчага выкладаньня, прадпіша ім адпускаць сялянам добрае насеньне, прадстаўляць у іх распараджэньне па меры магчымасьці завадзкую жывёлу і машыны. Такім чынам, сельска-гаспадарчыя буйныя прадпрыемствы, кіруемыя буйнымі арандатарамі

дзяржаўнай уласнасьці, будуць выконваць свае спэцыяльныя функцыі ў агульным жыцьці нашай сельскай гаспадаркі значна лепш, чым у сучасны час“ (Там-жа стар. 208).

Ясна, што ў гэтай „социялізацыі буйнага сельска-гаспадарчага зямляўладаньня“ таксама мала социялізму, як і „социялізацыі буйнага лесаўладаньня“.

І сапраўды, да чаго зводзіцца ўся гэта „социялізацыя?“. Як лёгка ўпэўніцца з вышэйсказанага, уся справа тут фактычна зводзіцца да адчужэньня буйнага прыватнага земляўладаньня і да яго нацыяналізацыі. Невядома яшчэ, што лічыцца буйным земляўладаньнем і якім шляхам гэтая нацыяналізацыя зямлі будзе праводзіцца: з выкупамі ці бяз выкупаў. Хаця мы адказу на гэтыя пытаньні ў аўстра-марксыстаў не знаходзім*), усё-ж, знаючы ўсю іх „рэволюцыйную сьмеласьць і рашучасьць“, можна вельмі сумнявацца ў тым, ці адважацца яны на дарэмнае адчужэньне хоць-бы буйнейшага зямляўладаньня. А ад адчужэньня буйнага зямляўладаньня з выкупам можа здарыцца адно з двух: альбо абцяжараньне выкупамі, выплатамі і падаткамі дробнага сялянства, падвышэньне арэнднай платы (для пакрыцьця выкупных выплат) дробным арандатарам, альбо... патрабуецца столькі сродкаў, што дзяржава зусім ня будзе мець магчымасьці праводзіць такое адчужэньне. Але дапусьцім, што буйнае земляўладаньне адчужана, што нацыяналізацыя зямлі праведзена. Ліквідаваньне прыватнай уласнасьці на зямлю зараз ставіць аднаасабовых сельскіх гаспадароў сялян альбо арандатараў у больш спрыяючае становішча, чым яны былі-б, пры неабходнасьці купляць зямлю альбо плаціць высокую арэндную плату, але спосаб вытворчасьці гэтым ніколі не парушаецца і індывідуальная сельская гаспадарка ня зьнішчаецца. Таварная сельская гаспадарка працягваецца і далей, а гэта значыць, што разьвіцьцё капіталізму ня спыняецца. Дык нацыяналізацыя зямлі сама па сабе не зьяўляецца социялістычнай мерай. Марксызм заўсёды ўпэўніваў, а з гэтым калісь згаджаліся Бауэры і і Каутскія, што нацыяналізацыя зямлі ня толькі не разбурвае капіталізму, а зьяўляецца, наадварот, лепшай глебай для яго разьвіцьця.

„Пры дробным земляўладаньні,—гаворыць Маркс,—цана зямлі, гэта форма прыватнай уласнасьці на зямлю і вынік такой уласнасьці, выступае сама як абмежаваньне вытворчасьці. Пры буйным зямляўладаньні і пры буйнай пазямельнай уласнасьці заснованай на капіталістычным спосабе гаспадаркі, уласнасьць таксама зьяўляецца абмежаваньнем, так як яна сьціскае фэрмера ў вытворчых выдатках капіталу, прыносячых карысьць у апошнім рахунку не яму, а земляўласьніку“ (Капітал. 3 том, 2 частка, стар. 345—347).

А К. Каутскі, былы калісь-та марксысты, а цяпер тэорэтычная мумія згніваючага рэфомірсцкага інтэрнацыяналу, у сваёй кнізе „Марксызм“ аграрнае пытаньне і пісаў:

„Раздваеньне ўладаючага зямлёй сельскага гаспадара на земляўласьніка і прадпрыемцу зьяўляецца натуральна-неабходным вынікам прыватнай уласнасьці на зямлю пры капіталістычным спосабе вытвор-

*) У гэтых адносінах праграма Германскай с-д карысна адрозьніваецца ад аўстрамарксысцкай. У праграме германскай с.-д. проста гаворыцца: „Мы далей патрабуем, каб тая частка буйных сельска-гаспадарчых уладаньняў, якая перавышае максымальную ў даных умовах велічыню для нямецкага ўсходу, прыкладна 750 гкт.—была *ўступлена дзяржаве за ўзнагараджэньне*, вылічваемае па падатковым стаўкам гэтых маёнткаў“ (Социял-дэмократычная аграрная палітыка, тлумачэньне да социял-дэмократычнай аграрнай праграмы Купэра і Ф. Баадэ на ням. мове). Адчужаецца толькі астатак даволі буйных маёнткаў,—для нямецкага ўсходу 750 гкт. і то з паўнацэнным выкупам. Хаця і цынізм і зьдзек, але затое якая прывабная шчырасьць!

часьці. Але гэты-ж падзел стварае магчымасьць зьнішчэньня прыватнай уласнасьці на зямлю нават тады, калі яшчэ няма ўмоў для зьнішчэньня прыватнай уласнасьці на іншыя сродкі сельска-гаспадарчай вытворчасьці. У краінах з арэнднай сыстэмай гэта можа адбыцца шляхам пераходу зямлі к дзяржаве, г. зн. аграмаджаньня зямлі; у краінах з іпотэчнай сыстэмай—шляхам пераходу к дзяржаве іпотэк. Умовы для гэтага тым больш спрыяючы, чым больш концэнтрацыя ў руках нямногіх асоб (пры арэнднай сыстэме) зямельнай уласьнасьці альбо гіпотэк (пры ўладніцкай гаспадарцы)" (Каутскі—Марксызм і аграрнае пытаньне, выд. 1899 г.). Дык толькі нашыя народнікі і рэвізіяністыя маглі „отождествлять“ абшчынную альбо дзяржаўную ўласнасьць на зямлю з соцыялізмам і маглі на гэты конт даваць усякія соцыялістычныя ілюзіі. Ленінская-ж крытыка народніцтва ў гэтым пытаньні ў свой час карысталася поўным прызнаньнем цяперашніх, так званых „левых“ соцыял-дэмократаў. А Ленін, маючы на ўвазе эканамічныя ўмовы у Расіі (што ў даным выпадку справы не мяняе) пісаў:

„Эканамічнае значэньне нацыяналізацыі зусім ня ў тым, дзе яго скрозь і ўсюды шукаюць. Не ў барацьбе з буржуазнымі адносінамі складаецца яна (нацыяналізацыя—самая пасьлядоўная буржуазная мера, як даўно паказаў Маркс), а ў барацьбе з прыгоннымі адносінамі. Стракатасьць сярэднявяковага земляўладаньня тармазіць гаспадарчае разьвіцьцё, саслоўныя рамкі мяшаюць гандлёваму звароту; неадпаведнасьць старога земляўладаньня і новай гаспадаркі параджаюць вострыя супярэчнасьці; абшарнікі, дзякуючы латыфундыям, зацягваюць існаваньне адработкаў; сяляне запёрты ўсё роўна як у гэтто ў надзельныя земляўладаньні, рамкі якога жыцьцё ламае на кожным кроку. Нацыяналізацыя зьмятае ўсе сярэднявяковыя адносіны ў земляўпарадкаваньні да чыста, зьнішчае ўсе штучныя перагародкі на зямлі, робіць зямлю сапраўды вольнай. Для каго? Для ўсякага грамадзяніна? Нічога падобнага. Воля бязконнага селяніна (гэта значыць $3^1/_4$ мільёнаў двароў) складаецца, як мы бачылі, з таго, каб здаваць надзельную зямлю. Зямля становіцца вольнай, для *гаспадара*, для таго, хто сапраўды ня хоча і *ня можа* абрабляць яе так, як гэта патрабуюць сучасныя ўмовы гаспадаркі наогул і міравога рынку ў прыватнасьці. Нацыяналізацыя паскорыла-б сьмерць крапасьніцтва і разьвіцьця чыста буржуазнага фэрмэрства на вольнай ад усялякага сярэднявяковага сьмецьця зямлі. Вось сапраўднае гістарычнае значэньне нацыяналізацыі ў Расіі, як яна зложылася да канца XIX сталецьця“ (Ленін, IX том, выд. ГИЗ 1925 г. стар. 657—658).

Таварная гаспадарка заўсёды параджае капіталізм. Уся гісторыя апошняй эпохі, у асаблівасьці апошняга сталецьця сведчыць аб узьнікненьні і разьвіцьці капіталізму з нетраў сялянскае гаспадаркі. Як гэта праходзіць, паказалі нам даволі пераканаўча Маркс і яго вучні. Дзе ёсьць рынак, там маецца глеба для разьвіцьця капіталізму; канкурэнцыя тавараvытворцаў на рынку немінуча прыводзіць да перамогі і посьпеху адных і загубы другіх. Адны становяцца багацей, пачынаюць укладаць больш капіталу, пачынаюць прымяняць наймовую працу, другія разбураюцца, бяднеюць, ва ўсякім выпадку трацяць усякую магчымасьць утрымаць сваю самастойнасьць і, такім чынам, становяцца пролетарамі, альбо паўпролетарамі. І калі пры Савецкай уладзе, пры сапраўднай, а не бауэраўскай „пролетарскай уладзе“ пры дыктатуры пролетарыяту, якая праводзіць калектывізацыю сельскае гаспадаркі, якая падтрымлівае бедняка і серадняка і вядзе рашучую барацьбу з кулацка-нэпманаўскімі элемэнтамі гораду і вёскі, усё-ж пры наяўнасьці таварнай гаспадаркі маюцца дадзеныя для росту

капіталізма, дык ці можна быць няпэўным у разьвіцьці з індывідуальнай сельскай гаспадаркі поўэксплёататарскага тыпу самага сапраўднага капіталізму ў бауэраўскай дэмократычнай рэспубліцы? Дробныя колькасныя маёмасныя розьніцы, нават пры адсутнічаньні прыватнай уласнасьці на зямлю і пры адсутнічаньні на першы час эксплёатацыі, паступова зьмяняюцца ў якасную розьніцу, гэта значыць няўхільна з больш заможнага самастойнага таваравытворцы вырастае капіталіст. А сапраўды-ж на бауэраўскай нацыяналізаванай зямлі ніякая соцыялістычная сельска-гаспадарчая вытворчасьць і не вядзецца. З аднаго боку, дробныя арандатары і сяляне, з другога—буйныя капіталісты-арандатары. Праўда, аўстра-капіталістычныя сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы з працягам часу зьмяняюцца ў соцыялістычныя. На іх яны, як мы раней бачылі, і ўскладаюць абавязак аказаньня дапамогі індывідуальнай сельскай гаспадарцы. Але з бауэраўскага разуменьня пераходнага пэрыяду ня відаць пераходу гэтых буйных капіталістычных сельска-гаспадарчых прадпрыемств у соцыялістычныя, іх функцыі і палітычная вага ў бауэраўскай дэмократычнай дзяржаве, пры яго гэтак званай „пролетарскай“ уладзе настолькі значны, што яны паступова будуць мець магчымасьць забараніць свае капіталістычныя інтарэсы (права на арэнду); па-другое, таму, што ніякая гаспадарчая дэмократыя ня створыць тых кадраў кіраўнікоў, пры наяўнасьці якіх, згодна тэорыі аўстра-марксыстаў, можна толькі адважыцца на соцыялізацыю буйнай сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Не такім шляхам падрыхтоўваюцца кіраўнікі *соцыялістычнай* вытворчасьці. Для такога кіраўніцтва неабходны зусім другія якасьці, якіх на капіталістычным прадпрыемстве не здабудзеш. Самаахвярнага работніка, адданага, натхнёнага соцыялістычным будаўніцтвам барацьбіта працоўнага фронту, ніякая „гаспадарчая дэмократыя“, ніякія парытэтныя камеры, ніякае згодніцтва „Бетрыбсрэтэ“ даць ня змогуць. Выхаваць сапраўдных кіраўнікоў соцыялістычнай гаспадаркі зможа толькі сама гэта соцыялістычная гаспадарка, як соцыялістычная прамысловасьць, так і соцыялістычная сельская гаспадарка.

Падрыхтоўка кадраў сапраўды зьяўляецца аднэй з важнейшых задач пролетарскай дзяржаўнай улады. Савецкая ўлада рыхтуе ўсё новых і новых кіраўнікоў соцыялістычнай гаспадаркі ня толькі ў навучальных установах. Вялікую ролю ў справе падрыхтоўкі кадраў адыгрывае і работа ў партыі, профсаюзах, саветах, коопэрацыі, грамадзкіх організацыях, работа па ўзьняцьцю вытворчасьці працы, па соцыялістычнай рацыяналізацыі, якая ў апошні час прыняла характар шырокага разгорнутага соцыялістычнага спаборніцтва паміж фабрыкамі і заводамі, саўгаспадаркамі, камгаспадаркамі, соцыялістычнае спаборніцтва нават цэху з цэхам і рабочага з рабочым. Усё гэта мае адну мэту—разьвіцьцё соцыялістычнай гаспадаркі. Буйнейшае значэньне ў справе падрыхтоўкі здольных, умелых будаўнікоў *соцыялістычнай* гаспадаркі, мае таксама ўся наша сыстэма высоўваньня рабочых на кіруючую работу, у асаблівасьці высоўваньне на кіруючую гаспадарчую работу. *Вось як на справе* падрыхтоўваюцца кадры ў пераходны пэрыяд ад капіталізма да соцыялізму.

Ці можна сур'ёзна гаварыць аб *такой* падрыхтоўцы соцыялістычных кадраў, людзей абладаючых „моральнымі і інтэлектуальнымі якасьцямі“, якія патрабуюцца ад разбурыцеля капіталізму і будаўнікоў соцыялізму, пры мэтадах бауэраўскай „пролетарскай ўлады“? Стоіць толькі азнаёміцца з аўстра-марксыцкай аграрнай праграмай і ўсімі пісаньнямі аўстра-марксыстаў, каб зразумець усю недарэчнасьць такога дапушчэньня. Дык не садзейнічаньнем-жа росквіту буйнай ка-

піталістычнай сельскай гаспадарцы,—а ў гэтым і будзе складацца гэта „соцыялістычная“ вучоба—будзе выхоўвацца соцыялістычная псыхолёгія. Ці ня будзе ўсё гэта „Бетрыбсрэтэ“ і ўся „гаспадарчая дэмократыя“, як у капіталістычнай прамысловасьці, так і ў капіталістычнай сельскай гаспадарцы памагаць росту новай рабочай арыстакратыі, моцна зьвязанай з капіталізмам?

Такім чынам мы прышлі к выніку, што аўстра-марксысцкая буйная капіталістычная сельская гаспадарка ў сапраўднасьці зьяўляецца буйнай капіталістычнай сельскай гаспадаркай на нацыяналізаванай зямлі, у лепшым выпадку капіталізмам дзяржаўным, „пад дзяржаўным кантролем“, праўда, вельмі проблематычным. А ўся тэорыя пераходу аўстра-марксыстых гэтага дзяржкапіталізму ў соцыялізм зьяўляецца альбо глупствам, альбо двудушніцтвам, альбо тое і другое разам.

Вось як выглядзяць „камандныя высоты“ аўстрыйскага „соцыялізму“. Як мы раней бачылі, буйным капіталістычным сельска-гаспадарчым прадпрыемствам, арандатарам дзяржаўнага маёнтку будзе дадзена ў абавязак аказаньне дапамогі індывідуальнай сельскай гаспадарцы. Ці павінна гэта „дапамога“ служыць перарабленьню дробнай сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад, пераходу яе ў соцыялістычную? Здаецца, што звычайная „дапамога“ індывідуальнай сельскай гаспадарцы, тым больш з боку капіталіста-арандатара, трошкі малавата для перарабленьня гэтае гаспадаркі на соцыялістычны лад. Ці ня будзе такая „дапамога соцыялізму“ садзейнічаць замацаваньню больш моцных, больш заможных сялянскіх гаспадарак, ці ня прывядзе яна да яшчэ большага распластаваньня вёскі? Тым больш, што адчуваючы патрэбу ў рабочай сіле, гэтыя буйныя капіталісты-арандатары будуць старацца захаваць для сябе вядомую частку бяднейшага сялянства як пралетарыяў з надзелам.

„У капіталістычным грамадзтве,—гаворыцца ў аграрнай праграме, аўстра-марксыстаў,—рухаючым матывам думак і дзеяньняў чалавека зьяўляецца пагоня за прыбыткам. Толькі соцыялістычнае грамадзтва абудзіць у масах, у працэсе сваёй пабудовы *калектывістычнае мысьленьне* і складзе такім шляхам псыхолёгічныя прадпасылкі самага высокага разьвіцьця сялянскага коопэраваньня (протаколы Венскага партэйтагу, стар. 169)“, О. Баўэр у сваёй кнізе „Барацьба за зямлю“ гаворыць аб абшчынным соцыялізьме, заснаваным на абшчынным землеўладаньні, абслугоўваючым індывідуальныя сельскія гаспадаркі. З усяго тэксту аграрнай праграмы, таксама з яе астатняй часткі, якая спэцыяльна трактуе аб пераходзе да соцыялістычай сельскай гаспадаркі, мы даведваемся аб задачах пераходу ў дзяржаўнае кіраўніцтва іпотэк, зьнішчэньні эксплёатацыі сялянства з боку банкавага і гандлёвага капіталу, разьвіцьця коопэрацыі. Выходзіць, што абшчынны соцыялізм зьвядзецца да гэтых мерапрыемстваў. Няўжо-ж можна сур'ёзна ўсе гэтыя мерапрыемствы, якія самі па сабе ня выходзяць з рамак капіталістычнага грамадзтва „отождествлять“ з соцыялізмам? Пры дзяржаўным капіталізьме ў ляснай і сельскай гаспадарцы, пры адсутнічаньні клясавага падыходу да паасобных пластоў сялянства пры неабмежаваным разьвіцьці нават кулацкай гаспадаркі, лічыць коопэрацыю шляхам да соцыялізму могуць толькі рэвізіяністыя.

І як бы аўстра-марксысты на чале з Баўэрам ня прыкрывалі сваю рэвізіянісцкую сутнасьць „соцыялістычнай фразэолёгіяй“, гэты рэвізіянізм выплывае на двор. Дык і старыя-ж рэвізіяністы ўсе свае буржуазныя рэформы выдавалі за соцыялізм. Пісаў-жа правадыр рэвізіяністаў Э. Давід, калісь-та:

„У той час калі марксысцкія тэорыі стараліся на свой лад асвоіць і парадніць селяніна з социялізмам, сам селянін старанна працаваў над тым, каб на свой уласны лад прачысьціць шлях да соцыялізму. Ён не засноўваў камун, землеробчых вытворчых таварыстваў, якія яму былі рэкамэндаваны, але ён выступаў з свайго ізоляваньня і аб'яднаўся з раўнымі сабе ў таварыствах для закупкі, крэдыту і продажу" (Давід— „Соцыялізм і сельская гаспадарка", выд. 1906 г. 37 ст. Агульная карысьць).

А ў чым-жа другім будзе выражацца абслугоўваньне індывідуальных сельскіх гаспадарак так званым абшчынным соцыялізмам, як ня ў гэтым. Рэвізіяністы не прызнавалі бясклясавасьці соцыялістычнага грамадзтва. Яны сабе прадстаўлялі і пры соцыялістычным грамадзтве існаваньне дробнага сельска-гаспадарчага вытворцы і рамесьніка і нават наймовай працы... Таксама глядзяць на соцыялізм і аўстра-марксысты. І ў іх соцыялізм (а яны ня робяць розьніцы паміж соцыялізмам і комунізмам) не зьяўляецца бязклясавым грамадзтвам. Сялянства, згодна аграрнай праграмы аўстрыйскіх соцыял-дэмократаў, гэта такая кляса, якая наогул заўсёды існуе. Яна існавала і да фэодалізму, яна існавала пры фэодалізьме, яна існуе пры капіталізьме і яна будзе існаваць пры соцыялізьме (гл. пратаколы, стар. 168).

„Левы" аўстра-марксызм, такім чынам, змыкаецца з рэвізіянізмам. Але гэты поўны адыход ад марксызму па мастацку маскуецца „левай" „соцыялістычнай", амаль „бальшавіцкай" фразэолёгіяй. Ні аб якім сапраўдным соцыялізьме аўстра-марксысты і не памысьляюць.

Як для ўсіх рэвізіяністых, соцыялізм для іх зьяўляецца ідэалам вельмі далёкага будучага, над ажыцьцяўленьнем якога рэальным політыкам наогул няма чаго галаву ламаць. Калі толькі хто яшчэ ў гэтым сумняваецца, калі яшчэ патрэбны довады гэтаму, дык ня цяжка знайсьці ў аўтарытэтнейшага правадыра аўстра-марксыстых, О. Баўэра. У сваёй, ужо ня раз цытаванай намі кнізе „Барацьба за зямлю", ён піша: „Ці сапраўды, як думае Каўтскі, *на больш позьняй ступені разьвіцьця* (курсіў наш *Ш. Г.*) соцыялістычнага грамадзтва, пяршынство самастойнай работы на ўласнай паласе зьнікне да такой ступені, сяляне будуць аб'яднаць свае дзялянкі ў арцельныя буйныя прадпрыемствы, каб мець магчымасьць карыстацца пяршынством, перавагамі больш высокай вытворчасьці працы, даваемымі буйнымі прадпрыемствамі,—залежыць ад тэхнічных і масавых псыхолёгічных працэсаў, якія ў сучасны момант не падаюцца ніякаму прадугледжваньню. Гэта пытаньні яшчэ *аддалённай* (курсіў наш. *Ш. Г.*) гістарычнай эпохі, спрачацца па поваду якіх зараз бескарысна" (гл. „Барацьба за зямлю" стар. 210).

Так выглядае соцыялізм „левай" аўстрыйскай с-д.

Цяпер паставім пытаньне, зачым патрэбна была такая аграрная праграма, такая мешаніна мнімага марксызму з рэверансамі, нават у бок бальшавізму, з сапраўдным рэвізіянізмам? Гэта тлумачыцца даволі проста. Соцыялістычнай вывескай трэба ўтрымаць рабочых у сябе, а рэформісцкім зьместам праграмы заваяваць на свой бок уласьніцкія элемэнты вёскі, нават кулацка-капіталістычныя, якім аўстра-марксысцкая аграрная „рэволюцыя" ня толькі нічым не пагражае, але можа аказацца нават карыснай. Усё гэта аўстрыйскім „левым" неабходна для лоўлі галасоў, для атрыманьня большасьці ў парламанце, альбо, як яны называюць, заваяваньня ўлады пралетарыятам". Гэтаму дробна-буржуазнаму фэтышу прыстасавана ня толькі аграрная, але і ўся праграма аўстра-марксыстых, у прыватнасьці пытаньне аб адносінах да рэлігіі. Яны не прызнаюць несумяшчальнасьці марксызму з рэлігіяй,





Інв. 1953 г. 84 852

не прызнаюць яе шкоды для клясавай самасьвядомасьці рабочае масы, яе шкоды для соцыялізму. „Рэлігія,—прыватная справа“,— пяюць аўстра-марксыстыя, у унісон з астатнімі соцыял-здраднікамі II Інтэрнацыяналу. Што ўся гэта прыстасавальная тэорыя аўстра-марксыстых разьлічана на лоўлю галасоў, аб гэтым яны самі ня раз выказваліся як да Венскага партэйтагу, так і на самым партэйтазе і пасьля яго. Так, канчаючы свой даклад па аграрнай праграме, О. Бауэр, заявіў што *„ў гэтай праграме ляжыць магчымасьць стаць настолькі моцнымі, каб зрабіцца панамі рэспублікі,* і ажыцьцяўляць, усё, што нам неабходна“. Адзін з аратараў, выступаўшы у спрэчках па дакладу—Гоффэнрайх—хваліўся што, дзякуючы рабоце сярод сялянства, яны ў маленькай абшчыне адваявалі 70 галасоў у хрысьціянскіх соцыялістаў. Гэтае імкненьне „заваяваньня ўлады“ для сваёй партыі пасярэдніцтвам выбарчага бюлетэню, абяцаючы ўсякія рэформы,—кіравала выступленьнямі астатніх.

### IV. Левая фраза—буржуазна-рэформісцкая сутнасьць.

Падвядзем некаторыя падрахункі. З сказанага вышэй мы маглі, такім чынам, упэўніцца, да чаго зводзіцца ўся „левізна“ аўстра-марксыстых у аграрным пытаньні. Пачаўшы з прызнаньня заслуг бальшавізму, прымяняючы „левую“, часамі амаль бальшавіцкую тэрмінолёгію, аўстра-марксызм да непазнаваемасьці скажае яе сэнс і значэньне. Яго тэорыя саюзу з сялянствам па сутнасьці нічым не адрозьніваецца ад рэвізіянісцкай тэорыі такога саюзу. Ад такога саюзу рабочае клясы з сялянствам не пацерпіць буржуазны лад, а, наадварот, паслужыць яшчэ большаму замацаваньню гэтага ладу. Яго соцыялізацыя буйнага леса-ўладаньня і буйнай сельскай гаспадаркі фактычна зводзіцца да дзярж-капіталізму ў лясной гаспадарцы і да разьвіцьця капіталістычнай і дзяржаўна-капіталістычнай сельскай гаспадаркі на нацыяналізаванай зямлі. Яго „Абшчынны соцыялізм“, у лепшым выпадку, зводзіцца да зьнішчэньня эксплёатацыі сялянства землаўласьнікамі, працэнтшчыкамі і гандлёвым капіталам, а гэта вызначае,—да зьнішчэньня ўсіх перашкод для разьвіцьця капіталізму ў сельскай гаспадарцы.

Яго „Камандныя высоты“, якія павінны зьяўляцца паказальнымі для акружаючай сялянскай гаспадаркі, на справе могуць быць сапраўды паказальнымі капіталістычнымі прадпрыемствамі, прычым шляхі замены гэтых дзярж. капіталістычных сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў зусім ілюзорны.

З аўстра-марксысцкага „пераходнага пэрыяду“ наогул ніякага пераходу да соцыялізму ня відаць. Усё прыстасоўваньне аўстра-марксыстаў, адмаўленьне ад барацьбы з рэлігіяй і нават скарыстаньне яе ў сваёй агітацыі, апраўдваецца аўстрыйскімі „левымі“ соцыял-дэмократамі з пункту погляду заваяваньня большасьці ў парламанце.

Аўстра-марксызм здае ўсе позыцыі рэвізіянізму. Ён зьяўляецца на словах марксызмам, а на справе сапраўдным дробна-буржуазным рэформізмам. Для абмену рабочых аўстра-марксызму карысна яшчэ маскавацца пад чырвоны колер. Вось чаму „левый“ аўстра-марксызм зьяўляецца найбольш небясьпечным ворагам у разгортваючайся клясавай барацьбе. Рабочыя павінны ў канцы канцоў раскусіць, што „левыя“ зьяўляюцца толькі зручным прыкрыцьцём правых як ва ўсім сьвеце, так і ў Аўстрыі. Гэтаму праясьненьню клясавага самасазнаньня рабочае клясы ня мала дапаможа і сама практыка так званай „левай“ с.-д. Аўстрыйская камуністычная партыя будзе заваёўваць такія пласты сялянства і такія сродкі, якія сапраўды забясьпечаць перамогу соцыялізму.

---

**М. Карклін.**

# За плян сацыялістычнага наступленьня.

## I.

Далейшы этап канкрэтнага сацыялістычнага будаўніцтва на Беларусі, узгоднены з агульным плянам сацыялістычнага будаўніцтва ўсяго Савецкага Саюзу, ухвалены цяпер IX зьездам Саветаў БССР у выглядзе пяцігадовага пляну народна-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва 1928-29—1932-33 г. г., мае ў сабе наступныя мэтавыя ўстаноўкі:

*Папершае,* захаваць і ўзмацніць генэральны курс камуністычнае партыі на індустрыялізацыю СССР і БССР і асабліва разьвіцьцё тых кіруючых галін прамысловага будаўніцтва, якія зьяўляюцца асноўнымі для індустрыялізацыі краіны.

*Падругое,* разьвіць узмоцнены тэмп сацыялістычнага перабудаваньня вёскі, стварыўшы гэтым магчымасьць значнага ўздыму сельскае гаспадаркі на аснове калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня, саўгаснага будаўніцтва, разьвіцьця індустрыялізацыі ў сельскай гаспадарцы, а таксама аказаньня ўсебаковае дапамогі індывідуальным бядняцка-серадняцкім сялянскім гаспадаркам.

*Патрэцяе,* значна палепшыць матар'яльны і культурны ўзровень рабочае клясы і шырокіх мас працоўных.

*Пачацьвертае,* узмацаваць і паглыбіць кіруючую ролю рабочае клясы і яе авангарду камуністычнае партыі і дыктатуры пралетарыяту ў барацьбе з клясавым ворагам.

*Папятае,* дабіцца яшчэ большага ўмацаваньня абароназдольнасьці краіны, памяншэньня аграрнае перанаселенасьці і беспрацоўя.

*Пашостае,* устанавіць такі тэмп разьвіцьця народнае гаспадаркі, які ў напружаным становішчы дапамагаў-бы і садзейнічаў-бы таму, каб дагнаць і перагнаць у бліжэйшы гістарычны тэрмін у тэхнічных і вытворчых адносінах перадавыя капіталістычныя краіны.

*Пасёмае,* няўхільна, узмоцнена і бяз хістаньняў разьвіць сацыялістычны сэктар гораду і вёскі за кошт памяншэньня капіталістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы.

У гэтых агульных мэтавых устаноўках сацыялістычнага будаўніцтва, такім чынам, адлюстраваны плян вялікага гістарычнага значэньня, плян барацьбы двух сьветаў—дзьвюх сыстэм будаўніцтва: сацыялістычнага і капіталістычнага.

Мы маем пяцігадовы плян, плян, які па сваёй мэтавай устаноўцы патрабуе штодзеннае і штогодняе зьмены гаспадарчых і клясавых сіл у краіне і закладкі пачаткаў арганізацыі бяскласавага сацыялістычнага грамадзтва.

Пяцігадовы плян ставіць мэтай ня толькі сапраўды прыцягнуць, але і зрабіць адказным за выкананьне пляну шырокі калектыў, шырокія масы працоўных, дзе рабочая кляса зойме месца ў якасьці кіраўніка і арганізатара шырокіх працоўных мас.

II.

Пяцігадовы плян намячае і патрабуе зьмен як арганічных, так і практычных форм у вядзеньні нашага плянавага гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва. Пяцігадовы плян патрабуе дасягненьня высокіх якасных і колькасных паказьнікаў як па тэмпе, так і аб'ёму за пяцігодзьдзе. Для прыкладу, падамо хаця-б некаторыя з іх. Так, напрыклад:

Трэба вытворчым каапэраваньнем аб'яднаць звыш 80% усяго налічча сялянскіх гаспадарак, прычым у першыя два-тры гады на 100% ахапіць усіх батракоў і ўсю вясковую беднату.

Трэба сацыялістычным сэктарам сельскае гаспадаркі ахапіць ня менш як 18% усяе пасеўнае плошчы пры аднachасовым росьце ўсяе пасеўнае плошчы на 15%.

Трэба на 100% увесьці ўсеагульнае навучаньне дзяцей 8—11-гадовага ўзросту з адначасовай ліквідацыяй няпісьменнасьці з 12-гадовага да 35-гадовага ўзросту.

Узьняць ураджайнасьць на 45%: па тэхнічных культурах на 50%; па саўгасах на 70% і калгасах на 60% (параўнальна з сярэднім ураджаем за апошнія чатыры гады).

Дабіцца ўвядзеньня машыннае апрацоўкі зямлі аграмаджаным парадкам ў разьмеры 36% усяе плошчы пахаці, пры гэтым замяніць саху на ўсе 100% плугам.

Узьняць энэргіфікацыю прамысловасьці з 33% *) да 88% *).

Узьняць прадукцыйнасьць працы па буйнай прамысловасьці на 100%, зьнізіць сабекошт ня менш як на 32% і патаніць будаўніцтва ня менш як на 35%.

Дабіцца росту аб'ёму валавое прадукцыі па ўсёй прамысловасьці звыш як на 330% пры сярэднім росьце валавое прадукцыі ў год каля 30%, а па прамысловасьці ВСНГ у сярэднім на 35% у год, пры росьце ліку рабочых на 142% з аднachасовым ростам рэальнае зарплаты ня менш як на 50% і ўвядзеньня ва ўсіх прадпрыемствах 7-гадзіннага рабочага дня.

Рост-жа сельска-гаспадарчае валавое прадукцыі па цэнах 1926-27 г. трэба мець на 54,5%, таварнае часткі каля 214%, пры росьце нормы харчаваньня сельскага насельніцтва на 30%.

Прычым ахват плянавымі загатоўкамі сельска-гаспадарчага сырцу давесьці з 36% да 80%.

Долю аграмаджаньня сэктару ў стварэньні матар'яльных каштоўнасьцяй у народнай гаспадарцы ўзьняць з 25% да 52,6%.

У структуры-ж насельніцтва дабіцца зьмены сацыяльнага і клясавага зьместу, шляхам павялічэньня ўдзельнае вагі наймовае працы, і ў ёй пралетарыяту; паменшыць непралетарскую працу як у абсалютным, так і ў адносным разьмеры, паменшыць буржуазныя і дэклясаваныя элемэнты ў краіне, як і паменшыць аграрную перанаселенасьць і беспрацоўе ў сельскай гаспадарцы і гарадох, пры адначасовым росьце ўдзельнае вагі ў насельніцтве асоб, занятых у прамысловасьці.

І, нарэшце, узмацніць падрыхтоўку новых кваліфікаваных кадраў для прамысловасьці і сельскае гаспадаркі ў ВНУ, тэхнікумах, прафшколах, фабзавучах, навучальна-рамесьніцкіх школах і розных курсах, павялічыўшы лік вучняў з 15 тыс. амаль да 40 тыс. чал. к канцу пяцігодзьдзя.

*) Усюды параўнаньне бярэцца з 1927-28 г., а канчатковы год 1932-33 г.

Гэты далёка ня поўны пералік намечаных тэмпаў і якасных паказьнікаў зусім ясна паказвае, якую тэхнічную і сацыялістычную рэканструкцыю намячае пяцігадовы плян, а таксама яскрава гаворыць за тое, што нашы тэмпы ня могуць ня быць напружанымі, калі мы сапраўды жадаем у бліжэйшы гістарычны тэрмін ня толькі дагнаць, але і перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны ў вытворчых і тэхнічных адносінах.

*Адным словам, ліміты сацыялістычнага будаўніцтва ў сваёй пэўнай частцы патрабуюць сьмелае рэвалюцыйнае думкі і ажыцьцяўленьня тэхнічнае і культурнае рэвалюцыі.*

Асабліва пры гэтым прыдзецца вылучыць пытаньні па хэмізацыі краіны (удзельная вага хэмічнае прамысловасьці ў самой прамысловасьці пакуль складае каля $^{1}/_{2}\%$; паводле пляну мяркуецца давесьці да $8\%$) і культурным манэўрам у тэхніцы і пытаньне ўкараненьня шырокіх культурных навыкаў ува ўсіх галінах нашае працы.

Усюды заклік культурна працаваць, высока-культурна арганізаваць плян, культурна, па пралетарску скарыстоўваць і перадаць на справу сацыялістычнага будаўніцтва ўсе свае сілы—павінен мець першае і рашаючае месца пры ажыцьцяўленьні нашых тэмпаў росту.

III.

Пяцігодка можа вырашыць намечаныя мэтавыя ўстаноўкі і якасныя і лімітныя паказьнікі толькі шляхам рашучага паляпшэньня плянавае, апэрацыйнае і арганізацыйнае работы, падняцьцем працоўнае дысцыпліны і лепшае арганізацыі ўсіх працоўных рэсурсаў краіны.

*Шляхам* правядзеньня ўзмоцненага тэмпу прамысловага будаўніцтва, рашучага ўздыму сельскае гаспадаркі і шырокага ажыцьцяўленьня сацыяльна-культурных мерапрыемстваў.

*Шляхам* мабілізацыі ўсіх сіл і сродкаў краіны, асабліва пры гэтым актыўна праводзячы як на прадпрыемствах, так і ў вёсцы і ў сацыяльна-культурных установах сацыялістычныя спаборніцтвы.

*Шляхам* правядзеньня ўсіх мер нашага росту пад кутом погляду клясавае пралетарскае лініі.

*Шляхам* правядзеньня сацыялістычнае рэконструкцыі і рацыяналізацыі ўсіх народна-гаспадарчых працэсаў.

*Шляхам* падвядзеньня высокае энэргетычнае і апалавае базы пад народна-гаспадарчае разьвіцьцё.

*Шляхам* шырокага ўвядзеньня калектыўнае працы асабліва ў распыленых сялянскіх гаспадарках.

*Шляхам* шырокага і глыбокага выяўленьня прыродных багацьцяў краіны.

*Шляхам* выяўленьня і скарыстаньня ўсё больш і больш патэнцыяльных рэсурсаў (г. зн. яшчэ скрытых сіл) краіны.

*Шляхам* глыбокай арганізацыі і перагляду структуры савецкага гаспадарчага апарату, ад якога вымагаецца гнуткае выконваньне сацыялістычнага пляну, (г. зн. за адзіны цэнтралізаваны плян, але за правільнае дэцэнтралізаванае выкананьне).

*Шляхам* стварэньня вялічэзнай актыўнасьці мільёнаў працоўных.

*Шляхам* шырокае крытыкі і самакрытыкі рабочае клясы, актыўнага ўдзелу сялян (беднякоў і сераднякоў) па выяўленьні і зьнішчэньні недахопаў.

І шляхам бязьлітаснага адпору ўсякім дробна-буржуазным хістаньням пры правядзеньні ленінскае лініі, адлюстраванае ў пяцігадовым пляне зусім практычна і перакладзенае на мову канкрэтных эканамічных і

тэхніка-эканамічных разьлікаў і ператоранае ў плян гаспадарчага будаўніцтва на надыходзячае пяцігодзьдзе, каб стварыць пасьпяховыя ўмовы для росту сацыялістычнага сэктару і тэмпу індустрыялізацыі краіны.

*Шляхам* сталага грамадзкага ўзьдзейнічаньня на клясавага ворага і бязупыннага памяншэньня яго сілы ў краіне, шляхам манэўраваньня прыватна-капіталістычнымі запасамі і жорсткай эканоміі сродкаў сацыялістычнага сэктару.

*Шляхам* культурнага росту шырокіх мас сялянства, толькі пры гэтым яны могуць больш поўна зразумець правільнасьць рабочага кіраўніцтва і ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў сацыялістычнага сэктару..

Такім чынам, за сыстэмай лічбовых калёнак хаваецца цэлая сыстэма сацыялістычных мерапрыемстваў, цэлая сыстэма дзеяньняў, якія паступова і хутка ператвараюць нашу народную гаспадарку і быт на новы— сацыялістычны лад.

## IV.

Пяцігадовы плян адлюстроўвае поўнасьцю лінію камуністычнае партыі на індустрыялізацыю краіны.

Гэты плян дае магчымасьць запраэктаваць рост ліку рабочых па рэспубліканскай прамысловасьці на 134% або прыблізна на 50 тыс. чалавек, у тым ліку ў буйнай прамысловасьці на 142% або прыблізна на 40 тыс. чалавек. Гэта бясспрэчна зьяўляецца і тым шляхам, толькі якім магчыма дасягнуць сацыялізму. Без індустрыялізацыі немагчыма было-б пабудаваць сацыялізм. Было-б барбарскім і азіяцкім недамысьлíем (калі-б такія думкі меліся) служыць сацыялізму без індустрыі.

Намечаныя да пабудовы за пяць год звыш 130 новых прадпрыемстваў-заводаў па рэспубліканскай прамысловасьці, 100 заводаў па акруговай прамысловасьці, каля 90 электрастанцый, з якіх дзьве раённага значэньня і каля 675—700 прадпрыемстваў па сельска-гаспадарчай індустрыялізацыі ў самым сяле, вёсцы, саўгасе і калгасе, прычым усе яны ў большасьці сваёй будуць працаваць ужо ў гэтую пяцігодку,— зьяўляюцца тымі культурнымі і кіруючымі сацыялістычнымі асяродкамі, якія вызначаюць і пэрспэктывы ня толькі для цэлага калектыву працоўных або паасобных груп яго, але і для паасобных індывідуумаў, якімі-б высокімі якасьцямі яны не ўладалі.

*Плян, які пабудаваны ў адпаведнасьці з пяцігадовым плянам разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры СССР і адпавядае асноўным гаспадарчым культурным і палітычным задачам, якія стаяць перад БССР, г. зн. па індустрыялізацыі краіны і сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі, уздыму сельскае гаспадаркі і яе калектывізацыі з умацаваньнем кіруючай ролі прамысловасьці, узьняцьця матар'яльнага і культурнага ўзроўню працоўных, умацаваньня абараназдольнасьці краіны і ажыцьцяўленьня задач культурнае рэвалюцыі і забесьпячэньня пасьпяховага сацыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі,—павінен сапраўды ўзьняць высокі энтузіязм, павінен мабілізаваць мільёны працоўных на справу сацыялістычнага будаўніцтва.*

Мы ня можам трактаваць пяцігадовы плян ізалявана ад суадносін і перагрупо зак клясавых сіл у краіне, і ня ўлічыць таго, што на даным этапе пераход на рашучыя рэйкі сацыялістычнага будаўніцтва і рэканструкцыя нямінуча павінна выклікаць абвастрэньне клясавае барацьбы і шалёнае супраціўленьне з боку капіталістычных элемэнтаў вёскі і гораду.

Адсюль і трэба ўвесь час памятаць, што плян магчыма ажыцьцявіць пры бязупынным наступленьні на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, інакш ён ня быў-бы плянам пралетарыяту, які будуе сацыялізм.

Ліквідацыя кан'юнктурных цяжкасьцяй, якія, як вядома, зьяўляюцца часовымі і вырашэньне якіх намечана і забясьпечана ў самым пляне поўнасьцю і дае па сутнасьці адказ, чаму плян-пяцігодка зьяўляецца таксама вялічэзным рабочым дакумантам, вялікім плянам работы, вакол якога павінны быць мабілізаваны ўсе сілы і сродкі, уся актыўнасьць рабочае клясы і працоўных гораду і вёскі.

Мы стаім перад глыбокай далейшай работай. Мы яшчэ не прапрацавалі акруговых плянаў, дзе прыдзецца сказаць ня толькі аб тым, што трэба зрабіць, а больш аб тым, як рабіць. Мы яшчэ не ўстанавілі дакладна поўнай эканамічнай ацэнкі і задач паасобных эканамічных раёнаў рэспублікі. На гэта цяпер трэба накіраваць усю сваю ўвагу і актыўнасьць, адкінуўшы з дарогі панікёраў і пэсымістых.

Бюджэт і кантрольныя лічбы народна-гаспадарчага пляну гэтага году мы ўжо будзем будаваць па намётцы другога году пяцігодкі з улікам нявыкананых мерапрыемстваў за першы год. Мы павінны, дзякуючы гэтаму, кожны год канчаць з такімі вынікамі, каб ня прышлося мець справу з „хвастамі“, з якімі цяжка будзе потым спраўляцца. Таму асаблівую ўвагу патрабуецца зьвярнуць на праектыроўку аб'ектаў і абгрунтаваньне геаграфічнага разьмяшчэньня.

Мы яшчэ не прыступілі да работы па зьмене і стварэньню больш гнуткіх форм выкананьня сацыялістычнага пляну. Гэта работа толькі распачата, яна пачынаецца з чысткі ад ненадзейных элемэнтаў савецкага апарату, якія абюракраціліся. Але гэта яшчэ ня ўсё, трэба ўнесьці арганічныя зьмены ў сувязі з агульным ростам і культурнасьці, і тэхнікі, і наогул пашырэньня праў па асобных галінах народнае гаспадаркі да такіх межаў, якія далі-б вялікую магчымасьць сьмялей выконваць задачы сацыялістычнага будаўніцтва. Канкрэтна кажучы, буйнейшыя задачы па гаспадарчым і культурным будаўніцтве, якія вынікаюць з пяцігадовага пляну, высоўваюць цэлы шэраг арганізацыйных праблем, вырашэньне якіх павінна ў радзе выпадкаў прывесьці да карэннае зьмены структуры існуючых арганізацыйных форм нашага будаўніцтва і рэгуляваньня.

Трэба тэрмінова ўсе неабходныя арганізацыйныя пытаньні вырашыць, палепшыць разам з чысткай і ўзмацніць савецкі апарат зьверху да нізу. Усё гэта павінна пайсьці пад такім кутом гледжаньня, што зьявішчы расхлябанасьці, слабой дысцыпліны, рабскае працы, павінны быць рашуча зьнішчаны, скінуты з тае шырокае дарогі, на якую становіцца пралетарыят для ажыцьцяўленьня пяцігодкі.

Вось чаму IX зьезд Саветаў БССР, які ўхваліў увесь плян сацыялістычнага будаўніцтва Беларусі, прыняў сваю пастанову з гарачым заклікам і патрабаваньнем:

а) павесьці рашучую барацьбу за поўнае выкананьне ўстаноўленых паводле пляну якасных паказьнікаў па вытворчасьці, па будаўніцтве і працы;

б) за безумоўнае выкананьне праграмы індустрыялізацыі краіны;

в) за сацыялістычную рэконструкцыю сельскае гаспадаркі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на калгаснае будаўніцтва, як найбольш правільны шлях разьвіцьця сельскае гаспадаркі;

г) за ўмацаваньне працоўнае дысцыпліны і за ліквідацыю прагулаў і расхлябанасьці на вытворчасьці;

д) за сацыялістычную рацыяналізацыю вытворчасьці;

е) за сваечасовае забесьпячэньне прамысловасьці і сельскае гаспадаркі і культурнага будаўніцтва патрэбнымі кадрамі кіраўнікоў і спэцыялістых з рабочае клясы, батрацтва і бядняцка-серадняцкага сялянства;

ж) за ўзмацненьне плянавае дысцыпліны і ролі плянавага кіраўніцтва ва ўсёй сыстэме народнае гаспадаркі і культуры;

з) за вялікі рост актыўнасьці і арганізаванасьці працоўных мас наогул і рабочае клясы асабліва і накіраваньне гэтае актыўнасьці на ажыцьцяўленьне пяцігадовага пляну;

і) за максымальную мабілізацыю сіл і сродкаў працоўных праз каапэрацыю, а таксама за ўсебаковую мабілізацыю ўнутраных рэсурсаў краіны для справы сацыялістычнага будаўніцтва;

к) за шырокае ўцягненьне рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас у сацыялістычнае будаўніцтва і ў кіраўніцтва гаспадаркай;

л) за ўсямернае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва ў горадзе, вёсцы і разьвіцьцё самакрытыкі шырокіх мас зьнізу супроць бюрократычных скажэньняў дзяржаўнага і гаспадарчага апарату;

м) за ажыцьцяўленьне задач культурнае рэвалюцыі.

І, нарэшце, за поўнае ажыцьцяўленьне ленінскае лініі, якая праводзіцца і ўкладзена ў пяцігадовы плян, з боку нашае натхніцельніцы камуністычнае партыі бальшавікоў.

---

**Ф. Жукаў.**

# Парт'ячэйкі рэальнай барацьбы з бюрократызмам не разгарнулі.

„Барацьба з бюрократызмам за спрашчэньне і патаненьне апарату і набліжэньне яго да мас стаіць у даных умовах асабліва важнай задачай партыі“.
(З рэзалюцыі XVI парткапфэрэнцыі).

Перамагчы бюрократызм якой-небудзь кампаніяй немагчыма—гэта ісьціна лемантарная.

З бюрократызмам трэба весьці барацьбу заўсёды, штодзенна, з кожным яго праяўленьнем і з усякімі яго рознавіднасьцямі, памятаючы, што крыніцы бюрократызму пітаюцца не ўдасканаленьнем структуры нашага апарату, дрэннай сыстэмай работы, матар'яльнай і культурнай адсталасьцю, а таксама, і ў значнай частцы, і асабовым няўменьнем і нежаданьнем работнікаў апарату як належыць падходзіць да справы, у выніку чаго мы маем казённае выконваньне „пасады“, скорапальнае вырашэньне пытаньняў, няўважлівы, няўдумлівы і фармальны падыход да справы і інш.

Барацьба з бюрократызмам і выкарчоўваньне яго павінны праходзіць па двох напрамках: па лініі палепшаньня сыстэмы і арганізацыі работы, і па лініі рэальнай барацьбы з конкрэтнымі носьбітамі бюрократычнага зла ці з паасобнымі конкрэтнымі выпадкамі бюрократызму. Не чапаючы цяпер пытаньняў першага парадку, застановімся на тым, што і як менавіта робіцца ў галіне барацьбы з носьбітамі бюрократызму, г. зн. як мы вядзем барацьбу з тымі момантамі бюрократызму, якія залежаць ад суб'ектыўных прычын, ад асоб.

Партыйныя ячэйкі савецкіх установ прызваны і павінны граць галоўную ролю ў барацьбе з бюрократызмам, менавіта ў *конкрэтным яго праяўленьні і ўмовах данае ўстановы*. Тым часам ў выніку знаёмства з работай некаторых савецкіх ячэек—мы, нажаль, адзначаем, што да гэтага часу ячэйкі, можна катэгорычна лічыць, нічога не рабілі ў гэтым напрамку.

Была „зьвернута ўвага“ наогул, пастаўлены былі даклады аб „шкодзе бюрократызму“, аб неабходнасьці яго зжываньня і г. д.

Зразумела, што гэткія даклады таксама зыгралі вялікую ролю і некаторую карысьць прынесьлі ў тым, што шырока растлумачылі агульную прыроду і што такое бюрократызм. Але справа ў тым, што любы работнік апарату, крычыць супроць бюрократызму, наогул божыцца весьці барацьбу з бюрократызмам,—у той самы час, не разумеючы таго, праяўляе бюрократычныя адносіны да справы, бюрократычны падход. Бюрократызм праяўляе, але не заўважвае гэтага, яму здаецца, што сам ён працуе як трэба. З аднаго боку гэта зусім зразумела, за таго, што самому наогул трудна заўважаць свае недахопы. Але свой колектыў, свае таварышы, зразумела, могуць бачыць гэтыя

недахопы, заўважаць іх і папраўляць. І вось тут ячэйкам, прафорганам, усяму колектыву прадстаіць разгарнуць работу.

Што-ж мы маем на справе?

Вядзецца падрыхтоўчая работа да чысткі савецкага апарату. Чыстка павінна аслабаніць апарат і ад бюрократаў, валакітчыкаў, грубых у адносінах да супрацоўнікоў. На кожным кроку мы ўсё крычым, што бюрократызм нас заядае, бюрократамі панабіваны нашы ўстановы і г. д. Здаецца, нічога прасьцейшага няма: пры чыстцы апарату ўсіх бюрократаў, валакітчыкаў і іншых да іх падобных „за вушка, ды на сонейка". Каб гэтага дасягнуць, ва ўстановах створаны камісіі садзейнічаньня: падрыхтуйце, калі ласка, матар'ял на сваіх бюрократаў, валакітчыкаў і грубіянаў.

І выходзіць, што ў нас няма бюрократызму. Не, ня тое, каб заядлых бюрократаў, але і момантаў бюрократызму ва ўстановах няма... Многа ёсьць наогул „шкодных" людзей у апараце: ёсьць дзеці папоў, б. валасныя пісары, б. афіцэры ваеннага часу, б. паштова-тэлеграфныя чыноўнікі, б. лясьнікі князёўскіх лясоў і г. д., але і яны „шкодныя" сваім мінулым. Што-ж датычыцца праяўленьня бюрократызму, валакіты, грубасьці і інш.—„гэта ва ўстанове ня знойдзена".

У аднэй з партыйных ячэек г. Віцебску гэтак было і сказана: „у нас бюрократызму ня можа быць, за таго, што склад служачых у нас пролетарскі". Сакратар ячэйкі Акрземаддзелу (г. Віцебск) таксама гаворыць: „у нас у апошні час бюрократызму няма, за таго, што па лініі ячэйкі дадзены былі самыя суровыя дырэктывы". У Дзяржстраху прызначылі служачых да чысткі не па адзнаках іхнае работы, а як „былога афіцэра", „былога паштова-тэлеграфнага чыноўніка" і г. д.

Калі кіраўніку ўстановы і сакратару парт'ячэйкі было растлумачана, што самае каштоўнае гэта выявіць і вычысьціць некаторых супрацоўнікаў за праяўленьне бюрократызму і скрыўленьне клясавай лініі, наогул за дрэнную работу, тады быў гэтакі „адказ": „ну, калі гэтак (г. зн. калі тое, што служачы раней быў якім-небудзь чыноўнікам—не зьяўляецца прадметам для чысткі), дык у нас ня знойдзецца каго чысьціць".

Справа, зразумела, ня ў тым, ці трэба абавязкова каго-небудзь вычысьціць з Дзяржстраху ці з іншай якой-небудзь установы,—але каб ня было ніводнага выпадку бюрократызму ў установе, гэта, зразумела, глупства, як-бы гэтым не хваліліся. Значыць, справа ў тым, што не прыкмячалі ў сябе пад носам гэткіх выпадкаў, не вялі барацьбу з імі, не выжывалі іх, гаварылі толькі аб бюрократызьме, наогул, ды бюрократаў іншых устаноў („вось там іх многа, там трэба калатнуць"), а ў нашай установе, „ціш і гладзь, ды божая благадаць".

У выніку гэтага—95 проц. матар'ялу да чысткі апарату зводзіцца да таго, што зьмяшчае пералік быўшых чыноўнікаў, і быўшых людзей (к прыкладу сказаць, без ацэнкі іх работы па сутнасьці) і толькі ў працэнтах пяці можна спаткаць словы „бюрократ". Але і гэтыя 5 проц. яшчэ яскравей пацьвярджаюць нашы доказы, што ні ячэйкі, ні прафорганы, ні колектывы ніякай барацьбы з конкрэтным праяўленьнем бюрократызму не вядуць. На справе, калі запытаеш, чым пацьвярджаецца, што даны супрацоўнік „бюрократ"—атрымаеш адказ: „канкрэтных выпадкаў і фактаў у нас не запісана, але ён бюрократ—гэта мы можам заявіць катэгорычна".

Без падставы мусіць-бы не гаварылі. Мусіць даны супрацоўнік ня раз праяўляў і праяўляе бюрократызм, бліжэй усяго ён дапускаў шэраг выпадкаў, шкодных для справы, але ён дапускаў, сам да гэтага прывыкаў, магчыма, што ўводзіў гэта і ў сыстэму, а ні ячэйка, ні

начальства, ні насьценная газэта, ні колектыў на гэта ў свой час ніяк не рэагавалі, і не папраўлялі яго, ні на іншых канкрэтных прыкладах ня выхоўвалі. Колькі-ж прайшло бяз сьледу гэтакіх канкрэтных выпадкаў.

Да ўсяго гэтага можна дадаць яшчэ адзін прыклад.

Колькі мы маем такіх партыйных ячэек, мясцкомаў, колектываў, якія самі па свайму пачыну разабралі-б і вынесьлі сваё рашэньне нават на выпадках жывога бюрократызму, валакіты і грубасьці—па гэткіх выпадках, ад якіх пагалоўна плачуць працоўныя, аб якіх пішуць у газэтах, якія служаць матар'ялам для вялікіх працесаў у органах Р. С. І. Няма такіх выпадкаў, калі-б гэтыя справы ўперад як зрабіцца вядомымі „ўсяму сьвету" заўважаліся-б і выкарчоўваліся ў самой установе, ня гледзячы на тое, што і парт'ячэйкі і профорганы павінны і абавязаны ўсякім спосабам весьці барацьбу з праяўленьнем бюрократызму, валакіты, грубасьці і інш.

Тая фактычная праверка ролі партыйных і профэсыянальных ячэек у барацьбе з бюрократызмам, якой (праверцы) падлеглі ячэйкі цераз падрыхтоўку да чысткі апарату, дала матар'ялы нагэтулькі яскравыя, што не застаецца нават і думаць быццам у нас у гэтай частцы справа стаіць, на належнай вышыні.

Няможна ніякім чынам супакоіцца на тым, што „пытаньні аб бюрократызьме ў нас прапрацаваны", што „дырэктывы па лініі ячэйкі дадзены суровыя, што „на барацьбу з бюрократызмам паднята ўся грамадзкасьць, установы" і інш.

Трэба абавязкова падвесьці ячэйкі да непасрэднай барацьбы з канкрэтнымі праяўленьнямі бюрократызму менавіта ў сваёй установе, з боку работнікаў свайго колектыву. Трэба прымусіць займацца разборам асобных конкрэтных выпадкаў, каб гэтым папярэдзіць асоб, прыкмечаных у тым і выхоўваць наогул увесь колектыў. Трэба, каб закасаўшы рукавы супроць бюракратызму, і ідучы ў бой з бюрократамі іншых устаноў, мы ў той-жа час вялі і барацьбу, і зжывалі бюрократызм у сябе пад носам.

Калі мы ў выніку чысткі апарату і выкінем поўдзесятак-дзесятак яўна шкодных элемэнтаў з устаноў,—гэтым пытаньне барацьбы з бюрократызмам ня скончыцца. Наадварот, зьвёўшы ўсю справу палепшаньня работы апарату толькі да чысткі,—зразумела мы абанкруцімся, бо наш апарат працуе дрэнна зусім ня выключна таму, што ў ім ёсьць некалькі шкодных элемэнтаў, якія цалкам псуюць усю справу. А калі гэта так—то і палепшаньне структуры апарату, сыстэмы работы, і барацьба з бюрократызмам, залежаць ад работы саміх людзей,—усё гэта застаецца як важнейшая задача партыі і профсаюзаў.

Вось чаму ў шэрагу іншых пытаньняў, якія высоўваюцца на барацьбу з бюрократызмам, патрабуе большай увагі і недастатковая роля нашых ячэек у барацьбе з бюрократызмам.

Калі гэта пытаньне можна прызнаць заслугоўваючым увагі, дык яно асобных цяжкасьцяй не прадстаўляе для распрацоўкі дэталёвых паказаньняў ячэйкам, ды і самі ячэйкі, калі зразумеюць недастатковасьць сваёй ролі ў гэтай справе, без дэталёвых паказаньняў змогуць зрабіць сваю ролю больш дзейнічаючай і конкрэтнай. А зрабіць гэта трэба як-бы тут ня было.

---

Я. Пайкін.

# Социяльны склад комуністых-сялян БССР.

Перапіс вясковых комуністых устанавіў налічча социяльна-клясавага распластаваньня *) сярод комуністых-сялян Беларусі. Але ў адзнаку ад клясавай дыфэрэнцыяцыі сялянства наогул, сярод комуністых назіраецца становучае правышэньне ўдзельнае вагі бядняцка-пролетарскіх элемэнтаў.

Социяльная дыфэрэнцыяцыя комуністых-сялян мае, вядома, свае экономічныя карэньні.

Усе даныя перапісу сьведчаць аб вялікай экономічнай разнароднасьці і глыбокай экономічнай непараўнальнасьці гаспадарак абсьледваных комуністых. Прычым дыфэрэнцыяцыя гэта дасягае, па ўсім асобным элемэнтам сялянскае гаспадаркі, вельмі значнага размаху і сярод комуністых, нават ствараючых адну і тую-ж социяльную групу.

Прывядзем для прыкладу хоць-бы наступныя даныя, адносна забясьпечанасьці гаспадарак комуністых пасеўнай плошчай.

| Клясавыя групы | | На 100 гаспадарак, прыходзіцца гаспадарак: | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Без пасеву і з пасевам да 0,09 | З пасевам (у дзесяцінах): | | | | |
| | | | 0,1—2,09 | 2,1—4,09 | 4,1—6,09 | 6,1—16,09 | Звыш 16,1 |
| Пролетар. | | 10,90 | 71.99 | 16,50 | 0,55 | — | — |
| Поўпролетар. | | 0,75 | 50,61 | 42,23 | 5,67 | 0,74 | — |
| Простыя таваравытворцы з коштам сродкаў вытворчасьці. | Да 400 р. | 0,30 | 24,47 | 56,61 | 15,92 | 2,70 | — |
| | 401—800 | 0,06 | 20,71 | 51,52 | 21,40 | 6,31 | — |
| | Звыш 800. | — | 6,78 | 42.13 | 29,30 | 21,79 | — |
| Дробна-капітал. гасп. | | — | 2,90 | 40,58 | 23,19 | 31,88 | 1,45 |
| Бяз роз. груп | | 2,01 | 35.00 | 43,42 | 14,30 | 5,25 | 0,02 |

Экономічная неаднароднасьць гаспадарак так відавочна паказана ў прыведзеных даных, што не патрабуе ніякіх растлумачэньняў. Разам з тым, гэтыя даныя паказваюць, што амплітуда хістаньня лічбаў гаспадарак па разьмерам паляводзтва досыць значная *ўнутры* кожнай социяльнай групы ў паасобку.

---

*) Гл. „Зьвязда“ № 148 (1929 г.)—Я. Пайкін.—Соц. склад комуністых-сялян БССР.

Усё гэта ў меншай меры падцьвярджаецца таксама і наступнымі лічбамі адносна забясьпечанасьці гаспадарак рабочай жывёлаю.

| КЛЯСАВЫЯ ГРУПЫ | На 100 гаспадарак прыходзіцца гаспадарак: | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Без рабочае жывёлы. | Маючых рабочую жывёлу: | | | |
| | | 1 гал. | 2 гал. | 3 гал. | 4 і больш галоў |
| Пролетарскіх | 72,54 | 27,18 | 0,28 | — | — |
| Поўпролетарскіх | 27,81 | 68,66 | 3,53 | — | — |
| Да 400 р. | 7,81 | 82,73 | 9,46 | — | — |
| 401 - 800 р. | 5,56 | 69,95 | 23,36 | 1,13 | — |
| Звыш 800 | 3,15 | 55,10 | 37,15 | 4,6 | — |
| Дробных капіталістычных гаспадар. | 4,35 | 57,97 | 34,78 | 2,9 | — |
| Бяз розьніцы груп | 21,58 | 63,20 | 14,36 | 0,86 | — |

Гэтыя даныя поўнасьцю падцьвярджаюць вывады, зробленыя з першай табліцы. Абедзьве-ж разам табліцы малююць усямернае нарастаньне забясьпечанасьці гаспадарак пасевам і жывёлай па меры пераходу іх ад аднэй групы ў другую ўверх па соцыяльных сходках.

Па разьмерам-жа іх забясьпечанасьці пасевам і жывёлай наогул, як відаць з табліц, рашаючае значэньне мае сярод гаспадарак комуністых *сярэдні* ўзровень забясьпечанасьці.

Як вядома, рашаючым момантам у вызначэньні экономічнай моцнасьці сялянскае гаспадаркі ў нашых умовах зьяўляецца не наліччa зямлі і рабочае сілы, а наліччa сродкаў вытворчасьці.

Агульная моцнасьць сялянскіх гаспадарак вызначаецца таму паўней усяго разьмерамі сродкаў вытворчасьці *) ў грашовым выглядзе. Прыводзім адпаведныя даныя аб групіроўцы гаспадарак комуністых па каштоўнасьці сродкаў вытворчасьці:

| КЛЯСАВЫЯ ГРУПЫ. | №№ груп | Лік гаспадарак маючых сродкі вытворч. ў %% | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Да 200 руб. | Ад 201 да 400 р. | Ад 401 да 800 р. | Ад 801 да 1600 р. | Звыш 1600 р. |
| 1. Пролетарыят | — | 95,70 | 4,30 | — | — | — |
| 2. Поўпролетарыят | — | 23,81 | 76,19 | — | — | — |
| 3. Прост. таварн. вытв. | — | — | 24,97 | 59,54 | 14,89 | 0.60 |
| 4. Дробн. капіт. гасп. | — | — | — | 55,08 | 34,78 | 10,14 |
| Бяз розьніцы | — | 20,87 | 33,45 | 35,88 | 9,29 | 0,51 |

*) У склад сродкаў вытворчасьці ўваходзяць: 1) сел.-гасп. інвэнтар, машыны; 2) жывёла, птушкі і пчолы; 3) гаспадарчыя будоўлі; 4) спэцыяльны і вытворчы інвэнтар; 5) шматлетнія насаджэньні і 6) мэліорацыйныя сааружэньні.

І гэтыя даныя поўнасьцю падцьвярджаюць усе зьявы, адзначаныя вышэй на аснове папярэдніх табліц.

Такім чынам, мы ўстанавілі, што сярод комуністых-сялян БССР мае месца экономічная няроўнасьць гаспадарак і ўнутры адных і тыхжа социяльных груп, дасягаючая значных разьмераў па ўсім элемэнтам сялянскае гаспадаркі (пасеў, інвэнтар і г. д.).

Вывучаючы социяльна-клясавую дыфэрэнцыяцыю, недастаткова мець малюнак экономічнай няроўнасьці разглядаемых гаспадарак. Неабходна яшчэ выявіць шляхі ператварэньня гэтае простае няроўнасьці ў няроўнасьць клясавую.

Асноўнымі паказальнікамі клясавага распластаваньня вёскі зьяўляюцца адносіны найма і продажу рабочае сілы, найбольш характарна выражаючыя супярэчнасьці социяльных груп вёскі.

І сапраўды, даныя разглядаемага перапісу сьведчаць аб наліччы гэтых адносін сярод сялян-комуністых.

Наступная табліца паказвае суадносіны продажу і найму рабочае сілы ў гаспадарках комуністых асобных социяльных груп:

| Клясавыя групы | | % гаспадарак з водпускам рабочае сілы | % гаспадарак з наймам рабочае сілы | У сярэднім на 1 гаспадарку (наймаючую ці адпускаючую рабсілу). Адпушчана чалав.-дзён | У сярэднім на 1 гаспадарку (наймаючую ці адпускаючую рабсілу). Прынята чалав.-дзён |
|---|---|---|---|---|---|
| Пролетарыят | | 48,0 | 22,5 | 275,98 | 21,41 |
| Паўпролетарыят | | 41,2 | 17,9 | 218,58 | 43,85 |
| Простыя таваравытворцы | Да 400 р. | 21,9 | 14,6 | 137,78 | 43,03 |
| | ад 401—800 | 33,1 | 17,1 | 194,6 | 39,41 |
| | Звыш 800 р. | 28,7 | 17,7 | 189,97 | 19,89 |
| Дробн. капіт. гаспад. | | 10,1 | 97,1 | 180,0 | 191,36 |
| Бяз розьніцы груп | | 34,9 | 19,0 | 213,46 | 47,58 |

Гэтыя даныя сьведчаць, што наогул наём і продаж рабочае сілы шырока распаўсюджаны ў гаспадарках комуністых.

З прыведзеных вышэй даных відаць таксама правышэньне продажу рабочае сілы над наймам гэтакай у гаспадарках першых трох социяльных груп (пролетарскай, поўпролетарскай, простыя таваравытворцы) і зусім адваротнае зьявішча ў гаспадарках дробна-капіталістычнай групы, дзе наём рабочай сілы ўжо правышае водпуск гэтакай.

У гаспадарках групы пролетарыяту колькасьць адпускных чалавека-дзён амаль у $13^{1}/_{2}$ разы больш дзён найму на адну гаспадарку. У гаспадарках-жа ўсіх вышэйшых социяльных груп гэтыя суадносіны, натуральна, скарачаюцца і ў дробна-капіталістычнай групе ўжо маецца, наадварот, правышэньне найму рабочае сілы над водпускам у 1,06 разоў.

Аднак, не заўсёды адны і тыя-ж *па форме* социяльныя адносіны могуць быць процілеглымі па сваёй социяльнай сутнасьці. Акрамя таго, для выяўленьня социяльнай сутнасьці сялянскае гаспадаркі неабходзен таксама дадатковы колькасны аналіз: *як далёка* зайшло ў адной гас-

падарцы ўжываньне чужой рабочай сілы і *якую ролю* яно адыгрывае, наколькі характарным, усеагульным і працяглым зьяўляецца *).

„Трэба ведаць,—як казаў Ленін, — усю гісторыю гаспадаркі гэтага селяніна“...

Таму неабходна далей разглядаць даныя адносна працягласьці і характару найму рабочае сілы.

Прыводзім адпаведныя даныя:

| Клясавыя групы | | % гаспадарак з наймам | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Да 50 р. | 51—75 р. | 76—150 р. | Звыш 150 р. |
| Пролетарыят . . . . . | | 93,83 | 0,61 | 3,09 | 2,47 |
| Поўпролетарыят . . . . . | | 83,33 | 3,13 | 3,65 | 9,90 |
| Простыя таваравытворцы | Да 400 р. . . | 80,41 | 6,19 | 4,12 | 9,28 |
| | ад 401—800 . . | 83,39 | 2,95 | 6,28 | 7,38 |
| | Звыш 800 р. . . | 94,52 | — | 2,74 | 2,74 |
| Дробн. капіт. гаспад. . . . | | 1,49 | — | 44,78 | 53,73 |
| Бяз розьніцы груп . . . | | 79,58 | 2,44 | 7,54 | 10,44 |

Як відаць з гэтых даных, наогул у гаспадарках комуністых прэваліруе наём да 50 дзён, — % найму ад 50 да 75 дзён адносна невялікі. Звыш 75 дзён наймаюць, амаль выключна, гаспадаркі дробна-капіталістычнай групы. Гэтыя даныя даюць падставу думаць, што наём рабочае сілы ў гаспадарках ніжэйшых соцыяльных груп носіць часовы і падзённы характар і толькі ў гаспадарках вышэйшых соцыяльных груп ён прымае ўжо характар больш працяглы і сталы.

Падцьвярджэньне гэтае думкі мы знаходзім ў наступных даных адносна характару найму.

| Клясавыя групы | % гаспадарак з наймам рабочых на тэрмін | % гаспадарак з наймам падзённых і зьдзельных рабочых |
|---|---|---|
| 1. Пролетарыят . . . . . . . | 8,02 | 93,83 |
| 2. Поўпролетарыят . . . . . . . | 18,75 | 83,85 |
| 3. Простыя таваравытв. . . . . . | 18,82 | 86,62 |
| 4. Дробна-капіталістычныя гаспадаркі . . | 89,55 | 38,81 |
| Бяз розьніцы . . . . . . | 22,27 | 83,64 |
| Гаспадарак усяго сялянства . . . . | 29,4 | 78,9 |

*) С. Пакроўскі—Аграрна-сялянскае пытаньне. Выд. „Прибой“, 1929 г.

Прыведзеныя лічбы падцьвярджаюць выказаную думку, што ў гаспадарках дробна-капіталістычнай групы пераважае наём рабочых на тэрмін.

З усяго гэтага відаць, што ў гаспадарках ніжэйшых соцыяльных груп наём рабочай сілы мае *падсобнае* значэньне і носіць *сэзонны* характар. Між тым, як наём рабочай сілы ў гаспадарках групы дробна-капіталістычнай бязумоўна зьвязан ужо з *пашырэньнем накапленьня* ва ўласнай гаспадарцы і прымае характар адносін эксплёатацыі.

Прыведзеных вышэй паказальнікаў экономічнай распластоўкі гаспадарак комуністых, таксама як і прыведзеных даных адносна суадносін водпуску і найму рабочай сілы ў гаспадарках комуністых, усё яшчэ недастаткова для таго, каб канчаткова вызначыць соцыяльную фізыяномію разглядаемых гаспадарак.

„Попыт разабрацца ў клясавай структуры сучаснай вёскі, бяз вучоту найму і здачы ў наём рабочае жывёлы і інвэнтару, адыгрываючых у параўнаньні з прамым наймам батракоў асноўную ролю, няўхільна прыводзіць да няўдачы. У гэтых умовах разьмер прадукцыі гаспадаркі і наогул вынікі вытворчасьці (у прыватнасьці разьмер пасеву) сам па сабе не гаворыць нічога. Ён можа як памяншаць сапраўдную моц гаспадаркі (у тым выпадку, калі яго сродкі вытворчасьці ўжываюцца ў чужых гаспадарках), так і перавялічваць яе (у тым выпадку, калі ў гаспадарках ужываюцца чужыя сродкі вытворчасьці).

Толькі суадносіны паміж сабою ўласнае рабочае сілы і ўласных сродкаў вытворчасьці адно толькі могуць ахарактарызаваць сялянскую гаспадарку“ (Л. Крыцман).

Таму, для канчатковага вызначэньня соцыяльна-клясавай структуры разглядаемых гаспадарак, неабходна было яшчэ разглядзець і іншыя элемэнты вытворчых адносін, якімі зьяўляецца арэнда і здача сродкаў вытворчасьці, а таксама арэнда і здача зямлі.

Па арэндзе і здачы сродкаў вытворчасьці разглядаемыя намі гаспадаркі характарызуюцца наступным чынам.

| Клясавыя групы | % гаспадар., арандаваўшых сродкі вытворчасьці | % гаспадар., здаваўшых сродкі вытворчасьці | На 1 аранд. сродкі вытворчасьці гаспадаркай заплочана р. | На 1 здаючую гаспадарку атрымана руб. |
|---|---|---|---|---|
| Пролетарыят . . . . | 23,72 | 0,97 | 25,49 | 25,0 |
| Поўпролетарыят . . . | 12,09 | 0,74 | 23,33 | 31,0 |
| Прост. вытворч. . . . | 8,70 | 1,80 | 11,87 | 29,69 |
| Дробн.-кап. гаспадарка . . | 11,59 | 5,80 | 14,25 | 14,0 |
| Бяз розьніцы . . | 11,94 | 1,78 | 19,16 | 28,42 |

Мы бачым з прыведзеных даных перавышэньне арэнды над здачай сродкаў вытворчасьці ў гаспадарках усіх соцыяльных груп, прычым проц. гаспадарак, арандуючых сродкі вытворчасьці, падае ад гаспадарак ніжэйшых груп да вышэйшых груп, а проц. гаспадарак, здаючых сродкі вытворчасьці, наадварот, падвышаецца ў тым-жа напрамку.

Той-жа малюнак мы бачым і па прыведзеным даным адносна разьмераў затрат на арэнду і здачу сродкаў вытворчасьці.

У адносінах здачы сродкаў вытворчасьці можа выклікаць непаразуменьне тая абставіна, што гаспадаркамі вышэйшай дробна-капіталістычнай групы выручана ад здачы сродкаў вытворчасьці меней,

чымся гаспадаркамі ніжэй стаячых груп. Магчыма, што тут адбіваецца той факт, што гаспадаркі дробна-капіталістычнай групы выкарыстоўваюць поўнасьцю сродкі вытворчасьці ў сваіх гаспадарках і здаюць у арэнду найменш каштоўны і найменш карысны для іх саміх інвэнтар, як плугі і сохі, а магчыма, часткова таксама і коняй.

Што датычыцца здачы і найму ў арэнду зямлі, то аб гэтым сьведчаць наступныя лічбы:

| Клясавыя групы | % гаспадар., арандаваўшых пашню | % гаспадар., здаваўшых пашню | На 1 арандуючую гаспадарку арандована пашні дзесяцін | На 1 здаючую гаспадарку здана дзесяцін |
|---|---|---|---|---|
| Пралетарыят | 3,38 | 4,72 | 0.93 | 2,27 |
| Поўпралетарыят | 5,86 | 1,67 | 1,76 | 2,15 |
| Прост. таваравыт. | 6,04 | 0,52 | 1,85 | 2.48 |
| Дробна-капітал. гаспадарка | 5,80 | — | 2,27 | — |
| Бяз розьніцы | 5.65 | 1,46 | 1,73 | 2,28 |

Прыведзеныя лічбы паказваюць, што па асобным социяльным групам проц. гаспадарак, арандуючых пашні, расьце ад ніжэйшых социяльных груп да вышэйшых, процант-жа гаспадарак, здаючых пашню, наадварот, рэзка паніжаецца ад ніжэйшых груп да вышэйшых, складаючы 4,7 проц. да групы пралетарыяту і 0—да групы дробна-капіталістычнай.

Простыя таваравытворцы даюць больш высокі проц. гаспадарак, арандуючых пашню, чымся гаспадаркі дробна-капіталістычнай групы. Затое разьмер арэнды пашні значна вышэй у дробна-капіталістычнай групе і складае 2,27 дзесяцін на адну наймаючую гаспадарку, пры 0,93 дзесяцін у пралетарскай групе. Разьмер-жа здачы пашні прыблізна аднолькавы ва ўсіх групах гаспадарак. Але зусім адсутнічае здача пашні ў гаспадарках дробна-капіталістычнай групы. Калі ўлічыць, што здача пашні зьяўляецца наогул прызнакам залежнае гаспадаркі, то прыведзеныя даныя акажуцца досыць выразнымі.

Суміруючы выкладзенае, прыходзіцца канстатаваць, што ў галіне вытворчых адносін гаспадаркі камуністых-сялян характарызуюцца ўжываньнем найму і здачы рабочай сілы, найму і здачы сродкаў вытворчасьці і г. д. і г. д.—наогул, характарызуюцца ўсімі тымі адносінамі, на глебе якіх „расьце кулак у вёсцы, накапляе свае капіталы і ў той-жа час на гэтай глебе вытвараецца руйнаваньне бедняты“ [1]).

Усе ахарактарызаваныя адносіны ў *злучнасьці* ўтвараюць тую базу, на якой і адбываецца социяльна-клясавая дыфэрэнцыяцыя гаспадарак комуністых-сялян, устаноўленая перапісам.

Цікава пасьля ўсяго таксама ўстанавіць, ці адрозьніваюцца ў чым-небудзь у галіне паказаных адносін гаспадаркі комуністых ад гаспадарак сялянства наогул.

Супастаўленьне прыведзеных даных з адпаведнымі данымі дынамічнага перапісу сельскае гаспадаркі 1927 году дазваляе даць на гэтае пытаньне наступны адказ:

Па працягласьці найму рабочае сілы сярод комуністых вышэй проц. гаспадарак наймаючых да 50 дзён (79,58 проц. супроць 71,1 проц.

[1]) С. Дуброўскі.—Рэканструкцыя сельскае гаспадаркі і клясавая барацьба ў вёсцы Зборнік „Пути подъёма сельского хозяйства“.

у сялянства), і ад 50 да 70 дзён (2,44 проц. супроць 1,9 проц.) і ніжэй проц. гаспадарак з наймам вышэй 75 дзён (17,28 проц. супроць 27 проц. у сялянства).

Па характару найму—у гаспадарках комуністых вышэй проц. гаспадарак з наймам падзённых і зьдзельных рабочых (83,64 проц. супроць 78,2 проц. у сялянства) і ніжэй проц. гаспадарак з наймам рабочых на тэрмін (22,27 проц. супроць 29,4 проц.)

У адносінах найму і здачы сродкаў вытворчасьці гаспадаркі комуністых адрозьніваюцца ад гаспадарак сялянства наогул тым, што ў комуністых ніжэй проц. гаспадарак як арандуючых (11,94 проц. супроць 21,69 проц.), так і здаючых (1,78 проц. супроць 9,08 проц.) сродкі вытворчасьці. Але разам гаспадаркі комуністых у сярэднім на адну гаспадарку *больш* трацяць на наём (19,16 р. супроць 3,38 руб.), таксама і выручаюць больш ад здачы сродкаў вытворчасьці (28,42 р. супроць 13,63 р.) чымся гаспадаркі сялянства наогул. Гэта сьведчыць аб тым, што опэрацыі па найму і здачы сродкаў вытворчасьці ў гаспадарках комуністых дасягаюць больш высокіх разьмераў.

Па арэндзе і здачы пашні гаспадаркі комуністых адрозьніваюцца тым-жа што і па найму і здачы сродкаў вытворчасьці.

Вывучаючы суадносіны найму і продажу рабочае сілы ў гаспадарках комуністых, цікава яшчэ выявіць і „социяльны“ напрамак адпускаемай камуністымі рабочай сілы. Адказ на гэтае пытаньне дае наступная табліца.

| Клясавыя групы | На 100 гаспадарак адпускаючых рабочых у: Сельскую гаспад. Адпушчана: Дзяржаўн. і коопэр. прадпрыемствы | Сельскую гаспад. Адпушчана: У прыватн. прадпрыемствы | Не земляроб. промыслы Адпушчана: Дзяржаўн. і коопэр. прадпрыемствы | Не земляроб. промыслы Адпушчана: У прыватн. прадпрыемствы |
|---|---|---|---|---|
| Пролетарыят | 32,65 | 73,47 | 94,92 | 6,67 |
| Поўпролетарыят | 15,0 | 90,0 | 93,15 | 10,66 |
| Простыя таваравытв. | 18,44 | 84·40 | 90,71 | 12,19 |
| Дробна-капіт. гаспад. | — | 100,0 | 66,67 | 33,33 |
| Бяз розьніцы | 19,93 | 84,13 | 92,24 | 10,61 |

Па сельскай гаспадарцы, як відаць з гэтых даных, рабочая сіла накіроўваецца, галоўным чынам, у яго прыватны сэктар. Гэта тлумачыцца, як відаць, толькі слабасьцю ў БССР социялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы—невялікай яго працаёмкасьцю. У галіне неземляробчае працы, наадварот, у большай меры рабочая сіла накіроўваецца ў социялістычны сэктар.

Калі параўнаць разьмеры адпускаемай рабочай сілы ў социялістычны і прыватны сэктары гаспадаркамі асобных социяльных груп, то выяўляецца, што *гаспадаркі ніжэйшай групы ў большай ступені аддаюць сваю рабочую сілу социялістычнаму сэктару і наадварот.*

У гэтым зьявішчы з вялікай яскравасьцю выкрываюцца „социяльныя сымпатыі“ асобных груп вясковых комуністых. Усё выяўленае ў апошняй табліцы падцьвярджаецца яшчэ наступнымі данымі аб тым,

які проц. прапрацаваных дзён уне сваёй гаспадаркі прыходзіцца на долю асобных галін і сэктараў гаспадаркі.

| Клясавыя групы | Прапрацавана ў % (лік дзён) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Для сельск. гаспадаркі | У дзярж. установах і коопэрац. прадп. | У прыватн. прадпрыем. | У несельскай гаспадаркі | Дзяржаўн. і коопэрац. прадпрыем. | У прыватных прадпрыемствах |
| Пролетарыят | 10,5 | 36,8 | 63,2 | 89,5 | 96,7 | 3,3 |
| Поўпролетарыят | 11,9 | 18,5 | 81,5 | 88,1 | 95,2 | 4,8 |
| Прост. таваравытворцы | 10,0 | 32,8 | 67,2 | 90,0 | 91,4 | 8,8 |
| Дробна-капіт. гаспад. | 1,9 | — | 100,0 | 98,3 | 74,5 | 25,3 |
| Бяз розьніцы | 10,6 | 29,3 | 70,7 | 89,3 | 93,9 | 6,2 |

Аб тым, у якой меры самі комуністыя разглядаемых гаспадарак удзельнічаюць у продажы сваёй рабочай сілы, сьведчаць наступныя даныя:

| Соцыяльныя групы | Прыходзіцца членаў і канд. КПБ на 100 чалавек | | |
|---|---|---|---|
| | Рабочых | Служачых | Усіх занятых уне сваёй гаспадаркі |
| Пролетарыят | 73,35 | 91,65 | 83,37 |
| Поўпролетарыят | 58,08 | 87,55 | 72,49 |
| Прост. таваравытв. | 41,49 | 89,04 | 72,15 |
| Дробна-капіт. гасп. | 33,33 | 85,48 | 75,68 |
| Бяз розьніцы | 52,56 | 89,01 | 70,16 |

Наогул пэрсанальны ўдзел комуністых у проджы рабочай сілы досыць высокі. Разам з тым, прыведзеныя даныя паказваюць, што больш усяго комуністыя разглядаемых гаспадарак заняты ў якасьці наёмных асоб па лініі службовых занят каў. Гэта тлумачыцца, як відаць, удзелам комуністых у мясцовых кіруючых органах як у парадку выбарчым, так і ў парадку чыста службовым.

Калі-ж мы параўнаем прыведзеныя даныя аб удзеле комуністых асобных соцыяльных груп у занятках па найму ў якасьці рабочых і ў якасьці служачых асобна, то выкрыецца наступны малюнак:

У якасьці рабочых у большай меры выступаюць комуністыя ніжэйшых соцыяльных груп, і ў вельмі нязначнай меры—комуністыя дробна-капіталістычных гаспадарак. У адносіне да служачых гэта дыфэрэнцыяцыя рэзкага выразу не атрымоўвае, так як процант удзелу комуністых у „служачых" высокі для комуністых усіх соцыяльных груп.

Комуністыя вышэйшых соцыяльных груп вылучаюць з свайго асяродку менш рабочых, паколькі свая гаспадарка служыць для іх галоўнай крыніцай існаваньня і паглынае цалком уласную рабочую сілу. Але разам з тым комуністыя гэтых груп, як відаць адрозьніваюцца высокім разьвіцьцём, маючы к таму-ж большую магчымасьць забясьпечыць сваю гаспадарку пабочнай рабочай сілай, вылучаюць з свайго асяродку больш высокі % служачых для работы ва ўсялякіх мясцовых органах.

Пасьведчаньнем эканамічнай распластаванасьці разглядаемых гаспадарак служаць яшчэ даныя аб разьмерах іх прыбытковасьці (па даным падатковых камісій).

Перш за ўсё неабходна адзначыць наліччa гаспадарак з неабкладаемай прыбытковасьцю.

У групе пролетарыяту мы знаходзім значны процант такіх гаспадарак (16,5%). Ужо менш высокія проценты падобных гаспадарак мы знаходзім таксама ў групах поўпролетарыяту (5,86%) і простых таваравытворцаў (2,5%).

У групе-ж дробна-капіталістычных такіх гаспадарак, натуральна, не аказалася зусім.

Нельга, аднак, разумець гэтыя неабкладаемыя гаспадаркі, як „паўпэрызаваныя". Такіх гаспадарак сярод комуністых-сялян няма, як няма іх і сярод савецкага сялянства наогул. Прывядзем для большай яскравасьці некалькі ўзорчыкаў гэтых неабкладаемых гаспадарак:

1) *Іваноўскі Г. М.*—зямлі мае 2,75 дз., якую поўнасьцю здае ў арэнду за 25 руб. Сродкаў вытворчасьці мае: 1 сьвіньню... калёсы, плуг і барану—усяго на суму 15 руб. Ад свае ўласнае гаспадаркі, як відаць з гэтых даных, Іваноўскі мае надзвычайна мала карысьці. Але ён служыць прыказчыкам у коопэрацыі, атрымоўвае пэнсіі 220 р. у год.

2) *Шауро Н. А.*—мае 5 дз. зямлі, з якіх абрабляе 0,5 дзес., астатняя зямля, як відаць, пустуе. Сродкаў вытворчасьці мае на 142 рублі (на 75 р. жывёлы). Служыць вартаўнікoм на млыну, атрымоўвае пэнсіі 240 руб. у год.

3) *Каліноўскі І. К.*—мае зямлі 5 дз., якія здае ў арэнду на „іспол". Мае сродкаў вытворчасьці на 174 руб. (на 149 р. жывёлы—конь, карова і інш.). Служыць аб'езчыкам, атрымоўвае пэнсіі 360 р. у год.

Характарным для прыведзеных гаспадарак зьяўляецца надзвычайна нізкая прыбытковасьць уласнае гаспадаркі. Галоўнаю крыніцаю існаваньня ў іх зьяўляецца таму работа па найму.

Усё гэта зьяўляецца вынікам, як відаць, наступнага становішча адзначанага 14 партканфэрэнцыяй УсеКП:

„Пачаўшаеся з пераходам да новай эканамічнай політыкі распластаваньне вёскі, знойдзе свой выраз у бліжэйшым будучым у далейшым павялічэньні... пролетарызацыі яе бядняцкіх элемэнтаў".

Па разьмерам агульнай іх прыбытковасьці разглядаемыя гаспадаркі дыфэрэнцыруюцца наступным чынам:

| Клясавыя групы | На 100 абсьледаваных гаспадарак прыходзіцца: Гаспадарак з прыбыткам: | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Да 100 р. | Ад 101 да 200 р. | Ад 201 да 400 р. | Ад 401 да 600 р. | Ад 601 да 800 р. | 801 і звыш |
| 1. Пролетарыят . . . | 16,94 | 38,04 | 28,41 | 7,64 | 4,65 | 4,32 |
| 2. Поўпролетарыят . . | 4,35 | 39,82 | 41,60 | 9,98 | 2,67 | 1,58 |
| 3. Прост. тавара-вытв. . | 0,96 | 15,87 | 59,24 | 18,01 | 4,00 | 1,92 |
| 4. Дробна-кап. гасп. . . | — | 1,45 | 44,93 | 33,33 | 13,04 | 7,25 |
| Бяз розьніцы . | 3,99 | 24,45 | 50,55 | 14,95 | 3,97 | 2,29 |

З прыведзеных даных мы бачым малюнак рэзкай распластаванасьці гаспадарак, нават у межах адных і тых-жа сацыяльных груп.

Як відаць з гэтых даных, рашаючае значэньне для ўсёй масы абсьледваных гаспадарак мае прыбытковасьць ад 200 да 400 руб.

У групе пролетарыяту зьвяртае на сябе ўвагу налічча гаспадарак з прыбыткам звыш 800 руб. Яны адносяцца да гаспадарак, члены якіх альбо займаюць якія-небудзь выбарчыя пасады, альбо інакш працуюць па найму.

Вось некалькі прыкладаў падобных гаспадарак:

1) *Саладынец Л. С.*—мае зямлі 4,8 дзесяцін, з якіх 2,85 дзесяцін скарыстоўвае сам. Мае карову на 70 руб. Інвэнтару ня мае ніякага, гаспадарчыя пабудовы ацэньваюцца у 100 руб. Сама гаспадарка, як відаць, ня прыносіць яму патрэбнага для існаваньня прыбытку. Саладынец працуе ў РВК, атрымоўвае пэнсіі 720 руб. у год.

2) *Дашкевіч К. Я.*—мае зямлі 2 дз., з якіх скарыстоўвае сам 1,2 дз. Мае карову на 80 руб. і будоўлі на 160 руб. Інвэнтару ня мае. Састаіць старшынёй Камітэту Ўзаемадапамогі, атрымоўвае пэнсіі 720 руб.

3) *Александровіч К. Ф.*—мае зямлі 1,25 дз., якую скарыстоўвае поўнасьцю сам. Мае карову і птушкі на 72 руб. Жыльлёвае памяшканьне ацэньваецца ў 670 руб. Працуе на ф-цы „Зьвязда“ ў якасьці старшага качагара, зарабляе 900 руб. у год.

Прыбытковасьць гэтых гаспадарак досыць значная, але вядома, што рашаючым момантам для вызначэньня клясавай прыналежнасьці зьяўляецца не разьмер прыбытку, а яго паходжаньне.

У агульным сярэдні разьмер прыбытку на адну разглядаемую гаспадарку складае: у пролетарыяту—253,84 руб., у поўпролетарыяту—260,72 руб., у простых таваравытворцаў—335,20 руб., і ў дробна-капіталістычных элемэнтаў—490,99 руб.

У гэтых прыбытках—прыбыткі ад сваёй сельскай гаспадаркі складаюць: у пролетарыяту—49,8%, у поўпролетарыяту—71,6%, у простых таваравытворцаў—84,5%, і ў дробна-капіталістычных груп—78,5%.

Гэтыя даныя досыць яскрава сьведчаць, якую зваротна-пропорцыянальную ролю павінны адыгрываць для гаспадарак асобных груп заняткі ўне сваёй гаспадаркі наогул, а для ніжэйшых груп, галоўным чынам, продаж сваёй рабочай сілы, альбо калі сярод гаспадарак двух вышэйшых груп маецца вялікі процант гаспадарак з самастойнымі прамысловымі заняткамі, то іх надзвычайна мала ў гаспадарках ніжэйшых груп. Аб гэтым сьведчаць наступныя даныя:

| Клясавыя групы | | % гаспад. з самастойн. прамыслов. заробкам | % гаспад. з прадпрыем. |
|---|---|---|---|
| Пролетарыят | | 1,11 | — |
| Поўпролетарыят | | 4,93 | — |
| Простыя тавара-вытворцы | Да 400 руб. | 14.20 | — |
| | 401—800 руб. | 10,67 | — |
| | Звыш 300 руб. | 15,74 | 0,29 |
| Дробна-капіталіст. гаспадаркі | | 5,45 | 3,64 |
| Бяз розьніцы груп | | 8,30 | 0,07 |

Процант гаспадарак з самастойнымі прамысловымі заняткамі (рамесьнікі, займаючыяся ізвозам і г. д.) наогул невялікі і вельмі нязначны ў гаспадарках групы пролетарыяту.

Гаспадаркі з прадпрыемствамі (млыны і г. д.) зусім адсутнічаюць у двух ніжэйшых групах. Маюцца яны толькі сярод гаспадарак групы дробна-капіталістычнай.

Адначасова трэба таксама адзначыць, як дыфэрэнцыруецца абсьледваньне гаспадаркі па разьмеру іх падатковага абкладаньня.

Прыводзім наступныя даныя па гэтаму пытаньню:

| Клясавыя групы | На 100 гасп. з паказаньнем аб с.-г. падат. прыходзіцца | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Аслаб. ад с.-г. падатку | Плаціўш. да 2,09 р. | Ад 2,1—10,9 р. | Ад 10,1—25,09 р. | Ад 25,9—100,09 р. | Ад 100,9 і вышэй |
| Пролетарыят . . . . | 47,69 | 4,91 | 35,06 | 10,52 | 1,82 | — |
| Поўпролетарыят . . . | 29,79 | 4,47 | 41,15 | 18,90 | 5,59 | 0,10 |
| Простыя таварвыт. . . | 10,44 | 2,29 | 31,10 | 33,81 | 21,38 | 0,98 |
| Дробна-кап. гасп. . . . | 2,94 | — | 11,76 | 32,35 | 44,12 | 8,83 |
| Бяз розьніцы груп . . | 20,81 | 3,19 | 33,83 | 26,56 | 14,88 | 0,73 |

І даныя аб разьмерах падатковага абкладаньня сьведчаць аб вялікай распластоўцы абсьледваных гаспадарак унутры асобных соцыяльных груп.

Рашаючае значэньне для разьмераў абкладаньня разглядаемых гаспадарак маюць плацяжы ад 2 да 25 руб.

У ніжэйшых-жа двух соцыяльных групах прэваліруюць плацяжы ад 2 да 10 р., у гаспадарках простых таваравытворцаў—ад 2 да 25 руб. з правышэньнем ліку гаспадарак з плацяжамі звыш 10 р. і ў гаспадарках дробна-капіталістычнай групы—ад 25 і звыш 100 р.

Зусім аслабанёна ад падатку $^1/_5$ частка ўсіх разглядаемых гаспадарак.

У самаабкладаньні ўдзельнічаюць амаль усе абсьледваныя гаспадаркі. Гэта відаць з наступнай табліцы:

| Клясавыя групы | На 100 абсьледаваных гаспадарак прыходзіцца гаспад. з самаабклад. | Сярэдні разьмер самаабклад. на 1 гаспадарку |
|---|---|---|
| Пролетарыят . . . . | 41,21 | 1,91 |
| Поўпролетарыят . . | 80,09 | 2,02 |
| Простыя таваравыт. . . | 86,80 | 3,76 |
| Дробна-кап. гасп. . . | 95,65 | 9,47 |
| Бяз розьніцы . . . | 81,31 | 3,29 |

Нажаль, па пытаньням абкладаньня і самаабкладаньня адсутнічаюць для супастаўленьня даныя датычаючыяся сялянства наогул.

Пры адсутнасьці такіх супаставімых лічбаў, прыведзеныя намі даныя губляюць, вядома, шмат у сваёй паказальнасьці.

# НАША ТРЫБУНА

Г. Брыгневіч.

## Аб увязцы работы гаспадарчых ВНУ і палітэхнікумаў з запатрабаваньнямі народнае гаспадаркі БССР.

*(Па матар'ялах НК РСІ БЕЛ.).*

„Неабходна шчыльная сувязь навукі, тэхнікі і вытворчасьці, неабходна рашучае набліжэньне навуковай працы да вырашэньня задач, якія стаяць перад прамысловасьцю, транспартам і сельскай гаспадаркай і іх забясьпечаньне дастатковымі кадрамі адпаведна падрыхтаваных тэхнічных сіл" (з рэзалюцыі Ліпеньскага пленуму ЦК УсеКП(б)—28 г.).

Генэральная лінія партыі аб шпаркай тэхнічнай рэконструкцыі народнае гаспадаркі і цьвёрдага накіраваньня яе разьвіцьця ў соцыялістычным напрамку высоўвае адно з галоўнейшых пытаньняў—падрыхтоўку тэхнічных кадраў. Гэтым пытаньнем у сучасны момант жвава цікавіцца ўся рабочая дзяржава, уся партыя. Гэта пытаньне перастала быць ведамственым, Наркамасьветаўскім, і ад правільнага яго вырашэньня залежыць у значнай ступені пасьпяховасьць разьвіцьця народнае гаспадаркі.

Капітальныя ўкладаньні ва ўсю дзяржаўную і цэнзавую прамысловасьць БССР у пяцігодзьдзе (260 міл. руб.), павялічэньне ліку рабочых у прамысловасьці (на 136%), павялічэньне валавой прадукцыі (з 156 м. р. да 653 м. р.), рост электраэнэргіі, укладаньні ў індустрыялізацыю сельскай гаспадаркі (25 м. р. на 479 прадпрыемстваў), укладаньні ў мясцовую і коопэрацыйную прамысловасьць (каля 50 міл. р.)—гавораць за неабходнасьць шырокага ўкараненьня ў прамысловасьць тэхнікі і поўнага забясьпечаньня яе спэцыялістымі.

Заданьне скончыць за пяцігодзьдзе ў асноўным землеўпарадкаваньне і лесаўпарадкаваньне, падняць ураджайнасьць на 40—45%, перавесьці на колектыўную апрацоўку 10% сельскай гаспадаркі, значна пашырыць машынізацыю сельскай гаспадаркі—таксама гаворыць за шырокае ўкараненьне тэхнікі ў сельскую гаспадарку і папаўненьне яе спэцыялістымі.

Пераход на інтэнсыўнае вядзеньне лесагаспадаркі—падсочка, камэрцыйная таксацыя, пяскоўмацаваньне, асушка 500 тыс. гэктараў балот (з іх для калфонду—150 тыс. гэкт.), павялічэньне таварнасьці сельскай гаспадаркі на 300%—ня можа прайсьці бяз поўнага забясьпечаньня гэтых мерапрыемстваў тэхнічнымі сіламі (агульнае ўкладаньне ў сельскую гаспадарку ў пяцігодзьдзе—406 міл. руб., з іх на капітальныя ўкладаньні—225 міл. руб.).

## Якія інжынерна-тэхнічныя сілы мы маем цяпер.

Колькасьць і ўдзельная вага інжынерна-тэхнічных сіл у агульнай масе членаў прафсаюзаў па вестках ЭМБІТ (май 1928 г.) па паасобных саюзах наступная: будаўнікоў—290—1,4%; дрэваапрац.—155—1,7%; харчавікоў—120—1,7%; хэмікаў—64—0,8%; мэталістых—63—1%; гарбароў—65—1,0%. Сярод інжынерна-тэхнічных сіл шмат маецца практыкаў у гарбароў іх—70%, у харчавікоў—76%, дрэваапрацоўшчыкаў—67%, чыгуначнікаў—40, папернікаў—52 і г. д. Па вестках ВСНГ у прамысловасьці (буйнай) БССР маецца зараз 101 інжынер і 164 тэхнікі, суадносіны да колькасьці рабочых—0,8%—забясьпечаньне прамысловасьці інжынерна-тэхнічнымі сіламі надзвычайна нізкае.

Амаль усе інжынеры, тэхнікі і практыкі патрабуюць перакваліфікацыі, асабліва калі прыняць пад увагу неабходнасьць рэканструкцыі нашай прамысловасьці. Па матар'ялах акруг склад тэхнікаў у акруговых гарадох у сваёй абсолютнай большасьці са слабай тэорэтычнай падрыхтоўкай, часам зусім нясканчыўшыя школы і амаль зусім незнаёмыя з новымі патрабаваньнямі гаспадаркі.

Па тых-жа самых вестках (ЭМБІТ) па БССР у 1928 г. налічваецца членаў агросэкцыі аграномаў 641 чал., членаў лесасэкцыі 768 чал., лесаўпарадчыкаў 731 чал., а разам 2141 чал.

Сярод гэтага пэрсоналю мы назіраем—у агросэкцыі з ніжэйшай асьветай 33%; лесасэкцыі 12%; земляўпарадчай ніжэйшай 22. З усяго складу кіраўнікоў саўгасаў з вышэйшай сельска-гаспадарчай асьветай—6%, сярэдн.—16 і ніжэйшай 36% і без усялякай сел.-гасп. адукацыі 42%.

Партыйная праслойка сярод кваліфікаваных працаўнікоў сельскай гаспадаркі надзвычайна нізкая—членаў КП(б) Бел. у агросэкцыі 48 чал., ЛКСМБ—37 чал., сярод землеўпарадчыкаў—членаў КП(б)Б—19 чал., ЛКСМБ—18 чал., у лесасэкцыі разам членаў КП(б)Б і ЛКСМБ—70 чал.

Наяўная колькасьць аграномаў, лясных працаўнікоў, гідротэхнікаў, культуртэхнікаў і інш. спэц. у значнай сваёй большасьці маладыя працаўнікі са стажам 1—5 гадоў. Склад іх вельмі цякучы, асабліва аграномаў, рух апошніх з пасады на пасаду ў працягу году ў паасобных акругах ня менш 40, а ў некаторых даходзіць да 60. Тэхнічныя сілы ў сваёй працы на вытворчасьці распылены, варацца амаль у сваім уласным соку, павышае сваю кваліфікацыю праз курсы нязначная колькасьць—каля 5,7% інжынерна-тэхнічн. працаўнікоў.

Колькасьць тэхнічных сіл у сельскай гаспадарцы амаль па ўсіх акругах недастатковая, часта па якасьці слабая.

У 1928 г. ў Мазырскай акрузе, сталых працаўнікоў па землеўпарадкаваньню 48 чал., часовых працаўнікоў 39 чал., з часовага складу з'арганізавана 5 партый, якія самі сябе абслугоўваюць, студэнт-практыкант сель.-гасп. акадэміі Л. М. Рэпэтуха скарыстоўвае гэта—падробляе дакумэнт і едзе сюды тэхнікам 3-га разраду.

У Аршаншчыне ў 1927-28 г. аграномічны штат запоўнен на 75%. „Увязкі працы паміж землеўпарадкаваньнем і агранаміяй не назіраецца ў той ступені ў якой гэта неабходна“. Па Мазыршчыне—„з землеўпарадкаваных да І/IV-28 г. 20 калектываў з агульнай плошчы зямлі ў 3.669 гэктараў, канчаткова пераведзена на шматпольле 6 з плошчай 829 гэктараў, што складае 22% ад землеўпарадкаванай плошчы; з 133 пасёлкаў з агульнай плошчай у 22.900 гэктараў канчаткова пераведзена на шматпольле 8 з агульнай плошчай 1399 гэктараў, што складае 6%.

Усяго канчаткова ўведзена шматпольле на 4% землеўпарадкаванай плошчы, такім чынам наглядаецца вялікі разрыў землеўпарадкаўчых мерапрыёмстваў з аграномічна-абслугоўваньнем землеўпарадкоўванага насельніцтва".

Аднадасова з гэтым, разьмеркаваньне спэцыялістых, якія сканчаюць ВНУ, Тэхнікумы і Палітэхнікумы і іх накіраваньне на працу праходзіць стыхійна.

Са скончыўшых у 1927-28 г. 134 аграномаў, лесаводаў і землеўпарадчыкаў на пасадах у БССР асталося 43 чал. У працягу 1925-28 г. г. с.-гасп. Акадэмію скончыла 604 чал. з іх, па вестках акадэміі засталося ў БССР 283 чал., ці 47%, а рэшта паехалі невядома куды.

З Барысаўскага аграномічнага тэхнікуму зараз працуе на вытворчасьці 12 чалавек з 4-х выпускаў, такім чынам уся маса выпускнікоў паехала ці ва ВНУ ці ў іншыя рэспублікі.

## Пэрспэктывы папаўненьня народнае гаспадаркі спэцыялістымі.

Згодна матар'ялаў ВСНГ у пяцігодзьдзе патрэбна 695 інжынераў і 1.020 тэхнікаў. Сучасны стан забясьпечаньня прамысловасьці інжынерна-тэхнічнымі сіламі і тэмп разьвіцьця прамысловасьці гаворыць за неабходнасьць прыняцьця гэтых лічбаў, як кажуць, „за аснову" для правядзеньня ў іх значных удасканаленьняў.

Пры нормальных выпусках нашых палітэхнікумаў, Менскага і Віцебскага, на пяцігодзьдзе ня хопіць тэхнікаў-будаўнікоў 225 чал., дарожнікаў 128 чал., тэхнікаў-хэмікаў 163, мэханікаў 220, а таксама амаль няма тэхнікаў для сельскага будаўніцтва.

Інжынернага складу патрэбна: мэханікаў 120 чал., цёплатэхнікаў 33, інжынераў электратэхнікі 74, хэмікаў інжынераў 163, будаўнікоў 234 і г. д.

Вялікі недахоп інжынерна-тэхнічных сіл высоўвае пытаньне аб адчыненьні ў БССР новых навучальных устаноў для падрыхтоўкі тэхнікаў, мэханікаў і тэхнікаў для сельскага будаўніцтва, а таксама тэхнічнага ВНУ па падрыхтоўцы інжынераў-мэханікаў і хэмікаў. Да гэтага часу НКА ня ставіў зусім пытаньня аб увязцы прыёму студэнцтва з запатрабаваньнямі прамысловасьці, у зьвязку з чым утварылася разьбежка паміж падрыхтоўкай і запросамі прамысловасьці, сучаснае становішча гэтае разьбежкі неабходна прызнаць для прамысловасьці ў некаторай меры катастрафічным.

Здавальненьне сельскае гаспадаркі каморнікамі, вэтурачамі, лесаводамі, гідротэхнікамі ў значнай меры аграномамі забясьпечваецца амаль пры тых нормах выпускаў, якія мугуць быць зроблены Акадэміяй і Тэхнікумамі, але разам з гэтым мы адчуваем вялікі недахоп у спэцыялістых для аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі, а таксама вялікі недахоп у спэцыялістых па сельска-гаспадарчаму будаўніцтву і гэты недахоп неабходна пакрыць адчыненьнем новых устаноў для паказаных спэцыяльнасьцяй.

Пры плянаваньні патрэбнасьці спэцыялістых па БССР, засталося нявысьветленым пытаньне аб суадносінах на вытворчасьці паміж спэцыялістымі сярэдняй, вышэйшай і ніжэйшай кваліфікацыі (катэгорый). Патрабуе таксама прапрацоўкі пытаньне аб тыпах спэцыяліста. Недастаткова прапрацован плян у частцы забясьпечаньня спэцыялістамі аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі.

Неабходна зьвярнуць увагу на тую акалічнасьць, што НКА па сугнасьці ня зможа ў бягучым пяцігодзьдзі дастаткова рэгуляваць падрыхтоўку і выпуск новых спэцыялістых з стацыянарных устаноў

ВНУ, тэхнікумаў і палітэхнікумаў паколькі выпуск з гэтых установызначаны тым контынгэнтам студэнцтва, якія вучацца цяпер. Гэта акалічнасьць вымагае ўзяць установку на шырокае адчыненьне скарочаных інстытуцыяў для падрыхтоўкі спэцыялістых і перападрыхтоўкі практыкаў, а таксама на распрацоўку мерапрыёмстваў па контрактацыі студэнцтва ў Вузах і Палітэхнікумах Саюзных Рэспублік.

Усе гэтыя моманты паказваюць, што вытворчым Наркаматам у працягу бліжэйшага часу (2—3 м-цы) неабходна ўдасканаліць свае пляны. Неабходна перагледзець нормы нагрузкі паасобных катэгорый спэцыялістых, увязаць заяўкі з контрольнымі лічбамі разьвіцьця прамысловасьці і сельскае гаспадаркі і ўстанавіць нормы суадносін паміж спэцыялістымі вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі к канцу пяцігодзьдзя, ўзяўшы пад увагу неабходнасьць запаўненьня пасад кіраўнікоў цэхаў спэцыялістымі, маючымі спэцыяльную тэхнічную асьвету (палітэхнікум ці тэхнікум).

Актуальнейшым пытаньнем стаіць прасоўваньне маладых спэцыялістых на больш адказныя пасады. У гэтым напрамку нам неабходна больш рашуча паставіць пытаньне аб укамплектаваньні штатаў акруговых каморнікаў, зямельных рэвізораў, начальнікаў землеўпарадкаўчых партый, лясьнічых асобамі з вышэйшай адукацыяй, таксама пры запаўненьні штатаў аграномаў, культуртэхнікаў, зоотэхнікаў высоўваць на больш адказныя пасады працаўнікоў з вышэйшай адукацыяй.

У галіне прамысловасьці ў сучасны момант неабходна перагледзець склад інжынераў, што працуюць у рэгулюючых і пляніруючых органах і апаратах (ВСНГ, дзяржплян і Трэсты), з пункту гледжаньня аслабаненьня тэй часткі з іх, якія займаюцца плянавай працай і могуць быць заменены экономістымі.

Жыцьцё высунула пытаньне аб неабходнасьці вызначэньня пры гаспадарчых органах і Наркаматах інстытуту штатных адзінак для разьмяшчэньня маладых спэцыялістых, якія скончаюць ВНУ, у мэтах іх практычнай падрыхтоўкі.

Гаспадарчым арганізацыям і профсаюзным аб'яднаньням і асабліва іх пярвічным ячэйкам (у зьвязку з вялікай колькасьцю пайшоўшых маладых спэцыялістых у гаспадарку), больш дэталёва назіраць за ўзаемаадносінамі старых і маладых спэцыялістых у мэтах палепшаньня.

НКЗ ВСНГ і НКА неабходна арганізаваць перакваліфікацыю спэцыялістых, увёўшы гэта мерапрыёмства ў сталы плян пяцігодкі. Тэмп перакваліфікацыі павінен быць узяты такі, каб у працягу 5 год прапусьціць праз курсы (у 1½—2 мес.) ня менш паловы інжынерна-тэхн. сіл. Адначасова неабходна пашырыць паездкі спэцыялістых за межы, а таксама на лепш абсталяваныя прадпрыёмствы СССР, для гэтае-ж мэты.

# ПЫТАНЬНІ КУЛЬТУРЫ, ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА

О. Конокоцін.

## Увага літаратурнаму фронту.

Культурная рэволюцыя—гэта адна з асноўных задач соцыялістычнае перабудовы нашае краіны. І зараз, разам з рашучым наступленьнем на ўсім фронце соцыялістычнага будаўніцтва мы рашуча разгортваем наступленьне і на культурным фронце, пачынаючы з барацьбы за пісьменнага чалавека і канчаючы вышэйшымі формамі культуры. І на гэтым фронце мы заваёўваем ўсё новыя і новыя позыцыі, перамагаючы старое—непатрэбнае і шкоднае. На фронце культуры мы змагаемся за новага чалавека, культурная рэволюцыя і ёсьць нішто іншае „як рэволюцыйнае перавыхаваньне самых шырокіх народных мас—перш за ўсё сялянства—для пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва“ *(Кнорын* „За культурную рэволюцыю“).

Справа перавыхаваньня шырокіх мас працоўных—складаная справа яна патрабуе і энтузыязму і правільнага разуменьня шляхоў, па якіх мы ідзем, яна патрабуе поўнай адданасьці пролетарыяту тых, хто непасрэдна змагаецца на гэтым фронце. Тут як і ўва ўсім нашым наступленьні мы павінны пільна сачыць за тым, каб кожны атрад, кожны ўдзельнік атраду на гэтым фронце ішоў у ногу з усім нашым будаўніцтвам, каб кожны шчыра і аддана змагаўся за комуністычнае перавыхаваньне шырокіх колаў працоўных.

Адным з атрадаў барацьбітоў на культурным фронце бязумоўна павінны зьяўляцца і нашы савецкія пісьменьнікі, а мастацкая літаратура павінна адыгрываць ролю аднаго з сродкаў барацьбы за новага чалавека.

Літаратура, як вышэйшая форма культуры павінна быць вострым аружжам у гэтай барацьбе і таму пытаньне аб далейшым разьвіцьці беларускай літаратуры ў сучасны момант набывае буйнейшае політычнае значэньне, бо разьвіцьцё літаратуры мы ні ў якім разе ня можам аддзяліць ад наступленьня на культурным фронце.

З агульнай мэты культурнай рэволюцыі наогул, з барацьбы за комунізм і вынікае тая політычная роля літаратуры, якая зараз паўстае перад ёю.

Адзін з організатараў КП (б) Б, які добра ведае шляхі культурнага будаўніцтва БССР, т. *Кнорын* у сваёй кніжцы „За культурную рэволюцыю“ так казаў аб літаратуры: „Трэба больш востра паставіць пытаньне аб разьвіцьці вышэйшых форм беларускай культуры (літаратуры, тэатру, музыкі) і аб абслугоўваньні гэтымі формамі рабочых мас“. Бязумоўна, што беларуская мастацкая літаратура павінна адпавядаць усім запатрабаваньням, якія вынікаюць з агульных задач культурнае рэволюцыі. Яна павінна абслугоўваць шырокія колы працоўных, змагацца за комуністычнае перавыхаваньне гэтых колаў, зьяўляцца надзейнай зброяй на культурным фронце. Адгэтуль вынікае пытаньне,

ці зьяўляецца ўся беларуская мастацкая літаратура *такой* зброяй, ці адпавядае яна ўсім запатрабаваньням, якія зьяўляюцца эусім бясспрэчнымі? Адказаць на гэтае пытаньне станоўча адносна *ўсяе літаратуры* ні ў якім разе нельга.

На сёньнешні дзень беларуская мастацкая літаратура не монолітна ў выкананьні гэтых задач. Паасобныя адзінкі і паасобныя зьвеньні беларускіх літаратараў яшчэ і дагэтуль не падпарадкавалі свае думкі і свае творчасьці магутнай волі пролетарскага колектыву. На літаратурным вучастку культурнага фронту мы яшчэ сустракаем варожыя выпады супроць волі пролетарыяту, супроць соцыялістычнай грамады. Праўда, у нас ёсьць шэраг паэтаў і нават цэлыя аб'яднаньні, якія робяць усё магчымае дзеля таго, каб літаратура сапраўды зьяўлялася адным з сродкаў выхаваньня чалавека соцыялістычнае грамады. Аб іх мы будзем казаць ніжэй, а зараз застановімся на тых шкодных, а часам і варожых зьявішчах, якія маюцца ў нашай літаратуры.

У момант абвостранай клясавай барацьбы, выкліканай рашучым наступленьнем соцыялістычных элемэнтаў па ўсім фронце нашага будаўніцтва, мы павінны больш пільна сачыць за шкоднымі праявамі варожых настрояў у будаўніцтве пролетарскай культуры і асабліва ў стварэньні пролетарскай літаратуры. Гэта неабходна таму, што ўплыў дробна-буржуазных элемэнтаў ужо адчуваецца ў літаратуры. Некаторыя пісьменьнікі ня толькі стаяць у баку ад політыкі і „твораць", а часам робяць вылазкі супроць новага. Ня трэба забывацца на тое, што „клясавае змаганьне ў галіне ідэолёгіі ў шэрагу галін ускладняецца шэрагам новых момантаў. Клясавы вораг унутры нас і ён уплывае на афармленьне нашае культуры. Шэраг пісьменьнікаў і вучоных зьвязаны з новай буржуазіяй, спрабуюць працягваць у савецкую навуковую і мастацкую літаратуру погляды і думкі, якія нічога агульнага ня маюць з пролетарыятам і адлюстроўваюць настроі гэтых колаў" (*Кнорын*, там-жа).

Часьцей за ўсё варожыя нам настроі падаюцца ў падфарбаваным, замаскіраваным выглядзе з „прывітаньнямі", з „пашанаю" да марксызму, з папярэднімі дэкларацыямі, аб сваёй пролетарскасьці, што іншы раз радавому чытачу можа здавацца і сапраўды пралетарскім і марксыцкім, тым часам, на справе гэта варожае, чужое і шкоднае нам.

Нас бязумоўна ня можа задаволіць ні „пашана да марксызму", ні бліскучыя сказы аб адданасьці пролетарыяту, а мы проста патрабуем ад нашага пісьменьніка яскравага адказу ў яго творчасьці на запатрабаваньні працоўных мас.

Мы павінны рашуча выкрываць усе праявы небясьпекі на літаратурным фронце як пры дапамозе кваліфікаванай марксыцкай крытыкі, так і пры дапамозе самога чытача беларускай літаратуры. Тым больш, што за апошні час на літаратурным фронце ўсё часьцей і часьцей мы наглядаем факты, якія сьведчаць аб наяўнасьці небясьпекі, аб няўмельнасьці, а часам і нежаданьні пэўных пісьменьнікаў падпарадкавацца політычным запатрабаваньням сучаснасьці.

Мы маем такія факты, калі амаль усё літаратурнае аб'яднаньне ў цэлым (Узвышша) дагэтуль не ўяўляе сабе задач, якія стаяць перад пролетарскай літаратурай. Там і дагэтуль вядуцца спрэчкі аб тым ці мажліва наогул існаваньне пролетарскай літаратуры.

У 6-м нумары часопісі „Узвышша", прысьвечанай 10-цігодзьдзю БССР узвышэнец т. Купцэвіч выказвае такія думкі аб пролетарскай літаратуры: „Яшчэ і цяпер канчаткова не разьвязана пытаньне аб мажлівасьці існаваньня наогул пролетарскай літаратуры, як літаратуры пераходнага пэрыяду". Цікава, што гэта гаворыцца ў той час, калі мы

маем ужо трапныя ўзоры пролетарскай літаратуры і цікава тое, што гэта гаворыць член партыі.

У тым-жа нумары мы знаходзім яшчэ ня менш выразную формуліроўку аб зьмесьце літаратуры. Спачатку гучныя словы, кляцьбы аб тым, што „Узвышша“ „рэволюцыянэр-паўстанец“, „рэволюцыянэр-будаўнік“, „конструктар“ і інш. выразы, і далей: „Гэта роль і значэньне „Узвышша“ адбіваецца і на яго пабудове і на структуры тых твораў, якія яно выдае *пад сьцягам творчасьці літаратуры нацыянальнай па форме і пролетарскай у сваёй імкненнасьці“*. Вось вам новы тып „рэволюцыянэра-конструктара“, ён „пролетарскі“ ў сваей імкненнасьці. Але гэтага мала. Слухайце, што „узвышэнцы“ пры сваёй „імкненнасьці“ лічаць галоўным у беларускай літаратуры: „змаганьне за беларускія формы беларускай культуры“ („Перад другім дзесяцігодзьдзем“, К. Чорны), як бачыце, нешта новае атрымалася ў руках „канструктараў“ замест адзінае правільнае формуліроўкі „культура нацыянальная па форме і пролетарская па зьместу“, „змаганьне за форму“ пры „імкненнасьці“—вось і ўсё.

У чытача дэклярацый і артыкулаў „Узвышша“ можа ўзьнікнуць такая думка, што тыя, хто пісаў, ня добра ведаюць палітграмату альбо памыліліся ў формуліроўках, можа інтуіцыя ў іх сапраўды пролетарская і творы сапраўдна сугучныя сучасным запатрабаваньням. Не, і тут ня добра. І ў мастацкіх творах тое самае. Адзін сьпявае гімны ўсёй зямлі, не заўважаючы клясавай дыфэрэнцыяцыі, якая адбываецца ў вёсцы („Зямля“—К. Чорны). Другі дагарае „на нязвыклай укомскай пасадзе“ („Калі асядзе муць“—Кляшторны). Трэці ў „беларускай форме“ паказвае „лірыка“ і „матэматыка“ з двухсэнсавымі развважаньнямі пра сучаснасьць (Дубоўка). Чацьвёрты творыць сваё „Рабінавае шчасьце“, мала зразумелае і нават не патрэбнае чытачу. Пяты піша лісты да сабакі (бо да людзей няма чаго пісаць?) і дасюль ён і яго т. т. не адмовіліся ад гэтых лістоў. Усе разам рэклямуюць сваю творчасьць праз *вульгарны* проспэкт, які подобен да рэклямы нізкай маркі і г. д.

Мы зусім ня хочам сказаць, што ў творчасьці узвышэнцаў няма нічога добрага, але наша мэта выкрыць шкодныя небясьпечныя зьявішчы ў беларускай літаратуры, а тым больш у „Узвышшы“, бо яно ня толькі сёньня блытаецца ў разуменьні задач, якія стаяць перад літаратурай. У першую гадавіну існаваньня свайго аб'яднаньня яны разам з запэўненьнем у адданасьці справе пролетарыяту абяцалі весьці грамадзкую працу пад кіраўніцтвам партыі. „З грамадзкай працай „Узвышша“ і ня думала парываць, спадзяючыся праводзіць яе і надалей *пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі ў магчымым для сябе кірунку і формах...*“ („Узвышша“—Уладзімер Дубоўка, газэта „Гудок“ № 114, 27 г.). Да гэтага наўрад ці патрэбны якія-небудзь заўвагі, гэта прызнаньне асьвятляе палітычную лінію ўчорашняга дню. Але, на жаль, і сёньня ўзвышэнцы гавораць самі аб сабе (у сваіх творах, на справе) так, што паміма жаданьня мы прымушаны сказаць: у гэтым зьвяне мастацкай літаратуры яшчэ шмат шкоднага, супроць чаго трэба змагацца з усёй рашучасьцю.

У другім зьвяне беларускай літаратуры—у аб'яднаньні „Полымя“ мы наглядалі нядаўна адкрытую вылазку контр-рэволюцыі, якая вырасла на глебе нацыянал-дэмократычных настрояў. Пачалося з усім вядомай тэатральнай дыскусіі і скончылася ганебным контр-рэволюцыйным вершам Дудара „Пасеклі наш край“. Мы ня будзем застанаўлівацца на аналізе таго, як нацыянал-дэмократызм прывёў да адкрытай контр-

рэволюцыі, гэта ў свой час правільна зрабіла „Зьвязда“ ў сваёй перадавіцы, а мы ставім пытаньне, якое цікавіць пролетарскую грамадзкасьць— ці займаецца „Полымя“ выхаваньнем сваіх сяброў, ці выкрышталізоўвае яно адзіную пролетарскую думку ў сваім аб'яднаньні, ці своечасова яно рэагуе на праявы нацыянал-дэмократызму ў сваіх шэрагах. Тым болей, што Дудар прышоў у літаратуру комсамольцам, што ў некоторых яго творах адбівалася сучаснасьць. У грамадзкі абавязак „Полымя“ як аб'яднаньня савецкіх пісьменьнікаў бязумоўна ўваходзіла падтрымаць маладога пісьменьніка, ня пусьціць яго пад уплыў клясавага ворага, чула і своечасова рэагаваць на хворыя настроі таго ці іншага сябра, а ў даным выпадку, як з Дударом, даць адпор, калі ён пачаў адкрыта выказваць нацыянал-дэмократычныя думкі, скласьці такія ўмовы ў аб'яднаньні, каб кожная праява нацыянал-дэмократычнага колеру не магла расквітаць. Нам здаецца, што аб'яднаньнем такое выхаваўчае работы не вялося, а калі і вялася дык значна слабей чымся расьлі нацыяналістычныя тэндэнцыі Дудара.

Гэта надзвычайна яскрава сыгналізуе аб тым, што „Полымя“ ў даным выпадку не вяло належнага змаганьня з нацыянал-дэмократызмам і ён перацягнуў у варожы лягер аднаго з сяброў аб'яднаньня. Мы выключна гаворым аб гэтым таму, што з нацыянал-дэмократычнымі тэндэнцыямі ў мастацкай літаратуры павінны змагацца ў першую чаргу беларускія пралетарскія пісьменьнікі і тым больш, што ў „Полымя“ ўваходзяць і некалькі вядомых пролетарскіх пісьменьнікаў-комуністаў. Змаганьне за чыстату клясавай лініі ў мастацкай літаратуры — гэта штодзённая задача кожнага аб'яднаньня, якое жадае працаваць на карысьць пролетарыяту, а „Полымя“ бязумоўна зьяўляецца такім аб'яднаньнем, якое ставіць сваёй мэтай змагацца за клясавы зьмест у творах сваіх сяброў. Гэта зразумела ўлічаць полымеўцы ў штодзённай працы, але небясьпекі не пазбаўлена і гэтае зьвяно беларускай літаратуры. І тут з боку такіх пісьменьнікаў, якія яскрава разумеюць шкоднасьць нацыянал-дэмократызму (бо нацыянал-дэмократызм варожы пролетарыяту), мы патрабуем больш клясавай чуласьці і рашучай барацьбы з усялякімі праявамі нацыяналістычных тэндэнцыяў, пад якой-бы шыльдай яны ні захоўваліся, ці пад „ветрам з усходу“, ці пад гімнамі „залатому веку“ і г. д.

Разам з гэтым патрэбна сказаць аб шкодных, а часам варожых матывах, якія дзе-ні-дзе зьяўляюцца і ў творчасьці асобных Белаппаўцаў. Тлумачыцца гэта тым, што БелАПП вядзе шырокую творчую працу ва ўмовах абвостранага клясавага змаганьня, што пры невыстарчальнай яшчэ выхаваўчай працы, ня можа ня ўплываць на паасобных яго сяброў, і яны робяць памылкі. Мы ўжываем зусім сьвядома слова памылкі, бо ў Белаппаўцаў не наглядаецца сыстэмы, сувязі паміж асобнымі хворымі матывамі ў творчасьці, а ёсьць іменна памылкі. Вось чаму аб гэтых памылках трэба гаварыць, бо яны шмат чаму вучаць і на што неабходна зьвярнуць увагу. Нейк дзіўна, калі малады таварыш, які нават добра і ня ведае старога, пачынае палохацца рэволюцыі, ідзе да бабулькі і лье сьлёзы аб тым, што ў рэволюцыі „брат душыць брата“ і сумуе па старому. Другі, таксама малады, захапляецца „жыцьцём кабацкім“. Трэці ня можа скончыць з каханьнем да „любай карміцелькі зямлі“ і інш. факты гавораць аб тым, што некаторыя яшчэ не абрасьлі пер'ем і, пачаўшы сьпяваць, іншы раз пераймаюць зусім непатрэбныя ноткі, якія чуюць ад старога. Уся бяда і складаецца з таго, што гэтыя т. т. яшчэ добра ня ўмеюць аналізаваць таго, што бачаць і вераць словам тых, каму ні ў якім выпадку нельга верыць. Часам бывае так, што „мёртвы хапае жывога“, зводзіць яго з правіль-

нага шляху. Хібы ёсьць і ў творчасьці пісьменьнікаў з Белаппу і аб іх трэба сыгналізаваць самому аб'яднаньню пролетарскіх пісьменьнікаў.

Мы не закранулі цэлага шэрагу прыкладаў, якія сьведчаць аб небясьпецы ў рабоце паасобных зьвеньняў нашых пісьменьнікаў, але мы лічым, што ўжо гэтых прыкладаў досыць каб зрабіць вынік, што небясьпека на літаратурным фронце патрабуе ад нас большай увагі чым дагэтуль.

Зусім зразумела, што чытач беларускай літаратуры ня можа палохацца тых небясьпечных праяў у літаратуры, аб якіх мы гаварылі, бо ў нас у беларускай літаратуры ўжо закладзены падмурак пролетарскай літаратуры, якая пераможа. Мы маем сапраўдныя пролетарскія творы, якія клічуць на змаганьне за соцыялізм, якія запаляюць энтузіязмам чытача.

Пролетарскі чытач, чытач працоўны ведае добра і сваіх „Босых на вогнішчы“ (Міхася Чарота), якія руйнавалі стары сьвет, ён з прыемнасьцю чытае аб партызане, які змагаўся за справу рэволюцыі (А. Звонака), яму блізкія слупы, якія пабеглі ад Асінбуду (М. Гольдберга), ён з гонарам пераможца чытае „Дзесяты падмурак“ (П. Труса), працоўнаму чытачу зразумелы такія рэчы, як „Андрэй Лятун“ (Лынькова), дзе ён апісвае жыцьцё рабочых чыгуначнікаў, чытач ведае і „Комсамолію“ (Чарота), і „Бальшавіка Бахрыма“ (Александровіча), яму зразумелы і „Гаспадар“ (Ц. Гартнага) і г. д.

Цэлы шэраг пролетарскіх пісьменьнікаў і ў першую чаргу т. т., якія ўваходзяць у БелАПП, ствараюць пролетарскую літаратуру, змагаюцца за яе гэгэмонію, даюць новыя вобразы, паказваюць барацьбіта за Беларусь Савецкую—за дыктатуру пролетарыяту, паказваюць і будаўніцтва, і тых, што будуюць новае, тое, што выхоўвае чытача і запаляе яго энтузіязмам будаўніцтва і барацьбы. Праўда, пролетарская літаратура ў нас яшчэ не зьяўляецца гэгэмонам, яна расьце. Пачатак яе быў закладзены ў 1921 годзе поэмай Міхася Чарота, „Босыя“ Чарота ўступілі ў бойку з старым, у паэме Чарот заклікаў:

„Хто ня наш, таго даві.
Босы хто—за намі ўсьлед,
Хто ўбогі, хто разьдзет...
Гэй за намі—ў новы сьвет...“

Шмат хто ў той час спалохаліся гэтага закліку, але тыя, каму „босыя“ былі блізкімі, роднымі, не спалохаліся, яны вылучылі з сваіх шэрагаў песьняроў маладых, бадзёрых, якія пачалі сьпяваць па-новаму. Паэма была „толькі першым этапам у разьвіцьці беларускай пролетарскай поэзіі“ (Кнорын—„На шляху да беларускай пролетарскай паэзіі“).

Мы наўмысьля затрымалі ўвагу на гэтай паэме таму, што адгэтуль ідзе крыніца новай тэматыкі, якая тады (у 1921-22 г.) знайшла сваіх аднадумцаў і прыхільнікаў у шэрагу маладых тады яшчэ пачынаючых пісьменьнікаў, якія ўтварылі аб'яднаньне „Маладняк“. Гэтае аб'яднаньне ў мінулым годзе канчаткова выкрышталізавалася ў аб'яднаньне пролетарскіх пісьменьнікаў і ўвайшло ў ВОАПП, як беларуская асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў. Сам па сабе ўваход „Маладняка“ ў ВОАПП сьведчыць аб політычным твары БелАПП'у, аб тым, што т. т., якія ўваходзяць у гэтае аб'яднаньне, зразумелі неабходнасьць цеснага саюзу з пролетарскімі пісьменьнікамі іншых саюзных рэспублік, бо літаратурная творчасьць клясавая і выступаць трэба разам з тымі, хто змагаецца за пролетарскую літаратуру—гэта першае. Па-другое—БеАПП аб'яднаў пролетарскіх пісьменьнікаў іншых нацыянальнасьцяй: яўрэяў,

палякаў, літоўцаў, латышоў, стварыў арганізацыяй афармленьне клясавага адзінства пісьменьнікаў усіх нацыянальнасьцяй.

На сёньнешні дзень БелАПП мае ў сваіх шэрагах шэраг беларускіх пісьменьнікаў, якія сваёй творчасьцю давялі адданасьць барацьбе за комунізм.—М. Лынькоў, Галавач, Трус, Мурашка, Ліманоўскі, Каваль і інш. за апошні час даюць ўсё вовыя і новыя творы, якія сьведчаць аб росьце беларускай пролетарскай літаратуры.

Станоўчым бокам зьяўляецца тое, што БелАПП вядзе барацьбу за чыстату клясавай лініі ў літаратурных творах свайго аб'яднаньня, вядзе выхаваўчую работу сярод сваіх членаў і за апошні час разгарнуў крытычную работу па ўсім літаратурным фронце, мае добрую сувязь з працоўнымі масамі праз літаратурныя вечары і сходы чытачоў. Вялікае значэньне для творчасьці БелАППаўцаў адыграе паездка т. т. на буйныя прадпрыемствы, калгасы, камуны і на торфараспрацоўкі, куды яны едуць сёлета працаваць.

Але ня гледзячы на рост пролетарскай паэзіі ў БелАППе, ня гледзячы на дасягненьні ў барацьбе за пролетарскую літаратуру, марксыцкая крытыка павінна дапамагчы БелАППаўцам у барацьбе за ідэйную чыстату твораў, у барацьбе за гэгэмонію пролетарскай літаратуры.

На жаль пры росьце літаратурнай продукцыі ў нас яшчэ слабая марксыцкая крытыка. І тут часам пад відам марксыцкай крытыкі выступаюць формалістыя, эклектыкі, якія нічога ня маюць агульнага з марксызмам (М. Байкоў, Цьвяткоў і інш.), яны ня толькі не дапамагаюць, але сваёй крытыкай робяць шкоду. Напрыклад: БелАППавец напісаў апавяданьне, у якім адбіў асабістыя сумныя настроі аб жыцьці сялянства Сібіры, а потым сам-жа крытыкаваў, а крытык захапіўся гэтым апавяданьнем і ўсхваляў прыгожасьць яго. Добра, што малады таварыш сам змог пакрытыкаваць крытыку, а калі-б пісьменьнік даверыўся крытыцы, дык было-б ня зусім добра.

„Пролетарскі характар нашае культуры можа быць забясьпечаны толькі бязьлітаснай крытыкай рэштак буржуазнага нацыянал-дэмократызму, бязьлітасным змаганьнем з пранікненьнем у беларускую пролетарскую культуру варожых пролетарыяту элемэнтаў буржуазнага сьветапогляду, усьведамленьнем нашымі маладымі культурнымі кадрамі марксыцкага сьветапогляду і мэтодолёгіі і сыстэматычнай падрыхтоўкай новых марксыцкіх кадраў культурных працаўнікоў з асяродзішча пролетарыяту і бяднейшых пластоў беларускага сялянства. Ухіленьне ад пастаноўкі якойнебудзь з гэтых задач абавязкова прывяло-б да скажэньня нашае лініі, да непролетарскіх дробна-буржуазных ухілаў у нашым культурным будаўніцтве, да скоўзваньня з пролетарскіх клясавых рэек, да паслабленьня позыцый рабочае клясы ў новай беларускай культуры.

Крытыка буржуазнага нацыянал-дэмократызму павінна заключацца, па-першае, у крытыцы таго багажу, які нам застаўся ад дарэволюцыйнай эпохі, па-другое, у крытыцы нацыянал-дэмократычных ухілаў і ўхільчыкаў, якія ёсьць у культурна-палітычнай, публіцыстычнай, навуковай і мастацка-літаратурнай дзейнасьці паасобных працаўнікоў як тых, што вырасьлі ў часе рэволюцыі з дробнай буржуазіі і сялянства, так і асабліва тых, хто перайшоў на службу рэволюцыі з лягеру нацыянал-дэмократыі і „адраджэнцтва“, па-трэцяе, у крытыцы спроб працягваць у нашу навуковую, публіцыстычную і мастацкую літаратуру поглядаў, якія разглядаюць нацыю як адзінае цэлае, якія ня бачаць клясавага

змаганьня ў мінулым Беларусі і недаацэньваюць клясавага змаганьня зараз“ (Вытрымка з Кнорына—„За культурную рэвалюцыю“, ст. 79).

За ажыцьцяўленьне гэтых задач крытыкі ўзялася літаратурная сэкцыя таварыства марксыстых. Ужо зроблены добры пачатак па разглядзе літаратурных і літаратуразнаўчых пытаньняў. Але т-ва марксыстых толькі распачало гэтую работу, яе трэба з усёй рашучасьцю пашыраць і паглыбляць, аб'ядноўваючы навокала пісьменьніцкую пралетарскую моладзь, выхоўваючы з яе стойкіх, сапраўдных марксыцкіх крытыкаў.

На літаратурным вучастку культурнага фронту ідзе жорсткая клясавая барацьба. Пролетарская літаратура робіць наступленьне на гэтым вучастку. Марксыцкая крытыка, пролетарская грамадзкасьць павінна дапамагчы ў барацьбе за гэгэмонію пролетарскай літаратуры.

Пасьпяховасьць барацьбы на гэтым фронце будзе забясьпечана пры ўмове ўдзелу ў гэтай барацьбе шырокіх колаў нашай партыі. Члены партыі, у першую чаргу тыя, хто працуе на культурным фронце, павінны больш чымся дагэтуль зьвярнуць увагу на тыя процэсы, якія адбываюцца ў літаратуры, выяўляючы клясавы характар мастацкіх твораў. Цьвёрда і выразна праводзіць клясавую пролетарскую лінію ў культурным будаўніцтве, весьці самую рашучую бязьлітасную барацьбу з чужой пролетарыяту ідэолёгіяй—гэта адна з чарговых задач, якія стаяць перад партыяй. Да выкананьня гэтае задачы і павінна быць прыкута ўвага членаў партыі, памятаючы, што мы цяпер ажыцьцяўляем лёзунг—„КП(б)Б на чале культурнага будаўніцтва“.

---

Г. Брыгневіч.

# Некалькі слоў аб мэтавай устаноўцы і навучальных плянах.

Тэхнічная рэконструкцыя і хуткі рост прамысловасьці, колектывізацыя, машынізацыя ў сельскай гаспадарцы — зьмяняе, ускладняе і робіць больш адказнай ролю спэцыялістых у вытворчасьці.

Сёньнешняя праца спэцыялістых, апрача агульна-технічных ведаў, патрабуе ад іх глыбокага знаёмства з мэтодамі рэконструцыі вытворчасьці, знаёмства з прыродай і эканомікай краіны, а таксама чоткай клясава-выразнай лініі па агульнай працы.

На нашыя запытаньні цэлага шэрагу вытворчых органаў і нашых дасьледчых інстытутаў аб якасьці спэцыялістых, выпускаемых сельскагаспадарчымі ВНУ і прамысловымі політэхнікумамі мы не атрымалі амаль ніводнага станоўчага адказу.

Белсельсаюз адказаў: нашыя спэцыялістыя—„тэорэтыкі, адарваныя ад жыцьця, мала знаёмыя з організацыяй і практыкай працы".

„Наколькі знаёмы з сельска-гаспадарчай коопэрацыяй? — самае адлеглае знаёмства, чыста тэорэтычнае і слабае".

Усебеларуская Акадэмія Навук адказала так: „Адзнакай нашых спэцыялістых трэба лічыць: слабую тэорэтычную падрыхтоўку, слабую сувязь з вытворчасьцю і слабае веданьне асаблівасьцяй Беларусі".

Другія ня былі скрамней. „Недастатковая снароўка ў правядзеньні клясавай лініі ў працы і ўвязцы працы з мясцовымі савецкімі і грамадзкімі організацыямі" (Мазырская акруга). „Слаба знаёмы з прыроднымі гістарычнымі і грамадзка-эканомічнымі асаблівасьцямі акругі, а ёсьць нават і такія, якія ня маюць агульна-геаграфічных зьвестак акругі і БССР" (Бабруйская акруга).

„Бываюць выпадкі, што студэнты прыяжджаюць на працу ў гаспадарку (колектыўную), ня маюць яскравага ўяўленьня аб гэтай гаспадарцы (Белсельтрэст).

Такіх адказаў—характарыстык мы маем дзесяткі, і, відаць, яны адбіваюць сапраўдную якасьць спэцыялістых, асабліва працуючых у галіне сельскай гаспадаркі і, у прыватнасьці, у агрономіі.

Улетку мінулага году дэканам Сельска-Гаспадарчай Акадэміі былі дадзены пытаньні аб мэтавай устаноўцы факультэтаў, апошняя з іх боку формулявана наступным чынам—факультэт (Аграфак) павінен даць спэцыялістага організатара вытворчасьці—расьлінавода, жывёлавода і эканомістага на шырокім навукова-тэорэтычным грунце. Лесфак павінен даць тып спэцыялістага гаспадарніка — лесавода па разьвядзеньні лясной гаспадаркі на шырокай навуковай базе. Дэканат Земфаку ня меў дакладна пастаўленага пытаньня аб мэтавай устаноўцы факультэту, але яму было даручана сказаць, як увязваецца яго праца з запатрабаваньнямі сельскай гаспадаркі, і ён пачынае свой адказ наступным чынам: „У ліку спосабаў узьдзейнічаньня на народ-

ную гаспадарку СССР у мэтах рэконструкцыі *яе ў вядомым напрамку*, адно з першых месц прыналежыць бясспрэчна зямлябудаўніцтву..."

Пры такой установоўцы працы факультэтаў мы не заўважваем асноўнага—імкненьня даць на вытворчасьць кіраўніка гаспадаркі ў соцыялістычным напрамку, рэорганізатара вытворчасьці, глыбока знаёмага з прыроднымі і экономічнымі ўмовамі БССР, політычна выхаванага, вытрыманага працаўніка, які-б мог здаволіць растучыя культурныя патрэбы працоўных.

Разам з гэтым, у навучальных плянах Акадэміі і ў штодзённай працы Акадэміі пытаньні рэконструкцыі і інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі ня маюць амаль ніякага адбітку. Па Лесфаку адбіты некаторыя моманты лесабудаўніцтва, рацыяналізацыі лесаэксплёатацыі, але на практыцы ня маецца магчымасьці паказаць гэта. Дастаткова сказаць, што ў пляне Мэліярацыйнага Факультэту зусім слаба адбіты дысцыпліны жалеза-бэтонных конструкцый і гідра-тэхнічных рухавікоў.

„Трэба катэгорычна сьцьвердзіць, што з прыроднымі і экономічнымі асаблівасьцямі БССР навучальныя пляны і програмы зусім слаба зьвязаны як у навучальных вышэйшых установах, так і ў Тэхнікумах",—такі дае водзыў аб навучальных плянах Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі.

Гэта паказвае, што навучальныя пляны Акадэміі ў значнай ступені пабудаваны тэорэтычна, без належнага вучоту працэсаў разьвіцьця сельскай і лясной гаспадаркі БССР. У прыватнасьці навучальная праца Аграфаку слаба адбівае жывёлагадоўчы ўхіл сельскай гаспадаркі БССР, плян мае вялікую шматпрадметнасьць. Па Лесфаку і Аграфаку мала прадметаў тэхнолёгіі прадукту жывёлагадоўлі, паляводзтва і лесагадоўлі. У пляне Мэляярацыйнага Факультэту амаль адсутнічаюць курсы аб асновах сельскай і лясной гаспадаркі, лесасплаву не аддаецца належнай увагі ў той час, калі гэтыя пытаньні ва ўмовах БССР маюць вялікае значэньне.

„Навучальныя пляны ўсё яшчэ перагружаны... Практыка правядзеньня навучальных плянаў і праграм недастаткова ўвязваецца з задачамі рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, менавіта: краязнаўства, коопэраваньне, індустрыялізацыя і рацыяналізацыя вытворчасьці" (з рэзолюцыі апошняга Пленуму ЦСПСБ).

Пры такой пабудове навучальных плянаў і напрамку працы Сельска-Гаспадарчай Акадэміі становіцца зусім зразумелым, чаму так рэзкі характарыстыкі спэцыялістых з боку нашых вытворчых і дасьледчых установ.

Здавалася-б, што гэтыя абставіны павінны выклікаць узмоцнены тэмп дасьледчай працы нашых спэцыялістых, а ў сапраўднасьці дасьледчая праца Акадэміі па вывучэньні прыродна-экономічных умоў разьвіцьця сельскай гаспадаркі вядзецца надзвычайна слаба і разрозьнена. НКЗ і НКА не выкарыстоўваюць навуковыя сілы ў гэтым напрамку. Навуковыя працаўнікі ня маюць магчымасьці дастаць неабходныя матар'ялы, слаба таксама адпускаюцца сродкі на дасьледчую працу (у мінулым годзе адпушчана 1800 руб., а ў гэтым годзе 15.000 р., але гэтых сродкаў недастаткова). Былі выпадкі, калі навуковыя працаўнікі зьвярталіся ў НКЗ за заданьнямі, але адказаў не атрымоўвалі. У сельска-гаспадарчых тэхнікумах ніякай дасьледчай працы не вядзецца.

Гэтыя моманты дыктуюць нам неабходнасьць далейшага ўдасканаленьня навучальных плянаў і програм у бок пашырэньня прадметаў па мэханізацыі работ, па высьвятленьні асноў сельскай і лясной гас-

падаркі БССР, а таксама вывучэньня прыродна-экономічных умоў яе разьвіцьця.

Пытаньні машынізацыі і рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, прымяненьне хэміі ў сельскай гаспадарцы—павінны з асаблівай дасканаласьцю вывучацца студэнтамі Акадэміі і ў пэўнай меры ў тэхнікумах, для чаго неабходна папоўніць катэдры і іх габінэты належным абсталяваньнем, а ў прыватнасьці—пашырыць паездкі профэсуры за межы і ў рэконструкцыйныя прадпрыемствы СССР для вывучэньня гэтых працэсаў на месцы.

Усё выкладаньне на курсах спэцыяльных дысцыплін павінна праходзіць пад пунктам гледжаньня ня толькі дачы тэхнічных ведаў, падняцьця тэхнікі індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі, а таксама і ўзбуйненьня яе, колектывізацыі, вытворчага коопэраваньня і пераважнасьці колектыву перад індывідуальнай гаспадаркай.

Некалькі лепш абстаіць справа з навучальнымі плянамі і разьмешчаньнем матар'ялу ў прамысловых Політэхнікумах. У Менскім Політэхнікуме гэтыя пытаньні атрымалі ў апошні час належны напрамак і афармленьне, да рэчы, тут праявіў значную ініцыятыву дырэктар тэхнікуму т. Станкевіч, але і тут ёсьць цэлы шэраг момантаў, якія патрабуюць тэрміновага вырашэньня.

Сувязь паміж Політэхнікумамі і прамысловасьцю БССР толькі зараз пачынае ўстанаўляцца. Стандартызацыя ня мае свайго адбітку ў працы Політэхнікуму (Архітэктурнае Аддзяленьне). Мэханізацыя работ праходзіць тэорэтычна, у Політэхнікуму нічога няма з навучальнага абсталяваньня па мэханізацыі вытворчасьці. Па дарожным Аддзяленьні з абсталяваньня маюцца толькі дзьве модэлі мастоў, дарожна-глебавай лябараторыі, якая асабліва патрэбна—няма. Па гідратэхніі і торпу наогул нічога няма з абсталяваньня. Хэмічнае Аддзяленьне Віцебскага Політэхнікуму ня мае спэцыяльных лябараторый, і спэцыялістыя слаба кваліфікаваны, яны толькі на апошніх курсах на вытворчай практыцы знаёмяцца з лябараторыямі і могуць атрымаць той ці іншы ўхіл.

Між іншым, прыём у Політэхнікумы падросткаў 14-ці гадовага ўзросту і выпуск тэхніка 18-ці гадовага ўзросту ня можа даць належнага эфэкту, паколькі ў гэты пэрыяд праходзіць фармаваньне організму і інтэнсыўна наладжаных заняткаў студэнт ня можа ўвесь час выконваць.

## Матар'яльныя ўмовы падрыхтоўкі спэцыялістых.

Жыльлёвыя ўмовы навучальных устаноў нездавальняючыя. Сельска-Гаспадарчая Акадэмія сумесна з Рабфакам мае 7 аўдыторый, з якіх толькі дзьве адпавядаюць свайму прызначэньню. Па вылічэньнях Праўленьня, Акадэміі не хапае—для аўдыторыі 300 кв. мэтраў, для габінэтаў і лябараторый—1430 кв. м., для Рабфаку—600 кв. м., пад згуртаваньне дасьледчай працы—400 кв. м., пад жылую плошчу профэсаром, рабочым і служачым 5319 кв. м., пад інтэрнаты—2536 к. м.

Абсталяваньне габінэтаў, бібліятэк, аўдыторый, гаспадарчых прадпрыемстваў ня ўсюды здавальняючае.

Рост каштарысу на с.-гасп. навучальныя ўстановы, у параўнаньні з агульным ростам дзяржаўнага каштарысу НКА, ніжэй. На вышэйшыя навучальныя ўстановы, абслугоўваючыя сельскую гаспадарку ў 27—28 г. асыгнавана 1.119.426 р., на Тэхнікумы—180.494 р., удзельная вага ў дзяржаўным каштарысе НКА—15,3 проц.; у 1928—1929 г. маецца рост па ВНУ—19 проц., а па Тэхнікумах—на 17 проц., пры росьце ўсяго дзяржаўнага каштарысу НКА—на 37,95 проц.

Матар'яльная забясьпечанасьць Палітэхнікумаў у 1928—1929 г. нормальна.

Процант забясьпечанасьці студэнцтва стыпэндыямі СГА—64 проц., Палітэхнікум 56, і С.-Гасп. Палітэхнікум—48 проц., пры сучаснай пролетарызацыі студэнцкага складу процант забясьпечанасьці зусім нізак, у зьвязку з чым стыпэндыі прыходзіцца драбіць, а гэта паніжае іх эфэктыўнасьць.

Цесната і запушчанасьць агульных памяшканьняў ВНУ, Палітэхнікумаў і Тэхнікумаў, шум і таўкатня ў будынках абсолютна ня спрыяе падрыхтоўцы студэнтаў да лекцый і прапрацоўцы матар'ялу ў вячэрні час.

Абсталяваньне майстэрняў ва ўсіх навучальных установах надзвычайна слабае, досыць сказаць, што майстэрні Менскага Політэхнікуму абслугоўваюць І-шы курс І-га аддзяленьня (Архітэктурнага, часткова Дарожнага), а 3 аддзяленьні ня маюць майстэрняў зусім.

Гэтыя абставіны вымагаюць неабходнасьць пабудовы ў С.-Гасп. Акадэміі 2-х будынкаў, для інтэрнату і габінэтаў, і пабудовы асобнага будынку для Менскага Політэхнікуму. Таксама павялічыць асыгнаваньні на навучальныя прылады і навучальнае абсталяваньне, асабліва на арганізацыю майстэрняў і прадпрыемстваў па апрацоўцы продуктаў і прадметаў, таксама павялічэньне ліку стыпэндый для студэнцтва і ў прыватнасьці ўстанаўленьне наркаматамі і вытворчымі органамі гаспадарчых стыпэндый.

## Аб лекцыях і пасьпяховасьці студэнцтва.

Наведваньне лекцый слухачамі вельмі неакуратнае, асабліва кепска наведваюцца лекцыі політэканоміі і замежных моў. Сэмінарскія заняткі студэнтамі наведваюцца таксама неакуратна.

Асабліва неабходна падкрэсьліць, што амаль ва ўсіх дысцыплінах не адбіваецца марксыцкая мэтодолёгія. Цэлы шэраг дысцыплін па розных прычынах праходзіцца зусім слаба. У 1927—1928 годзе па адным Мэлфаку БДА зусім ня пройдзена, ці пройдзена надзвычайна слаба, 16 дысцыплін.

Апошні пленум ЦСПСБ зафіксаваў—„Недастаткова разгорнутая выхаваўчая праца ў ВНУ і Тэхнікумах, незабесьпячэньне большасьці з іх марксыцкай мэтодолёгіяй выкладаемых дысцыплін, налічча сярод студэнцтва клясава-варожых і чуждых па ідэолёгіі настрояў—складае абставіны, пры якіх упаўне магчымы выпадкі антысавецкіх настрояў, антысэмітызму, нацыянал-шовінізму і г. д.“

Усё гэта ня спрыяе марксыцкаму афармленьню ідэолёгіі студэнта і яго пасьпяховаму прахаджэньню курсу.

„Мінімум выконваецца толькі 41 проц. паступіўшых студэнтаў, а 59 проц.—гэты мінімум ня выконваецца.

За 1927—1928 навуч. год мы маем 13,5 проц. скончыўшых Акадэмію адносна ўсяго ліку маючыхся ў Акадэміі, у мінулым годзе 13,9 проц. а ў пазамінулым—21 проц. Гэтыя лічбы паказваюць, што калі мы будзем прапускаць нашу продукцыю тэмпам гэтага году, то сярэдні тэмп навучаньня будзе 8 год, а ня 5. Вядома, што гэты хворы момант прыводзіць да пытаньня аб тым, якім чынам павялічыць колькасьць выпускаемай продукцыі, а гэта прыводзіць нас да думкі, што трэба павялічыць ня столькі агульны лік прыёму, колькі павялічыць прапускную здольнасьць Акадэміі, бо ў нас ёсьць 7—9 годкі, паўвечныя студэнты“—з дакладу рэктара Акадэміі т. Саевіча на Ўсебел. Агранам. Зьезьдзе.

Выкладчыкі ў Політэхнікумах, за нязначным выключэньнем, спэцыялістыя дзяржаўных органаў, працуюць у Політэхнікумах па сумясьціцельству, як звычай, слаба пэдагогічна падрыхтаваныя, частка з іх у працы Політэхнікумаў, як установы, не зацікаўлены, нагрузка выкладчыкаў, як правіла, малая—5—7—8—9 гадзін у тыдзень, частка выкладчыкаў Менскага Політэхнікуму, каля 25 проц., з сярэдняй адукацыяй. Усё гэта ў значнай ступені паніжае якасьць праходжаньня дысцыплін.

У барацьбе за пасьпяховасьць не малую ролю павінна адыграць упарадкаваньне з організацыйнага боку лекцый і практычных вучэбных заняткаў, іх трэба пабудаваць такім чынам, каб студэнт быў заняты на лекцыях і практычных занятках у дзень—у Тэхнікумах—6—7 гадзін, а ў Акадэміі максымум—8 гадзін. Таксама неабходна дабіцца акуратнага наведваньня сэмінарскіх заняткаў, лекцый і практычных заняткаў, таксама неабходна дабіцца акуратнага наведваньня лекцый з боку профэсуры і выкладчыкаў.

Неабходна, урэшце, прыступіць да выданьня падручнікаў па спэцыяльных габінэтах, дзе асабліва патрэбен адбітак вучэбнага матар'ялу з прыродай і экономікай БССР.

Упарадкаваньне грамадзкай працы ў навучальных установах, шчыльная яе ўвязка з акадэмічнай працай, накіраваньне яе на ўсебаковае палепшаньне вучобы ва ўстанове, аслабаненьне першага і чацьвёртага курсу ад грамадзкай працы (апрача профэсыйных і партыйных абавязкаў), дасьць таксама добрыя вынікі.

„Заваёва камандных высот у акадэмічнай галіне партыйцамі і комсамольцамі праз упартую і добрасумленную вучобу, аб'яднаньне навакол іх блізкіх нам беспартыйных студэнтаў, прыцягненьне найбольш актыўных і творчых работнікаў з выкладчыкаў і профэсуры—вось асноўная задача грамадзкай работы ўнутры ВНУ, настойліва дыктуемая ўсімі абставінамі“.

Дарэчы, нам патрэбна прыцягнуць спэцыялістых С.-Гасп. Акадэміі да выданьня популярнай літаратуры па агульных сельска-гаспадарчых пытаньнях для дзіцячых школьных бібліотэк і школ для дарослых і для вясковага агранома. Організаваць выданьне завочных сельска-гаспадарчых курсаў для вясковага настаўніка, разьлічаных на распаўсюджаньне сельска-гаспадарчых ведаў з шырокім прыцягненьнем студэнцтва старшых курсаў да гэтай працы.

## Практыканцтва.

Вытворчая практыка студэнцтва ў сучасны момант—самае хворае месца ў працы ВНУ і Тэхнікумаў. На практыку едуць ў першую чаргу студэнты тэхнічных факультэтаў і тэхнікумаў, а аграфакаўцы застаюцца ў сваёй значнай частцы бяз практыкі. У мінулым годзе па БССР аграфакаўцаў было паслана на практыку ў саўгасы, камуны і арцелі 4—5 чал.

У час практыкі практыкантамі ніхто ніколі ня кіруе.

У 1928 годзе па зямлябудаўнічым факультэце НКА было накіравана 60 нарадаў, але, за спазьненьнем часу іх атрыманьня, былі зьвернуты назад.

Лесфак заўважае—„Што робіць НКЗ'ем, ня ведае НКАсьветы, нарады практыкі дасылаліся несваечасова, у якіх ня было ўказана месца працы і пэнсія, што не дало магчымасьці сваечасова правесьці інструктаваньне ад'яжджаючых на практыку студэнтаў. Дэканат не атрымаў належных сродкаў для надрукаваньня інструкцый і студэнты пасылаліся без апошніх“. „Становішча вытворчай практыкі на лясным

факультэце нездавальняючае“... Па Аграфаку было запатрабавана 176 месц—дадзена НКА 22 месцы, ад розных устаноў БССР атрымана 42 месцы, ад устаноў РСФСР 25 м., разам—89. Агульных вынікаў не падведзена. Па лініі Белсельтрэсту практыка праходзіць стыхійна. Палажэньне аб практыканце, выпрацаванае Дэканатам, ня ўзгоднена ні з воднай гаспадарчай установай, чаму яно ні для каго не абавязкова. Ёсьць выпадкі, што студэнт, скончыўшы Аграфак, не знаём з фэрмаю.

Па Мелфаку—усе студэнты атрымалі практыку, але справаздачы аб ёй амаль ніхто ня даў і выявіць, як праходзіла праца, так і не ўдалося.

Таксама няма агульнай ацэнкі працы практыканцтва, што паказвае на вельмі раўнадушныя адносіны да гэтае справы Дэканатаў.

Пастаноўка вучэбнай практыкі ў навучальных установах зусім кепская—матар'ял для працы па жывёлагадоўлі ў Акадэміі (жывы інвэнтар фэрм) ня ўвязаны з племяной політыкай НКЗ.

На фэрмах, лясных дачах як Акадэміі, так і тэхнікумаў няма ніводнага прыкладу дапаможнага прадпрыемства па апрацоўцы жывёлаводных, ці расьлінаводных продуктаў, апрача запушчаных малочных, дзе можна апрацаваць адзін кепскі сорт масла. Заг. фэрмы Акадэміі ўлетку 1928 г. выказаўся такім чынам—„энэргію сонца і зямлі мы апрацоўваем у выглядзе палявых культур, апошнія прапускаем мы праз жывёлу і атрымоўваем продукт жывёлагадоўлі—вось і ўся наша індустрыялізацыя“.

Па прамысловасьці ВСНГ таксама не дае поўнай колькасьці месц для практыкі.

Мае месца пасылка і скарыстаньне практыканта не па прызначэньні ў Політэхнікумах. Звычайна да практыканта на прадпрыемстве адносяцца як да навязанай зьверху тратнай адзінкі і скарыстоўваюць практыканта „для апраўданьня вызначаных па каштарысе трат“. У гэтай галіне неабходна прымацаваць навучальныя ўстановы да прадпрыемстваў і ведамстваў на шэраг гадоў для адбываньня студэнтамі на прадпрыемствах і сельскай гаспадарцы вытворчай практыкі.

Усё кіраўніцтва вытворчай практыкай перадаць вытворчым органам, пакінуўшы за НКА агульнае кіраваньне вытворчай практыкай з боку яе адпаведнасьці навучальным плянам і мэтавым задачам ВНУ, Тэхнікумаў і Політэхнікумаў.

Пры складаньні плянаў і програм па вытворчай практыцы прыцягнуць працаўнікоў прадпрыемстваў і кіраўнікоў сельскай гаспадаркі, на якіх будзе працаваць практыкант.

Студэнтам Аграфаку неабходна адбываць у абавязковым парадку адно лета ў арцелі, камуне для знаёмства з колектыўнымі формамі зямлякарыстаньня. Гэтыя мерапрыемствы дадуць магчымасьць упарадкаваць і гэты адсталы хвост у працы навучальных устаноў.

Да гэтага часу ніхто ня ўзяў на сябе адказнасьці за якасьць выпускаемага спэцыялістага, ніхто ня хоча характарызаваць выпускніка на на падставе яго тэорэтычных ведаў і практычнай працы ў працягу вучобы—ні вытворчыя органы, ні навучальныя ўстановы. Існуючы парадак выпуску спэцыялістых садзейнічае гэтай безадказнасьці. Спэцыялісты, скончваючы навучальную ўстанову, атрымоўвае пасьведчаньне, што ён скончыў яе і праслухаў пэўную колькасьць навук, або прадметаў, на гэтым і скончваецца яго характарыстыка. Гэты парадак выпуску трэба зьмяніць.

# НА МЯСЦОХ

І. Дорахаў.

## За якасьць партмасавай работы на прадпрыемствах.

*(Да ітогаў абсьледаваньня Пролетарска-Слабодзкай райпарторганізацыі, Віцебскае акругі).*

Складанасьць задач цяперашняе паласы соцыялістычнага будаўніцтва ставіць перад намі ва ўвесь рост проблему падвышэньня якасьці партыйнага кіраўніцтва і, у прыватнасьці, задачу максымальнага паляпшэньня якасьці партыйнай і масавай работы на прадпрыемствах. Конкрэтызацыя партыйнага кіраўніцтва, вучот практычнага вопыту, кантроль і праверка выкананьня, умелая організацыя актыўнасьці рабочых мас вакол каранных пытаньняў вытворчасьці на грунце шырокага разгортваньня самакрытыкі і яе праламленьня ў практычнай рабоце, стварэньне вакол парторганізацый шырокага і моцнага рабочага актыву, большая гібкасьць форм і зьместу масавай работы, вось тыя рашучыя зьвеньні, за якія трэба ўхапіцца, каб пасьпяхова вырашаць асноўную задачу, задачу максымальнага ўзмацненьня тэмпу соцыялістычнага будаўніцтва.

Тым часам вопыт абсьледаваньня шэрагу прадпрыемстваў і раённых організацый БССР гаворыць нам аб тым, што іменна гэтыя рашаючыя зьвеньні зьяўляюцца найбольш слабымі ў агульнай сыстэме нашай работы. Вопыт работы абсьледаванай ЦК КП (б) Б Пролетарска-Слабодзкай організацыі асабліва выпукла выпучвае гэтыя недахопы партработы на прадпрыемствах.

I.

Першым буйнейшым недахопам у рабоце значнай часткі парторганізацый зьяўляецца *дэкляратыўнасьць, неконкрэтнасьць кіраўніцтва.* Гэта выражаецца ў няўменьні злучаць прынцыпіяльную лінію з вучотам канкрэтных умоў і асаблівасьцяй данага раёну і данага пэрыяду, у распыленьні ўвагі на мноства задач замест завастрэньня яго на асноўных, самых першарадных, у дубліраваньні дырэктыў вышэйстаячых парторганаў без конкрэтызацыі і прыстасаваньня іх да асаблівасьцяй данага раёну, ячэйкі, альбо прадпрыемства. У выніку гэтага палітычная лінія (правільная сама па сабе) аказваецца пазбаўленай конкрэтнага зьместу і адбіваецца толькі ў агульных рэзолюцыях, не знаходзячы праламленьня ў практычнай штодзённай рабоце. На гэты недахоп ў першую чаргу і хварэе Пролетарска-Слабодзкая раёная парторганізацыя.

Зьмест і ўстаноўка ў рабоце РК і ўсёй організацыі ня былі ў належнай меры ўвязаны з конкрэтнымі ўмовамі і асаблівасьцямі раёну. Ажыцьцяўляючы сваё кіраўніцтва ў напрамку вынясеньня агульных, самых па сабе, бясспрэчных дырэктыў, распыляючы ўвагу на мноства задач, РК ня сумеў у патрэбнай меры мобілізаваць увагу організа-

цыі на самых важных, асноўных задачах, што выцякаюць з асаблівасьцяй раёну.

Райком абслугоўвае тры прадпрыемствы: фабрыка „Дзьвіна“—1898 рабочых, лесазавод—354 рабочых, фанэрны завод—328 рабочых. Чым характарызуюцца *ўмовы работы*, якія *асаблівасьці раёну*? Папершае, наліччa ў складзе рабочых вельмі вялікай праслойкі новых рабочых, частка якіх зьвязана з вёскай, а частка—выхадцы з дэклясаваных, абывательскіх элемэнтаў гораду, нізкі культурны і палітычны ўзровень рабочых і асабліва работніц (430 няпісьменных), па-другое, цяжкія бытавыя ўмовы (нізкая зарплата на „Дзьвіне“, жыльлёвы крызіс, недастатковая сецьбытавых устаноў (ясьлі, дзіцяч. сад), адсутнасьць нормальных бытавых умоў для культмасавай работы (клюб на „Дзьвіне“ не працуе), перашкоды з сыравінай, меўшыя месца на „Дзьвіне“ ў мінулым годзе, зношанасьць абсталяваньня асноўнага прадпрыемства раёну ф-кі „Дзьвіна“, маладая па стажу парторганізацыя (65% з Кастрычнікаўскага закліку і пазьней), слабасьць партактыву. Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што ў складзе рабочых „Дзьвіны“ 78% работніц.

Усе *гэтыя асаблівасьці высоўвалі з асаблівай вострасьцю і ставілі на першы плян задачы*: максымальнае ўвагі і энэргічнай работы па ўзмацненьню і бальшавізацыі самой парторганізацыі, напружанай работы па выхаваньню новага папаўненьня організацыі, патрабавалі большай пільнасьці, выразнай лініі ў рэгуляваньні росту організацыі (якасны адбор), дакладнага вывучэньня складу рабочых і прыстасаваньня форм і зьместу масавай работы да запытаньняў розных прапластовак рабочых (работа з новымі пластамі, з рабочымі, зьвязанымі з вёскай, з работніцамі, моладзьдзю), організацыі штодзённай работы па барацьбе з адсталымі настроямі, організацыі рабочых мас наўкола конкрэтных задач вытворчага будаўніцтва і г. д.

Усё гэта ня было ў належнай меры ўлічана Райкомам. У сыстэме парткіраўніцтва і ў зьмесьце партыйнай і масавай работы гэтыя задачы ня былі высунуты на першы плян, вакол іх ня было ў *належнай меры* мобілізавана ўвага організацыі. Гэта ня значыць, што РК гэтымі пытаньнямі не займаўся. У дырэктывах РК большасьць гэтых пытаньняў знайшлі адбітак ў сэнсе вынясеньня пастаноў аб „узмацненьні“, „ажыўленьні“ і г. д. Але ў практычнай рабоце шэраг гэтых важнейшых задач былі стушаваны, зацёрты мноствам іншых дырэктыў і пастаноў.

Калі праглядзець пратаколы РК, дык можна там знайсьці дырэктывы амаль па ўсіх пытаньнях: і аб рацыяналізацыі, і аб зьніжэньні сабекошту, аб камсамоле, аб росьце організацыі, рэконструкцыі, нацрабоце, клюбнай рабоце, рабоце ў цэху і г. д., і г. д.

І з другога боку, калі паглядзець практычную пастаноўку работы ў гэтых галінах у цэхах, на заводах, будзе зусім відавочным, што агульныя дырэктывы РК вельмі слаба адбіты на справе. Па-першае, РК недастатковa конкрэтызаваў свае дырэктывы прыстасоўча да паасобных ячэек і прадпрыемстваў, па-другое, загружаў нізавыя ячэйкі мноствам самых разнавідных дырэктыў, адцягваючы гэтым іх увагу ад самых важнейшых, і па-трэцяе, не організаваў работы па контролю і праверцы выкананьня.

Вось чаму перад Пролетарска-Слабодзкай організацыяй, як і перад усімі нашымі парторганізацыямі, з усёй вострасьцю высоўваецца пытаньне *аб неабходнасьці максымальнай канкрэтызацыі парткіраўніцтва*. Трэба ўмець для кожнай данай організацыі вылучыць ў вызначанай галіне работы і на вызначаны пэрыяд тыя задачы, якія зьяўляюцца

асноўнымі, рашаючымі, выходзячы пры гэтым з вучоту ўсіх ўмоў работы організацыі і на гэтых асноўных задачах зрабіць галоўны ўпор, згрупаваць галоўныя сілы.

II.

*Няўменьне організаваць растучую актыўнасьць рабочых мас вакол каранных пытаньняў вытворчасьці, недастатковае разгортваньне самакрытыкі* і слабое яе праламленьне ў практычнай рабоце—другі асноўны недахоп у рабоце організацыі. Самакрытыка яшчэ да гэтага часу слаба разгорнута сярод рабочых і работніц, асабліва на „Дзьвіне". З боку асобных працаўнікоў раёну было дапушчана некалькі выпадкаў грубага парушэньня рабочай дэмократыі і камандаваньня. Напрыклад: пры абгаварэньні пытаньня аб новым майстру і падмайстру ў матальным цэху на „Дзьвіне" на сходах рабочых (пытаньне было дрэнна падрыхтована), калі работніцы сталі выказвацца за астаўленьне старога майстра, дык Заг. АПА РК, што вёў сход, заявіў: „партыя яго (старога майстра) паставіла, партыя і здымае і няма чаго аб гэтым гаварыць". Работніцы абурыліся: „Калі партыя і ставіць і здымае, дык нашто нас сюды пазвалі". Частка работніц дэмонстратыўна сабралася выходзіць. Тады з боку кіраўнікоў сходу пачуліся пагрозы: „выключым з саюзу" і г. д. і нават пагражаючы грукат кулаком па стале. Прыкладна такі-ж малюнак паўтарыўся на сходзе рабочых другой зьмены. Гэтыя выпадкі выклікалі вялікае абурэньне работніц. Характарна, што РК рэагаваў на гэтыя выпадкі толькі праз 3 м-цы.(!)

Пры правядзеньні перавыбараў фабкому „Дзьвіны" ў мінулым годзе, з прычыны слабой падрыхтоўкі і няўдалых мэтадаў і тэхнікі галасаваньня кандыдатур у рабочых засталося пераконаньне, што з боку парторганізацыі быў націск. У выніку аўторытэт фабкому з першых дзён быў падарваны. Ня рэдкі размовы: „што партыя захацела, то і правяла, а з намі ня лічылася".

Агульныя сходы рабочых праводзяцца бяз усякага парадку, без належнай падрыхтоўкі, рашэньні агульных сходаў слаба выконваюцца і не наладжана інформацыя аб выкананьні. У выніку—нізкая наведваемасьць сходаў (на „Дзьвіне" 45%), часты зрыў сходаў і недавольства рабочых: „На агульным сходзе пастанавілі адно, а праводзяць другое", „нашто хадзіць на сходы, усё адно рашэньні агульных сходаў ня выконваюцца". Райкомам была дапушчана грубая памылка ў пытаньні *вылучэньня.* Усяго было высунута за 1928 г. да 30 чалавек, з іх толькі адзін беспартыйны. Гэта натуральна, выклікае нездавальненьне рабочых і работніц. Толькі ў гэтым годзе лінія ў пытаньні вылучэньня была выпраўлена.

Работа па ўцягненьню мас *у вытворчае будаўніцтва*, больш-менш здавальняюча пастаўлена на лесазаводзе. На „Дзьвіне" становішча ў гэтай адносіне нездавальняючае. Ня гледзячы на цяжкое становішча фабрыкі, устарэласьць і зношанасьць абсталяваньня, дэфіцытнасьць, павышэньне сабекошту (на 11%),—рабочыя масы яшчэ слаба прыцягваюцца да абгаварэньня пытаньняў вытворчага жыцьця. Слабая падрыхтоўка вытворчых нарад, недастатковы ўдзел рабочых („Дзьвіна" 16%, фанерны завод—23%, лесазавод—30%), у рабоце нарад выпушчаны такія важнейшыя пытаньні, як рацыяналізацыя, упарадкаваньне рабочага дню, зьніжэньне сабекошту, якасьць продукцыі, маруднае і ня зусім дастатковае выкананьне рашэньняў вытворчых нарад і неналаджанасьць інформацыі аб выкананьні, не разьвіта вынаходзтва, дзелавыя прапановы рабочых слаба выконваюцца.

Такім чынам мы бачым, што *задача шырокага разгортваньня самакрытыкі і мобілізацыя на гэтай падставе актыўнасьці мас Пролетарска-Слабодзкай організацыяй яшчэ далёка ня вырашана.* Самакрытыка застаецца яшчэ ў стадыі агульных размоў, мэтады самакрытыкі слаба прымяняюцца да вырашэньня практычных задач будаўніцтва,

У цеснай сувязі з задачай організацыі актыўнасьці мас стаіць пытаньне *работы з рабочым актывам.* У сучасны момант у сувязі з цяжкасьцямі вытворчага будаўніцтва пытаньне аб стварэньні вакол ячэек на прадпрыемствах шырокага беспартыйнага рабочага актыву набывае выключна важнае значэньне. Тым часам гэтаму пытаньню з боку парторганізацыі зусім не аддаецца ўвагі. Лепшыя актывісты рабочыя і работніцы не вывучаліся, ня ўлічваліся, ніякай работы з імі не праводзіцца. Сходы ячэек на „Дзьвіне“ наведвае 2—5 беспартыйных. Работа профдэлегацкага інстытуту не наладжана: нерэгулярнае скліканьне, слабая яўка (30—40%). Іншыя формы работы з беспартыйным актывам ня ўжываюцца. Неабходна адзначыць, што на большасьці нашых предпрыемстваў, таксама як і ў Пролетарска-Слабодзкім раёне работа з беспартыйным рабочым актывам пастаўлена дрэнна ці зусім не вядзецца. Таму *неабходна перад усімі парторганізацыямі паставіць задачу стварэньня моцнага рабочага актыву* шляхам прыцягненьня да кіраўніцтва лепшых элемэнтаў рабочае масы. Гэтым самым мы створым на прадпрыемствах рабочы касьцяк, апіраючыся на якія ячэйкі здолеюць узмацніць уплыў на адсталыя пласты рабочых і пасьпяхова змагацца з адмоўнымі настроямі сярод іх.

III.

*Гібкасьць форм і зьместу масавай работы,* ахоп ёю ўсяе масы рабочых, прыстасаваньне масавай работы да культурнага ўзроўню, запытаньням, бытавым умовам розных праслоек рабочых,—усё гэта зьяўляецца аднэй з цэтральных задач, ад вырашэньня якой залежыць пасьпяховасьць работы парторганізацый у важнейшых галінах. У тойжа час масавая работа зьяўляецца самым слабым зьвяном у рабоце Пролетарска-Слабодзкай організацыі.

Рашаючым недахопам зьяўляецца тое, што масавая работа не прыстасавана да розных прапластовак рабочых (кваліфікаваныя рабочыя, новыя рабочыя, рабочыя, зьвязаныя з вёскай, і г. д.). Ні РК, ні цэхавыя ячэйкі на „Дзьвіне“ ня маюць выразнага ўяўленьня аб складзе рабочых. Ніякай асабістай работы з новымі пластамі рабочых не вялося, таксама як не прыстасавана работа да абслугоўваньня рабочых, што жывуць у вёсцы, не організавана работа па месцу пражываньня рабочых і г. д. У выніку вельмі значная частка рабочых і работніц застаюцца не ахопленымі масавай работай.

Праўда, трэба ўлічваць і асобныя цяжкасьці вядзеньня масавай работы ў гэтым раёне. Адсталасьць значнай часткі рабочых, вялікая адлегласьць ад фабрыкі да месца пражываньня (да 800 рабочых жывуць у горадзе—3—5 вёрст ад раёну, да 200 у вёсцы), поўная непрыстасаванасьць клюбу на „Дзьвіне“ для работы (патрабуе капітальнага пераабсталяваньня), цяжкія бытавыя ўмовы асабліва жанчын, што перашкаджае іхнаму ўдзелу ў культ. рабоце і т. п. Але менавіта гэтыя цяжкія ўмовы патрабавалі максымальнай гібкасьці, дыфэрэнцыяцыі форм і зьместу масавай работы да ўзроўню, запытаньняў і бытавых умоў рабочых, а гэтага вось і ня было. Напрыклад, у пасёлках пры прадпрыемствах (у дамох Жылкоопэрацыі) жывуць 157 сем'яў рабочых, а культработа там зусім не вядзецца. Перапынак на полудзень

вельмі слаба выкарыстоўваецца. Не наладжана работа па абслугоўваньню рабочых, якія жывуць у горадзе.

Насьценгазэта на „Дзьвіне“ ня выходзіць з мая 1928 г. Ліквідацыя няпісьменнасьці пры наліччы да 500 няпісьменных арганізавана дрэнна (у лікпунктах лічыцца 102, фактычна вучыцца меней).

Пры ўсім гэтым зусім не наладжан вучот настрояў і запытаньняў рабочых, і ў зьмесьце масавай работы рэагаваньне на гэтыя настроі вельмі слабое. Вельмі слаба працуюць групавыя організатары і агітатары. І РК і ячэйкі ня ўлічваюць ўсяе важнасьці задачы організацыі штодзённай работы па выхаваньню новых рабочых і па барацьбе з адсталымі настроямі сярод іх, у той час, як яны прыносяць з сабой на прадпрыемствы антысэміцкія настроі, настроі акаляючага іх дробна-буржуазнага атачэньня, праяўляюць нядбайныя, нясумленныя адносіны да вытворчасьці і г. д.

Толькі ў тых выпадках, калі гэтыя настроі праяўляюцца на справе, напрыклад, пабоі рабочага яўрэя і т. п., РК узьнімае шум. Такім чынам замест папярэджаньня падобных зьявішч, організацыя становіцца на абарончую пазыцыю.

У выніку маюцца досыць частыя выпадкі адкрытых антысэміцкіх выступленьняў, налічча антысэміцкіх і шовіністычных настрояў сярод асобных груп рабочых, некаторы рост рэлігійных настрояў, нядбайныя адносіны да вытворчасьці, рвачаства, п‘янства і г. д.

Пры шматнацыянальным складзе рабочых, пры наліччы значнай праслойкі рабочых, зьвязаных з вёскай, перад раённай організацыяй ва ўвесь рост паўставала задача шырокага, энэргічнага разгортваньня нацработы. Але ў гэтай надзвычайна важнай галіне амаль зусім нічога ня зроблена. Работа па беларусізацыі не разгорнута, гурткі беларускае мовы зрываюцца (не прыстасаваны да зьмен, слабая яўка на заняткі) ва ўсім раёне выпісваецца ўсяго 30 экз. „Зьвязды“ (няма ніякай работы сярод рабочых яўрэяў (264 чал.) і палякаў (194 ч.). Не організавана работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню. У бібліятэках вельмі мала літаратуры на нацыянальных мовах.

*Пытаньні работы сярод жанчын* таксама маюць важнае значэньне для Пролетарска-Слабодзкай організацыі, бо на осноўным прадпрыемстве—фабрыцы „Дзьвіна“ налічваецца 71% жанчын (1367 ч.) Але і ў гэтай галіне асаблівымі дасягненьнямі пахваліцца нельга. Можна толькі адзначыць некаторы пералом (за апошнія часы) у адносіне вылучэньня работніц (за год з 47 вылучэнцаў—18 жанчын), хоць колькасьць вылучэнак-жанчын пры такіх суадносінах складу рабочых мужчын і жанчын, якія маюцца на „Дзьвіне“, яўна недастатковая. Якія-кольвек дасягненьні маюцца ў пастаноўцы работы дэлегацкіх сходаў. Вельмі дрэнна абстаіць з абслугованьнем работніц бытавымі ўстановамі. На 1367 работніц маецца адзін дзіцсад на 40 дзяцей і той не прыстасованы да зьмен, матар‘яльнае становішча яго дрэннае (брудна, не хапае ложкаў). Ясьлі ахопліваюць усяго 80 дзяцей і таксама вельмі дрэнна абсталяваны.

Работніцы слаба ўцягваюцца ў вытворчае жыцьцё. Удзел іхны ў вытворчых нарадах вельмі слабы, дэлегацкія сходы работніц не выкарыстоўваюцца для ўцягненьня работніц у справу паляпшэньня і рацыяналізацыі вытворчасьці; прымацаваныя да вытворчых камісій дэлегаткі не запрашаюцца на пасяджэньні. Нездавальняюча пастаўлена палітвыхаваўчая работа сярод работніц, пры наліччы да 400 няпісьменных работніц, лікпунктамі ахоплена вельмі мала, не разгорнута сетка гурткоў для работніц. Зусім недастаткова партпраслойка сярод работніц (агульная партпраслойка 14,5%, сярод работніц—8,2%) і адста-

ваньне ўдзельнае вагі работніц у складзе парторганізацыі (39%) ад удзелінае вагі іх на фабрыцы (70,5%) амаль ніякага кіраўніцтва з боку ячэек работай жанаргаў няма.

Нельга не застанавіцца ў некалькіх словах на комсамольскай рабоце. Комсамольская організацыя ў раёне досыць значная—717 чалавек. Гэта вялізарны рэзэрв, з якога парторганізацыя пры ўмове належнай работы па яго выхаваньню, магла-б чарпаць падмацаваньне ў сваёй рабоце. Тым часам у практычнай рабоце парторганізацыі ўвага комсамолу была яўна недастатковай. Цэхавыя ячэйкі, напрыклад, проста недаацэньваюць значэньня работы ў комсамольскай організацыі, у некаторай мерцы гэта назіралася і з боку РК. У штодзённай рабоце практычнай дапамогі комсамолу з боку РК і ячэек робіцца мала. Партпрымацаваныя слаба дапамагаюць комсамольскім ячэйкам. Лепшым паказальнікам слабасьці партыйнай работы сярод комсамольцаў зьяўляецца тое, што сярод 76 прынятых у партыю пасьля Кастрычнікаўскага закліку комсамольцаў усяго 10 чалавек. Партасяродак у комсамольскай організацыі складае ўсяго 74 чалавекі. Зусім дрэнна ў раёне з піянэр-рухам (усяго 106 піянэраў).

IV.

Як было сказана вышэй, *задача ўзмацненьня і бальшавізацыі парторганізацый* стаіць у гэтым раёне асабліва востра. Гэта тлумачыцца вельмы маладым па стажы складам арганізацыі і слабасьцю партактыву. Акрамя таго, трэба ўлічыць вялікі рост організацыі ў час Кастрычнікаўскага закліку (на 200 чал.—100% да складу організацыі да Кастрычнікаўскага закліку (пры недастатковай увазе да адбору прымаемых (пагоня за колькасьцю), што прывяло да некаторай зацярушанасьці організацыі. Ня гледзячы на ўсё гэта, пытаньні партвучобы, пытаньні выхаваньня новага папаўненьня не занялі належнага месца ў рабоце організацыі. Дрэнна організавана вучоба, якой ахоплена ўсяго 59% членаў і 56% кандыдатаў, дрэнны падбор кіраўнікоў, нізкае наведваньне заняткаў (60%), у ячэйках ня створана належнага настрою вакол значэньня партвучобы. Ня было праяўлена патрэбнай энэргіі для пастаноўкі выхаваўчай работы з новым папаўненьнем і з адстаючымі партыйцамі. Не мабілізавана ўвага ячэек вакол пытаньняў росту. Рост ідзе самацёкам, разам з гэтым назіраецца рэзкае падзеньне тэмпу росту пасьля Кастрычнікаўскага закліку (прынята 76 чал.). Буйным недахопам зьяўляецца тое, што РК ні разу не праводзіў якаснага аналізу росту. Ячэйкі ня зусім сур'ёзна, падчас, падыходзяць да прыёму новых кандыдатаў (на фанэрным заводзе прынялі двух кандыдатаў, а яны аказаліся антысэмітамі і хуліганамі).

Работа паразьясьненьню сутнасьці *правага ўхілу,* па барацьбе з яго канкрэтнымі праяўленьнямі носіць несыстэматычны, адцягнены характар. У выніку ўсяго гэтага ўнутры-партыйнае становішча організацыі нельга прызнаць задавальняючым. У арганізацыі назіраецца наліччa правых і прымірэнчых настрояў сярод асобных партыйцаў і недаўразуменьне сутнасьці правага ўхілу сярод значнай часткі організацыі. Ёсьць антысэміцкія настроі сярод асобных партыйцаў. Вельмі вялікая колькасьць хваравітых зьявішч (за год падпала партспагнаньню 23% організацыі, з іх: за антысэмітызм—67, нявытрыманасьць—13 чал., п'янства—18, халатныя адносіны да вытворчасьці—9, іншыя праступкі—32). Выключана 22, мэханічна выбыла 18.

З прычыны дапушчаных памылак пры правядзеньні Кастрычнікаўскага закліку, і, галоўным чынам, з прычыны таго, што РК і ячэйкі не

ўдзялілі патрэбнае ўвагі на выхаваньне і замацаваньне новага папаўненьня, маецца вельмі вялікі адсеў партыйцаў Кастрычнікаўскага закліку (14%). Значная частка партыйцаў Кастрычнікаўскага закліку застаецца і зараз палітычна слаба разьвітаю, нядобра орыентуецца ў пытаньнях партжыцьця, часта дапускаюць парушэньне партдысцыпліны.

Такое становішча ставіць перад РК і АК, як першачарговую задачу—*ідэолёгічнае ўзмацненьне організацыі, яе ідэйнае выхаваньне* і загартаваньне на практычнай рабоце, задачу паляпшэньня якаснага складу організацыі, узмацненьня тэмпу росту і максымальнага ўзмацненьня работы на партасьвеце. Гэтыя задачы павінны быць ў цэнтры ўсяе работы.

Наступнай па важнасьці, задачай раённай організацыі зьяўляецца задача выхаваньня і *падрыхтоўкі нізавога партыйнага актыву, і* ў сувязі з гэтым—максымальнае *ўзмацненьне работа нізавых зьвеньняў* партыі на прадпрыемствах. Да абсьледаваньня работа нізавых зьвеньняў (групоргі, груп. агітатары, зьменжаноргі) была вельмі слабая з прычыны дрэннага падбору іх і дрэннага інструктажу. Вось некалькі ілюстрацый. 6-я Цэхячэйка „Дзьвіны“ слухала справаздачу групорга, які заявіў: „Аб сваёй рабоце нічога не магу сказаць, як весьці работу ня ведаю“. Ячэйка пастанаўляе: „Прапанаваць таварышу больш сур'ёзна адносіцца да работы“. Па дакладу другога групорга пастанавілі: „Прапанаваць наладзіць падпіску на газэты“. У І-й цэхячэйцы ў ліку 4 групоргаў было вылучана 2 кандыдаты партыі і 2 члены партыі з 1928 г. Работа іх зводзіцца на апавяшчэньне аб сходах, разносцы павестак („на пасылках“). Адзін групорг нават ня ведаў да абсьледаваньня, што ён мае гэтую нагрузку. 5-я цэхячэйка слухала дырэктыву РК аб узмацненьні работы групоргаў і пастанавіла: „Даручыць АПА ячэйкі заслухаць аб іх рабоце“.

V.

На вопыце *парткіраўніцтва вытворчым жыцьцём,* асабліва яскрава выяўляюцца слабыя месцы, недахопы работы Пролетарска-Слабодзкай організацыі (як і шмат іншых нашых організацый). Няўменьне ўхапіцца за самае галоўнае, практычна, па-дзелавому падыйсьці да вырашэньня конкрэтнага пытаньня вытворчага характару, формальнае, неконкрэтнае кіраўніцтва, дубліраваньне дырэктыў вышэйшых органаў без ужываньня іх да кожнага данага выпадку — вось што кідаецца ў вочы пры праверцы кіраўніцтва РК і ячэек гаспадарчым жыцьцём.

РК вельмі шмат прызначыў увагі пытаньням вытворчага будаўніцтва, напісаў шмат (мусіць занадта шмат) дырэктыў, але ня здолеў дапамагчы ячэйкам, навучыць іх практычна, па сутнасьці вырашаць пытаньні свайго заводу ці цэху, ня здолеў мобілізаваць актыўнасьць партмасы на вырашэньні важнейшых, галоўных пытаньняў вытворчага жыцьця.

У выніку, пры наліччы мноства дырэктыў РК, пры павялічэньні ўдзельнае вагі вытворчых пытаньняў у рабоце ячэек, роля і ўзьдзейнічаньне ячэек на вытворчасьць слабыя. Уся бяда ў тым, што ячэйкі, ня ўмеючы адшукаць галоўнае ў жыцьці свайго цэху, ня ўмеючы канкрэтна яго рашыць, саскоўзваюцца на шлях формальнага рашэньня, што на практыцы, у жыцьці ніякага адбітку не паказвае. Вось, напрыклад, 4-я цэхячэйка „Дзьвіны“ слухала пытаньне аб прагулах у матальным цэху. Пытаньне простае, канкрэтнае. Ячэйка павінна была намеціць дзелавыя мерапрыемствы, а яна выносіць пастанову: „Абавязаць зьмен-

оргаў весьці разьясьняльную работу". Гэта было ў лістападзе 1928 г., а ў сьнежні гэтая-ж ячэйка, разглядзеўшы дырэктыву аб працоўнай дысцыпліне, пастанавіла: „Прыняць да ведама". 5-я цэхячэйка таксама „прыняла да ведама" дырэктыву аб зьніжэньні адм.-гасп. выдаткаў; на партдні 2-й цэхячэйкі ў сакавіку г. г. слухалася справаздача цэхавога вытворчага бюро. Дакладчык паведаміў, між іншым, што ў ліку 50 злосных прагульшчыкаў 15 камуністаў гэтага цэху. З месца задаюць пытаньні: „А хто яны, назаві прозьвішча". Тады раздаюцца пратэстуючыя галасы: „Нашто. Ня трэба. Дзеля чаго гэта". Два разы ставілася на галасаваньне пытаньне—гаварыць ці не прозьвішчы прагульшчыкаў комуністаў і толькі пасьля другога галасаваньня нязначнай большасьцю галасоў парашылі назваць прозьвішчы. За цэлы год ячэйка ні разу ня ставіла пытаньня аб прац. дысцыпліне і ня цікавілася пытаньнем аб прагульшчыках камуністах. На даным партдні ніякіх вывадаў з паведамленьня цэхвытворчага бюро ня было зроблена. У гэтай-жа ячэйцы меў месца другі яскравы выпадак. Адзін партыец на заўвагу беспартыйнага рабочага аб нядбайных адносінах першага да вытворчасьці, вылаяў рабочага і заявіў: „Чаго стараешся. Калі-б ты раней сказаў аб гэтым гаспадару, атрымаў-бы пяць рублёў нагароды, а цяпер старайся, ні старайся ўсё адно". Беспартыйны рабочы паскардзіўся ў ячэйку. Разьбіраючы гэты інцыдэнт на партдні, ячэйка зусім не зьвярнула ўвагі на недапушчальныя адносіны камуніста да вытворчасьці, а ўвесь разбор справы зьвяла да пытаньня аб тым, што камуніст палаяўся з беспартыйным і за гэта (толькі за гэта) вынесла яму вымову.

У сувязі з такімі адносінамі ячэйкі да пытаньняў вытворчага жыцьця ня рэдкі выпадкі злосных прагулаў з боку камуністаў, нядбайныя адносіны да машын, расхлябанасьць і г. д.

## VI.

За апошнія паўтара гады ЦК КП(б)Б было абсьледавана некалькі раённых організацый (Слуцак, Барысаў, Заслаўль, Хоцімск і г. д.). Усюды зьвяртаюць на сябе ўвагу *недахопы кіраўніцтва Райкомамі з боку Акруговых Камітэтаў*, слабасьць практычнай дапамогі раённым організацыям. Гэта патрэбна канстатаваць і ў адносінах кіраўніцтва Віцебскага АК Пролетарска-Слабодзкай організацыяй. Значная частка віны за слабасьць работы райпарторганізацыі кладзецца на Віцебскі Акругком.

У лютым 1928 году Пролетарска-Слабодзкая організацыя была абсьледавана Акругкомам. Бюро АК (старога складу) па дакладу абсьледаваньня райорганізацыі вынесла рэзолюцыю, якая можа служыць яскравым узорам бюрократычнага кіраўніцтва; вось як ацэньвала Бюро АК становішча і работу організацыі:

„Бюро АК адзначае здаровае становішча організацыі, асабліва атрымаўшае выраз у рашучым адпоры опозыцыі; маецца ўздым актыўнасьці організацыі на грунце правільнага правядзеньня ўнутры-партыйнай дэмократыі, работа РК і організацыі праводзілася ў суадпаведнасьці з дырэктывамі партыі і АК, *маецца дастатковае іх выкананьне* (падкрэсьлена мною—*І. Д.*) і правільнае прыстасаваньне к асобным асаблівасьцям у раёне. У практычнай рабоце за справаздачны пэрыяд маюцца наступныя, найбольш істотныя дасягненьні: а) дастатковае кіраўніцтва РК работай прадпрыемстваў пры адпаведнай увазе правядзеньню дырэктыў па ўздыму вытворчасьці працы, правядзеньню рэжыму экономіі паляпшэньню якасьці, зьніжэньню

сабекошту вырабаў; б) значнае задавальненьне культурна-бытавых патрэб рабочых; в) паляпшэньне зьместу і практычных вынікаў работы вытворчых ячэек пры наліччы правільнага кіраўніцтва іх работай з боку РК; г) дастатковая работа па ўцягненьню ў партыю; д) здавальняючая пастаноўка партасьветы".

У дырэктывах АК няма ніводнага канкрэтнага пункту, які-б спыняўся на ўвазе раённай організацыі да спэцыфічных, вузлавых задач данага раёну, ні слова аб барацьбе з ухіламі і г. д.

*Прыведзены вышэй „пахвальны ліст", выданы Акругкомам раённай організацыі, бясспрэчна паменшыў пільнасьць організацыі, дэзарыентаваў яе. Ацэнка Бюро АК зусім не адпавядала сапраўднаму становішчу організацыі.*

Прывяду некалькі фактаў, што характарызуюць становішча ў раёне ў пэрыяд непасрэдна папярэдні вынясеньню гэтай ацэнкі. У вывадах РК па прапрацоўцы тэзісаў да 15 партзьезду прыводзяцца факты, якія гавораць аб наліччы ў гэты час сярод часткі організацыі хістаньняў па пытаньню аб трацкізьме. У сьнежні 1928 г. былі буйныя непаразуменьні на пабудове фанэрнага заводу (няправільна, убытковае будаўніцтва, безгаспадарнасьць, расхлябанасьць). Ня была выканана дырэктыва аб зьніжэньні сабекошту і зьніжэньні адм.-гасп. выдаткаў. Назіраліся выпадкі антысэмітызму. На фанэрным заводзе прапала на 40.000 руб. сыравіны. Слабае ўцягненьне рабочых у работу па рацыяналізацыі, зьніжэньне сабекошту і г. д. Дрэнная работа вытворчых нарад. Зрыў сходаў па перазаключэньню калдагавароў на „Дзьвіне" і гэтак далей, і гэтак далей.

Другі раз Віцебскі АК зьвярнуўся да пытаньня аб становішчы Пролетарска-Слабодзкай організацыі ў лістападзе 1928 г. Бюро АК 27/XI, заслухаўшы інфармацыю аб выніках райпартконфэрэнцыі Пролетарска-Слабодзкага раёну, вынесла наступнае рашэньне:

„Констатаваць, што, як выявілася на працягу работы райпартконфэрэнцыі, у Пролетарска-Слабодзкай парторганізацыі назіраецца:

а) *панаваньне паўнейшага ідэолёгічнага разброду* (падкрэсьлена мною — *І. Д.)*, які садзейнічае пранікнавеньню ідэолёгічна-чужых настрояў; б) налічча склочных элементаў... в) налічча сялянскіх настрояў, якія выразіліся ў някрытычных адносінах да „скаргаў сялян", галоўным чынам кулацка-серадняцкай часткі; г) налічча правага ўхілу, які атрымаў выраз у недаацэнцы клясавай барацьбы ў вёсцы, у скаргах на падтрымку з боку партыі і сав. улады „бедняка-лодыра", пры адначасовым нажыме на серадняка; д) неразуменьне сур'ёзнасьці і неабходнасьці барацьбы з антысэміцкімі настроямі і зьявішчамі;... е) небальшавіцкі падыход да справы вылучэньня жанчын на кіруючую работу".

Якія-ж крокі зрабіў Акругком пасьля дачы такой зьніштажаючай ацэнкі становішча організацыі?

Адзінае—гэта што ён трохі ўзмацніў жывую сувязь з раёнам (наведваньне РК, ячэек, прадпрыемстваў работнікамі АК). Але раён застаўся ня ўзмоцнены работнікамі, дапамога ў організацыі партвучобы была слабая. Галоўная-ж віна Акругкому заключаецца ў тым, што ён не дапамог Райкому пабудаваць сваю работу ў суадпаведнасьці з асаблівасьцямі раёну, ня здолеў сваечасова выправіць ня зусім правільную ўстаноўку ў сыстэме работы РК і ячэек.

## VII

Шмат якія з асноўных недахопаў работы Пролетарска-Слабодзкай парторганізацыі ў большай ці меншай меры наглядаюцца амаль ва ўсіх нашых вытворчых ячэйках, Райкомах і нават Акругкомах. У рабоце Про-

летарска-Слабодзкай арганізацыі гэтыя недахопы толькі больш выразна выяўляюцца на фоне агульнай слабасьці складу арганізацыі і аб'ектыўных цяжкасьцяй работы. Таму, вопыт Пролетарска-Слабодзкай арганізацыі дае нам магчымасьць рабіць вывады, якія адносяцца да ўсіх нашых арганізацый.

Яшчэ раз з усёй рашучасьцю перад усімі нашымі парторганізацыямі трэба паставіць пытаньне аб зжыцьці дэкляратыўнасьці парткіраўніцтва. Трэба рашуча выгнаць з практыкі нашай работы мэтады пісаніны (а часта сьпісваньня) безьліч агульных рэзалюцый, што паўтараюць, (нярэдка скажаючы) дырэктывы вышэйстаячых органаў, рэзалюцый не конкрэтызаваных прыстасоўча да ўмоў работы, асаблівасьцяй кожнай данай ячэйкі альбо арганізацыі.

Усе нашы арганізацыі, пачынаючы ад ячэйкі і канчаючы Акругкомам, павінны навучыцца будаваць сваё кіраўніцтва, выходзячы з самага дасканалага вучоту ўмоў і абставін работы, вучоту практычнага вопыту, асабістасьці абставін данага пэрыяду. Канкрэтызаваць парткіраўніцтва, пераносячы цэнтр цяжкасьці на практычную жывую дапамогу нізавым арганізацыям, на ўзмацненьне нізавых зьвеньняў партыі,—такая важнейшая задача, без вырашэньня якой мы і далей няўхільна будзем сутыкацца з буйнейшымі недахопамі ва ўсёй нашай рабоце.

У цеснай сувязі з гэтым стаіць пытаньне аб арганізацыі вучоту вопыту контролю і праверкі выкананьня. Раней усяго неабходна прадставіць нізавым ячэйкам больш ініцыятывы, самастойнасьці ў справе вышукваньня новых форм і мэтадаў работы. Мы, часам, залішне зьвязваем ініцыятыву ячэек, даючы па ўсякаму поваду гатовы трафарэт, прадназначаны для ўсіх арганізацый, ня гледзячы на асабістасьці ўмоў работы кожнай ячэйкі ці раёну. У пытаньнях выбару форм культурнамасавай работы, у справе ўдасканаленьня арганізацыйнай структуры нізавых зьвеньняў на прадпрыемствах і т. п.—трэба даць больш самастойнасьці ячэйкам, арганізаваўшы дасканалае вывучэньне і абагульваньне практычнага вопыту работы.

Ва ўсёй рабоце павінен быць зроблен упор на арганізацыю кантролю і праверкі выкананьня. Рашуча становячыся на шлях скарачэньня пасяджэньняў і нарад, скарачэньня пісьмовых дырэктыў, выкарыстаць вольныя дзякуючы гэтаму час і сілы на жывую праверку практычнай работы, на праверку фактычнага выкананьня важнейшых дырэктыў партыі.

Вопыт Пролетарска-Слабодзкай арганізацыі і шэрагу другіх, вучыць нас таму, што самымі слабымі месцамі ў рабоце многіх арганізацый зьяўляюцца: пастаноўка масавай работы, разгортваньне самакрытыкі і ўцягненьне мас ў гаспадарчае будаўніцтва. Гэтыя тры задачы павінны быць пастаўлены ў цэнтры ўвагі парторганізацыі *).

---

*) З часу абсьледаваньня Прол.-Слабодзкае арганізацыі да надрукаваньня гэтага артыкулу ў яе рабоце адбыліся некаторыя зьмены ў сэнсе палепшаньня паасобных галін. Але-ж асноўныя вынікі, якія выходзяць з вопыту работы арганізацыі, застаюцца ў моцы.

Н. Клебанаў.

# Што паказала абсьледваньне Нова-Беліцкай партарганізацыі.

*(Гомельская акруга.)*

Праведзенае Акруговым Камітэтам партыі абсьледваньне Нова-Беліцкай партыйнай арганізацыі мела на мэце праверыць, наколькі парторганізацыя ў практычнай рабоце праводзіць і выконвае важнейшыя дырэктывы партыі з часу XV Зьезду УсеКП(б) і наступных яго пленумаў, таксама праверку выкананьня дырэктыў, дадзеных Акругкомам па дакладу Нова-Беліцкай організацыі ў чэрвені 1928 г.

Да абсьледваньня-праверкі быў прыцягнуты партыйны актыў, з якога было вызначана больш 35 чалавек, непасрэдна што працуюць ў адпаведных камісіях. Да абсьледваньня была прыцягнута ўся партыйная організацыя і беспартыйны актыў, з якім была праведзена спэцыяльная нарада, а таксама нарада комсамольскага актыву. Усё гэта дала найбольшую магчымасць выявіць як дадатныя, так і адмоўныя бакі работы.

Абсьледваньне організацыі ў асноўным паказала, што работа яе за мінулы пэрыяд праходзіла пад кутом выкананьня асноўных задач партыі і адпаведных дырэктыў АК. Пытаньні барацьбы з адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі і, галоўным чынам, барацьба з правым ухілам і прымірэнчымі да яго адносінамі на шляху з разаблачэньнем астаткаў трацкізму, у асноўным праходзіла правільна, што прыблізіла да большага ідэолёгічнага зьбліжэньня організацыі. Нова-Беліцкая парторганізацыя, як прамысловая, значную частку сваёй работы напраўляла па лініі выкананьня партыйных дырэктыў у гэтай галіне: узмацненьне вылучэньня рабочых і работніц на кіруючую работу.

Аднак, ня гледзячы на некаторае палепшаньне ў рабоце організацыі ў параўнаньні з мінулым—больш рашучым зьнішчэньнем хворых зьявішч, маецца яшчэ цэлы шэраг асноўных буйных недахопаў і слабае выкананьне партыйных дырэктыў у важнейшых галінах работы.

### Унутрыпартыйнае становішча організацыі.

Стан партыйнай організацыі характарызуецца тым, што яна, ня гледзячы на здавальняючы сацыяльны склад (з 550 членаў і кандыдатаў партыі—493 рабочых), у большасьці зьяўляецца організацыяй па партыйнаму стажу маладой. Аб гэтым ясна гавораць лічбы партыйнага стажу. Больш 50% складу організацыі—з 28—29 г., 25, 26 і 27—170; 23—24—76; 19, 20, 21 і 22—42 і толькі 27 чалавек са стажам з 17, 18, 19 г. Пры тым з большага маладыя рабочыя яшчэ недастаткова пераварыўшыся ў пралетарскім катле, на якіх яшчэ маецца дробна-буржуазны ўплыў акружаючага атачэньня. Калі да гэтага дадаць яшчэ вельмі нізкі культурны і палітычны ўзровень значнай часткі членаў

арганізацыі, ня спрыяючыя ўмовы, менавіта: нізкая зарплата ў некаторых цэхах ф-кі „Везуві“, 2 і 3-х зьменная работа, большая колькасьць работніц, зьвязаных з вёскай, што шкодзіць правядзеньню культурнаасьветных мерапрыёмстваў, дык стане зразумелым шэраг хворых і адмоўных зьявішч, якія маюць месца ў арганізацыі. Наліčча ўсіх гэтых умоў зьявілася і зьяўляецца глебай для праяўленьня правага ўхілу і прымірэнчых да яго адносін.

Арганізацыя ў барацьбе з гэтымі ўхіламі прарабіла вялікую работу (выявіўшы групу трацкістаў на лесазаводзе), аднак, што ў сябе выяўляе правы ўхіл, недастаткова яшчэ зразумела значная частка партыйнай масы, і часта ў практычнай рабоце настроі правага ўхілу не знаходзяць дастатковага рашучага адпору. У некаторых ячэйках да гэтага часу яшчэ маюцца настроі правага ўхілу, так, напрыклад, у ячэйцы чыгуначнікаў ст. Беліца, член партыі заяўляе: „Вывозяць хлеб за межы, накладаюць непасільныя падаткі на сялян і рабочых“, а ў ячэйцы мэханічных майстэрняў, член партыі заяўляе: У„ партыю цяпер ніхто ня пойдзе, бо партыя прад'яўляе патрабаваньні павышэньня прадукцыйнасьці працы, што зьяўляецца вялікім націскам“, гэты-ж самы таварыш на пытаньне „ці выйдзе партыя з некаторых цяжкасьцяй, што маюцца цяпер?“ адказвае: „не магу сказаць, выйдзе ці не“. У ячэйцы „Чырвоны хімік“ два члены партыі заяўляюць: „хлеба не хапае, няправільная наша палітыка, паніжаюцца ўраджаі, падае жывёла, серадняка пераападаткавалі, ён стараецца прадаць сваю жывёлу“.

Некаторыя партыйцы ня бачаць правага ўхілу, у той час, як гэты самы ўхіл іх саміх акружае. На сьпірта-гарэлачным заводзе ў працягу году ідзе склока, паасобныя партыйцы канчаткова згубілі партыйны твар, выступаючы супроць арганізацыі паказальных брыгад у сац. спаборніцтве, паддаліся дробна-буржуазнаму ўплыву, а кіраўнікі ячэйкі выступаюць з заявай, што „ў нас правага ўхілу няма“. З боку некаторых ячэек у прадпрыёмствах, дзе працуе значная колькасьць рабочых і работніц, зьвязаных з вёскай, якія прыносяць на ф-ку дробнабуржуазныя, непралетарскія настроі, адпаведнай барацьбы з гэтымі настроямі не вядзецца, часта праяўляецца хвасьцізм і „паддаканьне“ гэтым настроям.

Пытаньнем падняцьця свайго палітычнага ўзроўню, арганізацыя займалася вельмі слаба, значны адсеў з партшкол—з 319 у партшколах засталося да канца 186 ці 56%, паміж іншым, як гэта ва ўмовах Нова-Беліцкай арганізацыі зьяўляецца адной з асноўных задач.

Асноўным з тармазоў у рабоце арганізацыі, зьяўляецца недастаткова правільнае ўсьведамленьне лёзунгу аб крытыцы і самакрытыцы. У значнай частцы гэта прыводзіць да судовых спраў, склокаў паміж паасобнымі партыйцамі. Гэтыя склокі зусім разьядалі шэраг ячэек (сьпірытусавы, фанерны завод, ячэйка здымальнага аддзяленьня). У гэтых ячэйках большая частка работы зводзілася да вырашэньня гэтых склок, адыходзячы ад асноўных палітычных задач партыі. Зразумела, што гэта не магло не адбіцца на аўтарытэце ячэек і паасобных комуністаў сярод беспартыйных мас. Да паасобных адмоўных зьявішч, трэба таксама аднесьці тое, што камуністыя ў паасобку слаба адчуваюцца яшчэ ў цэху, як застрэльшчыкі і ініцыятары ў правядзеньні нашых мерапрыёмстваў, пачуцьцё безадказнасьці, парушэньне партдысцыпліны, ня прыкладам у вытворчасьці, п'янства і рэлігійныя абрады, няма пролетарскага пачуцьця ў некаторых членаў партыі (лесазавод). Аднак, трэба адзначыць, што з боку райкому і ячэек на гэтыя хворыя зьявішчы прымаліся рашучыя меры да іх зжываньня.

Трэба адзначыць, што мэты і задачы чысткі партыі ў партыйнай масе і сярод беспартыйных рабочых недастаткова растлумачаны, адгэтуль — няправільнае разуменьне аб чыстцы: „будуць вычышчаць малапісьменных і слаба-разьвітых“. У выніку былі выпадкі добраахвотных выхадаў з партыі (яч. „Чырвоны хімік“).

## Цэнтр цяжкасьці работы яшчэ не перанесены ў цэхі.

Партыйныя дырэктывы аб перанясеньні цэнтру цяжкасьці работы ў цэхі яшчэ не знайшлі дастатковага пераламленьня. Цэх'ячэйкі ф-кі „Везуві“ пры існаваньні бюро к-ву, знаходзіліся пад яго апекай, не праяўляючы належнай самадзейнасьці. Цяпер, пасьля ліквідацыі бюро калектыву, ячэйкі спачатку былі ў замяшаньні, ня ведаючы, што ім рабіць. Райком яшчэ не пасьпеў, як трэба накіраваць работу. Вельмі слаба з работаю зьвенпарторгаў, ня гледзячы на ўзмацненьне імі кіраўніцтва райкомам, у ячэйках з імі ніякай работы не вядзецца; яны ня ведаюць сваіх функцый, да іх вылучэньня ячэйкі падыходзяць фармальна“ ў парадку партнагрузкі, адгэтуль — слабасьць работы. Гэткае самае становішча і з работай цэхпрофбюро і цэхавых вытворчых нарад, апошнія часта зьяўляюцца тэхнічнымі выканаўцамі ўказаньняў фабкому, не праяўляючы сваёй уласнай ініцыятывы.

## Дасягненьні і недахопы ў кіраўніцтве гаспадарчым жыцьцём раёну.

Пытаньні кіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём прадпрыёмстваў раёну ў рабоце райкому і значнай часткі ячэек займалі вялікае месца. Райком за пэрыяд 8—9 месяцаў прапрацаваў важнейшыя пытаньні, зьвязаныя з работай прадпрыёмстваў, ня толькі заслухоўваньня агульных дакладаў дырэктароў заводаў, але па асобных пытаньнях, як пытаньні падняцьця прадукцыйнасьці працы, зьніжэньня сабекошту па асобных прадпрыёмствах, прычым пастановы, якія выносіліся, у значнай частцы насілі канкрэтны характар (іншая справа, што ня было адпаведнай праверкі выкананьня даных дырэктыў, аб чым скажу ніжэй). Вось, прыблізна пералік гаспадарчых пытаньняў, прапрацаваных у РК за час з лістапада 1928 г. па май 1929 г.: пра работу заводакіраўніцтва „Чыр. Хімік“, Браварнага заводу, вынікі гасп. году і пэрспэктывы работы ф-кі „Везуві“, вынікі 1-га паўгодзьдзя работы лесазаводу „Калект. Праца“; аб пашырэньні фанэрнага заводу; аб пабудове каніфольнага заводу; пытаньні будаўніцтва раёну; абсьледваньне ходу соцыялістычнага спаборніцтва і г. д.

Слабае кіраўніцтва гаспадарчым жыцьцём у некаторых ячэйках, як, напрыклад, Браварны завод, дзе ў працягу паўгоду абмежаваліся толькі пастаноўкай агульнага дакладу дырэктара, у некаторых цэхавых ячэйках ф-кі „Везуві“ недастаткова займаюцца канкрэтнымі пытаньнямі па зьніжэньню сабекошту і прадукцыйнасьці працы ў сваіх цэхах і адсюль несьвядомасьць членаў гэтых ячэек з гаспадарчым становішчам сваіх цэхаў. У становішчы прамысловасьці раёну маецца шэраг канкрэтных дасягненьняў па зьніжэньню сабекошту, падняцьцю прадукцыйнасьці працы.

## Асноўныя эканамічныя паказьнікі прамысловасьці раёну.

*Па фабрыцы „Везуві“*. Вытворчая праграма ў першым паўгодзьдзі 1928-29 году па запалках выканана на 96,37% і па фанеры—на 95,-86%. Праведзена шэраг рацыяналізатарскіх мерапрыёмстваў у

1927-28 г. і ў першым паўгодзьдзі 1929 г., даўшы значны эфэкт, які выяўляецца ў некалькіх дзесятках тысяч рублёў. Аднак, недахопам тут зьяўляецца тое, што гэтыя мерапрыёмствы не зрабілі належнага зьніжэньня сабекошту. Зьніжэньне сабекошту маецца толькі па фанеры (экспартнай на 3,69% у параўнаньні з сабекоштам фанеры ў 1927-28 г.). Прадукцыйнасьць працы на ф-цы выпярэджвае рост зарплаты на 2,3%, што нельга лічыць дастатковым.

*Па фабрыцы „Колтруд"*. У першым паўгодзьдзі 1928-29 г. сабекошт паніжаны ў параўнаньні з 1927-28 г., на піламатар'ялах на 4,23%, прадукцыйнасьць працы ў першым паўгодзьдзі 1928-29 г. ўзрасла на 6,26%, а зарплата—на 4,4%; рост прадукцыйнасьці працы перавышае рост зарплаты толькі на 1,86%, што вельмі замала.

*Па фабрыцы „Чыр. хімік"*. Сабекошт прадукцыі ў першым паўгодзьдзі 1928-29 г. панізіўся ў параўнаньні да сабекошту за 1927-28 г. на 18,91% (супроць запраэктованага зьніжэньня на 20,72%); прадукцыйнасьць працы ўзрасла за лік інтэнсіўнасьці працы і праведзенай электрыфікацыі на 31%.

Аднак, ня гледзячы на некаторыя дасягненьні, маецца яшчэ далёка недастаковае выкананьне партдырэктыў у галіне 7% зьніжэньня, падняцьця прадукцыйнасьці працы і прыняцьця неабходных мер да забесьпячэньня правядзеньня гэтых мерапрыемстваў, як, напрыклад,: па заводу „Колтруд" замест прызначанага па пляну зьніжэньня на 8,9%, па піламатар'ялах маецца зьніжэньне толькі на 4,23%, такім чынам, заданьне выканана толькі на 53%. Невялічкае недавыкананьне маецца ў зьніжэньні па заводу „Красный химик". Налічча ва ўсіх гэтых прадпрыемствах значнай колькасьці прагулаў, няўважлівых адносін да машын і г. д.; як, напрыклад:, па лесазаводу „Колтруд" прагулы па няўважлівых прычынах узрасьлі на 27,7% у параўнаньні з 1927-28 г., на „Чыр. хіміку",—рост прагулаў на 0,16%.

Асабліва трэба застанавіцца на ф-цы „Везуві", дзе партдырэктывы пра зьніжэньне сабекошту на 7% не знайшлі адбітку і да правядзеньня былі праяўлены недапушчальныя нядбайныя і злачынныя адносіны. Заводакіраўніцтва супакоілася на дасягненьнях, якія былі ў 1927-28 г., ня гледзячы на пастановы РК і АК з прапановаю прыняць захады да далейшага зьніжэньня ў працягу першага паўгодзьдзя, не зрабіла ніякіх вынікаў да канкрэтнай распрацоўкі мерапрыемстваў, не мабілізавала рабочыя масы да выкананьня гэтае дырэктывы, а наадварот, няправільна арыентавала рабочыя масы аб немагчымасьці далейшага зьніжэньня сабекаштоўнасьці. У выніку гэткіх адносін, замест зьніжэньня ў першым паўгодзьдзі 1928-29 г. ёсьць падвышэньне кошту скрынкі сярнічак з 4 руб. 36 к. да 4 р. 44 к. Гэта падвышэньне ў значнай частцы тлумачыцца масавымі прагуламі, перавышэньнем зацьверджаных па каштарысу агульна-завадзкіх выдаткаў, недавыкананьнем вытворчай праграмы на 4% і недастатковым ростам вытворчасьці працы (на 4,5%).

## Слабае ўцягненьне рабочых мас у гаспадарчае і савецкае будаўніцтва.

Побач з некаторым палепшаньнем наконт уцягненьня рабочых мас у абгаварэньні і прапрацоўку гаспадарчых пытаньняў (Лесазавод „Колтруд", „Кр. Химик"), організацыя ўсё-ж яшчэ не дабілася такога становішча, каб важнейшыя гаспадарчыя пытаньні былі прапрацаваны рабочай масай. Пяцігадовы плян не папулярызаваны. Ёсьць шэраг выпадкаў бюракратычнага, габінэтнага правядзеньня рацыяналізатарскіх

мерапрыемстваў, як на ф-цы „Везувий“ у канатна-макальным аддзяленьні без папярэдняй нарады з рабочымі праведзена рацыяналізацыя (пераход з двух макальных сталоў на адзін) і ў выніку—нечаканасьць і не падрыхтаванасьць рабочых да гэтага, з-за чаго былі перашкоды ў рабоце і незадаволеньне рабочых. Гэта пытаньне абгаварылі на рабочым сходзе толькі пасьля таго, як мерапрыемства было праведзена. Такі-ж выпадак быў і ў каробачна-стругальным аддзяленьні. Наша гаспадарчае становішча, задачы і прычыны асобных цяжкасьцяй недастаткова асьвятляюцца перад рабочымі масамі, адгэтуль частка рабочых карыстаецца інфармацыяй абывацельска-мяшчанскіх, варожых нам колаў, напрыклад, у яч. мэх. цэху з 21 гутаркі, праведзенай за апошнія 6-7 месяцаў, толькі адна гутарка аб гаспадарчым становішчы. У работу Райсавету ня ўцягнуты шырокія масы рабочых, рэдка скліканюцца пленумы і г. д.; прысутнічае на іх ня больш 40% складу членаў. Сэкцыі не працуюць. Слабая работа Райсавету ў значнай частцы тлумачыцца адсутнічаньнем дастатковай самастойнасьці ў яго рабоце, таму што няма свайго бюджэту.

### У сацыялістычным спаборніцтве яшчэ не раскачаліся.

Толькі не лесазаводзе „Колтруд“ да справы соцыялістычнага спаборніцтва прыцягнута ўся рабочая маса. Распрацаваны канкрэтныя мерапрыемствы, штодзённа вывешваюцца інфармацыйныя лісты аб выніках работы за тыдзень у кожным цэху. Ёсьць ужо шэраг канкрэтных вынікаў у бачарным цэху, дзе вытворчасьць працы ўзьнята на 20% і лічба гэтая застаецца стабільнай. Лесапільны цэх давёў вытворчасьць працы да 14%, па ўмове соцыялістычнага спаборніцтва прызначана 18%. Аднак і тут спачатку была пасьпешнасьць, што вывяла стружачны прэс з строю на $1^1/_2$ зьмены. Значна горш абстаіць справа на іншых прадпрыемствах, асабліва на ф-цы „Везувий“ і браварным заводзе. На нарадзе беспартыйнага актыву было зададзена пытаньне: „Калі ў нас пачнецца соцыялістычнае спаборніцтва?“ І на дзіва, сапраўды ў гэтую работу яшчэ ня ўцягнута ўся рабочая маса. Няма цьвёрдага кіраўніцтва і замацаваньня ініцыятывы комсамольскай організацыі. У цэхах няма канкрэтных мерапрыемстваў. Заводакіраўніцтва да гэтага часу затрымлівае вынясеньне на абгаварэньне рабочае масы праэкту практычных мерапрыемстваў па выкананьню парт. сав. заданьняў у галіне работы ф-кі.

На браварным заводзе асобныя члены партыі супярэчылі наконт організацыі паказальных брыгад. Вакол прагульшчыкаў яшчэ ня створана дастатковай грамадзкай думкі і спосабаў зьнішчэньня прагулаў. З боку райкому партыі хоць і былі дадзены адпаведныя канкрэтныя паказаньні (праўда, з значным спазьненьнем), але гэтыя паказаньні яшчэ слаба праводзяцца ў рабоце ячэек. Наогул трэба сказаць, што ініцыятыва і энтузіазм рабочых мас яшчэ не знайшлі адпаведнага падтрыманьня і напрамку.

### Масавая работа—слабейшы вучастак організацыі.

Больш, чым дзе, ва ўмовах работы Нова-Беліцкай організацыі, правільная пастаноўка масавай работы, пры ліку значнай часткі рабочых адсталых, большай колькасьці работніц, якія прышлі з вёскі і зьвязаныя з ёю, лік сярод іх у адным зьёмальным цэху 130 няпісьменных,—мае вялікае значэньне.

Асобныя дасягненьні, якія ёсьць на гэтым вучастку, зьяўляюцца далёка не дастатковымі. Дырэктывы партыі па гэтым пытаньні выконваліся слаба. У чым асноўны недахоп у гэтай рабоце. Зьмест і формы масавай работы ня маюць строга прадуманага і сталага кірунку, яны цалкам ня ўвязаны з вытворчым выхаваньнем рабочых мас, не прыстасаваны да абсьледаваньня асобных груп рабочых і работніц, не скарыстаны ўсе магчымасьці ўзмацненьня вытворчага ўплыву на рабочыя масы, галоўным чынам, маладой часткі рабочых і тых, якія прыйшлі з вёскі. Больш, як дзе-небудзь на гэтым важным пытаньні, ня зроблена неабходнай гнуткасьці і якасьці пастаноўкі работы. Гэта падцьвярджаецца пастаноўкай усёй работы.

Агульныя сходы рабочых склікаюцца бяз усякай плянавасьці і адпаведнай падрыхтоўкі да іх, адгэтуль—няцікавасьць да іх і сходы слаба наведваюцца. У рабоце цэхавых вытворчых нарад, апрача іх нерэгулярнай работы, слаба ўцягваецца рабочая маса, што тлумачыцца пастаноўкай на іх агульных пытаньняў замест абгаварэньня вытворчасьці па асобных конкрэтных галінах. Партыйна-комсамольская маса ў гэтым напрамку не зьяўляецца прыкладам.

Работа клюбаў, ня гледзячы на больш-менш здавальняючыя ўнутраныя абставіны (клюбы „Колтруд“ і „Везувий“), не адбівае тэхнікавытворчае і грамадзкае жыцьцё прадпрыемства. Клюбы не прыстасаваліся да абслугоўваньня асобных груп рабочых (вясковая частка, дарослая частка рабочых і работніц, новыя, якія прышлі ў вытворчасьць і г. д.), напрыклад: па клюбе „Колтруд“ большасьць вечароў была занята платнымі пастаноўкамі і канцэртамі. За 6-7 месяцаў толькі 2 вечары было прысьвечана пытаньням соцыялістычнага спаборніцтва. У клюбе „Везувий“ з 1-га сьнежня па 1-е мая, з шмат дзесяткаў праведзеных вечароў, толькі 2-3 былі зьвязаны з вытворчым жыцьцём прадпрыемства. У адносінах антырэлігійнай работы, клюбам зроблена шмат. Большую частку сродкаў клюбы аддаюць на аплату кіраўнікоў драматычнага, харавога і музычнага гурткоў, так, напрыклад, па клюбу „Везувий“ з 1500 руб. у месяц, толькі 60 руб. значацца на масавую работу і 15 руб. на выпіску часопісяй і газэт. Асноўная задача, якая цяпер стаіць перад клюбам—гэта прыцягнуць грамадзкую думку да спаборніцтва, правільна організаваць паказ маючыхся дасягненьняў і недахопаў. Дапамогі рабочаму стаць сьвядомым удзельнікам спаборніцтва няма.

Ліквідацыя няпісьменнасьці, маючы дасягненьні па ўцягненьні больш 100 работніц і 80 жон рабочых у школу кройкі і швіва, усё-ж такі зьяўляецца далёка нездавальняючай пры значнай частцы няпісьменных работніц. Дырэктыва АК аб поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці ня выканана. Паміж іншым, пры большай увазе з боку ўсіх організацый, гэта дырэктыва магла быць выканана. У інтэрнатах, дзе жыве больш 150 рабочых і работніц, у большасьці на вёсцы, сыстэматычнай работы не вядзецца. Дырэктыва АК аб узмацненьні нацыянальнай работы ў частцы абслугоўваньня рабочых на іх роднай мове (яўработа і беларусізацыя) ня выканана. У гэтай справе абмежаваліся толькі пастаноўкай спэктакляў на яўрэйскай мове. Чыткі і гутаркі, якія праводзіліся, ня гледзячы на колькасную іх дастатковасьць, маюць адсутнасьць плянавасьці і сыстэмы ў іх правядзеньні (як калі пападзе). АПА—організатар у цэху, не адчуваецца, як сапраўдны організатар агіт. прап. работы. Інтэрнацыянальнае выхаваньне рабочых, ня гледзячы на шэраг выпадкаў антысэмітызму і шавінізму, ня носіць сыстэматычнага характару. У парадку кампаніі праведзена растлумачэньне справы Баршай, Дабрускай справы і г. д.

Дырэктыва АК аб кіраўніцтве рабкорамі выканана толькі ў частцы палепшаньня кіраўніцтва імі ў раённым маштабе. У ячэйках, аднак, парткіраўніцтва рабкорскім рухам застаецца яшчэ слабым („Колтруд", браварны завод). У выніку маюцца выпадкі, калі асобныя групы партыйцаў супроцьставілі сябе і рабкораўскую работу яч. (перш рабкор, а потым член партыі), што мела месца ў ячэйцы браварнага заводу.

**Дырэктывы Лістападаўскага пленуму ЦК і АК аб уцягненьні ў партыю ня выкананы.**

Вынікам слабасьці масавай работы зьяўляецца слабы рост організацыі. У пытаньні росту маецца няправільнае разуменьне і асобныя настроі з боку шэрагу партыйцаў і актыву. У выніку гэтага лічаць:

1) што ў умовах, напрыклад, фабрыкі „Везувий" няма каго больш прымаць;

2) Трудна паддаюцца апрацоўцы ўсе сямейныя і інш.

Лічбы партпраслойкі і складу б/п. актыву ў дастатковай меры гавораць аб няправільнасьці гэткіх настрояў. На сярніковай фабрыцы „Везувий", дзе процант работніц, у параўнаньні з усім складам рабочых фабрыкі, складае 66%, а ў партпраслойцы—10%. На слабасьць уступленьня работніц у партыю, зразумела, маюць уплыў і такія факты, як слабае ўцягненьне няпісьменных работніц у дэлегацкія сходы (толькі 8%), прад'яўленьне недапушчальных патрабаваньняў, як „ня ўмеюць добра гаварыць па-руску", „дома ў яе бацькоў абразы" і г. д.

Дырэктыва ЦК і АК аб узмацненьні ўцягненьня ў партыю, ня гледзячы на тое, што ўжо прайшоў доўгі час, ня выканана. На гэтыя пытаньні ячэйкі не зьвярталі належнай увагі.

Мэтады работы па ўцягненьні ў партыю беспартыйнага актыву яшчэ не наладжаны (індывідуальнае запрашаньне на сходы, нагрузка і г. д.). Асноўнай прычынай слабай цягі ёсьць тое, што да гэтага часу работа з беспартыйным актывам пастаўлена вельмі дрэнна. Разуменьне такое, што гэту работу праводзіць фабком, фармальнае азначэньне актыву па займаемым становішчы ў выбарчых органах, не праводзяцца з актывам нарады. У агуле па ўсёй арганізацыі маецца павольны і нязначны рост, так з 1-га лістапада 1928 году па 1 чэрвеня 1929 году паступіла заяў 100, з іх зацьверджана—82. З гэтай колькасьці прынята ў Ленінскі прызыў—54 і, калі прыняць пад увагу, што з ліку 82 было 36 комсамольцаў, то стане ўпаўне ясным нязначны і паслаблены рост, нават, у параўнаньні з гэткім самым пэрыядам у мінулым. Разам з гэтым, трэба адзначыць недастаткова ўважлівыя адносіны да пытаньняў якасьці прымаемых, так напрыклад: ячэйка лесазаводу „Колтруд" у ліку прынятых, за апошні пэрыяд прыняла 6 чал., якія да ўступленьня ў партыю на грамадзкай рабоце сябе не праявілі, некаторая частка (12), менш як з 5-ці гадовым вытворчым стажам. У ячэйцы браварнага заводу быў узят курс на ўцягненьне ўсіх рабочых, ня лічачыся з якасьцю. Адгэтуль нясупыннае хворае становішча ячэйкі.

**Жыльлёва-бытавое пытаньне.**

На пытаньні жыльлёва-бытавых умоў рабочых з боку райкому была зьвернута належная ўвага. РК даваў адпаведныя кірункі ў галіне жылбудаўніцтва, палепшаньня абслугоўваньня харчаваньнем рабочых. У адносінах жылбудаўніцтва маецца шэраг дасягненьняў, як

задавальненьне 68% пайшчыкаў жылкоопэрацыі кватэрамі. Пачалі будаваць новыя сталовыя, аднак, у гэтай галіне маецца яшчэ шэраг недахопаў: цяперашняя сталовая не прыстасавана да вытворчасьці, дрэнна пастаўлена справа з забесьпячэньнем сьнеданьнем; ларкі таксама ня прыстасаваны да абслугоўваньня рабочых. У інтэрнатах цесна (11 работніц у адным пакоі). Вялікім недахопам зьяўляецца тое, што работа ясьляў не прыстасавана да работы фабрыкі (да ўсіх зьмен) і гэта да некаторай ступені адбіваецца на прыцягненьні работніц у партыю: „Я пашла-б у партыю, але няма з кім дзяцей пакінуць“. Адсутнічаньне агульнай пральні і шэраг іншых жыльлёва-бытавых недахопаў. Маецца шэраг недахопаў у рабоце крам ЦРК, слабае ўцягненьне ў работу коопэрацыйнага актыву.

### Дадатнае і адмоўнае ў комсамольскай організацыі.

Комсамольскія ячэйкі даволі энэргічна ўзяліся за організацыю сацыялістычнага спаборніцтва, у выніку чаго маецца шэраг канкрэтных дасягненьняў, так на фабрыцы „Везувий“ організавана 8 паказальных брыгад з комсамольцаў і б/п., палепшыліся адносіны комсамольцаў да вытворчасьці (сваечасовы прыход на працу, менш нядбайнасьці да працы і г. д.), на заводзе „Колтруд“ організавана брыгада з 3-х комсамольцаў, якая ўжо мае добрыя вынікі (павялічэньне выпуску бочак на 25 штук за лік памяншэньня прагулаў і поўнае скарыстаньне рабочага дню).

Як недахоп, тут трэба адзначыць, што гэтыя дасягненьні не замацоўваюцца, адгэтуль некаторыя няхайныя адносіны з боку асобнай часткі комсамольцаў („Колтруд“), недастатковае кіраўніцтва брыгадамі і г. д. Частка комсамольскіх ячэек да гэтага часу не пачала працу па спаборніцтву (будаўнікі чыгункі). У правядзеньні культпаходу таксама ёсьць некаторыя дасягненьні.

Комсамольская організацыя, зьяўляючыся ў аснове здаровай, мае шэраг хваравітых зьявішч: хвасьцізм, моманты антысэмітызму, нацыянал-шовінізму, хаця з гэтымі зьявамі вялася рашучая барацьба.

Недастатковы рост організацыі за лік рабочых і работніц ад варштату, адсутнасьць працы з беспартыйнымі і актывам моладзі. Недастатковая рашучасьць у правядзеньні новых форм комсамольскай работы і слабая масавасьць у ёй.

Палітвыхаваўчая работа, маючы некаторае палепшаньне, усё-ж не зьяўляецца дастатковай. Палітшколы закончылі сваю работу з вялікім адсевам (з 67 скончыла—41). Разгортваньнем форм палітадукацыі не ахоплены ўсе комсамольскія масы, а таксама недастатковае разгортваньне новых форм адукацыі, што прывяло да адсеву некаторай часткі комсамольцаў ад палітвучобы. Асноўныя рашэньні партыі слаба прапрацоўваліся, што падцьвярджаецца фактам падтрыманьня асобнымі комсамольцамі былых трацкістаў („Колтруд“). Недастаткова растлумачана комсамольскай масе сутнасьць правага ўхілу.

У парткіраўніцтве РК і партячэек комсамольскімі ячэйкамі ёсьць палепшаньне па частцы ўзмацненьня штодзённай практычнай дапамогі. Разам з тым, гэта кіраўніцтва ў некаторых ячэйках яшчэ ня мае канкрэтнага характару. Паказваньне „бацькаўскіх“ адносін да комсамольцаў, некаторае зьнішчэньне ініцыятывы, што сьведчыць аб неразуменьні кіраўніцтва КСМ (ячэйка чыгуначн. будаўнікоў).

### Якасьць і гібкасьць у партрабоце яшчэ не дастатковыя.

Ня гледзячы на тое, што агульнае кіраўніцтва райкому і ячэек і ахоп работы значна палепшыліся, усё-такі застаецца нявыкананай дырэктыва АК аб пастаноўцы сыстэматычнай праверкі выкананьня сваіх дырэктыў, прыкладам можа быць становішча з браварным заводам, калі райком даў па аздараўленьню гэтай ячэйкі шэраг дырэктыў, але не праверыў іх выкананьня. Райком, нават, ня ведаў, што сакратар гэтае ячэйкі зусім бязьдзейнічаў. Дырэктывы яшчэ не даходзяць да ўсяе партыйнай масы. Усе пытаньні сучаснага зьнішчэньня недахопаў упіраюцца ў якасьці нашай пастаноўкі і гібкасьці ў працы.

Раўналежнасьць і шаблённасьць, няўменьне арганізаваць працу з шырокім прыцягненьнем партыйнай масы, агульнасьць і неканкрэтнасьць дырэктыў і адсутнасьць праверкі,—усё гэта не ўскладае простай адказнасьці за выкананьне рашэньняў паасобнымі ячэйкамі і членамі партыі. Палепшаньне якасьці ўсяе нашае работы, узмацненьне адказнасьці кожнай ячэйкі і камуністага ў паасобку ў значнай частцы садзейнічала-б зьнішчэньню маючыхся недахопаў і ня прыводзіла-б да таго, што мы па шэрагу пытаньняў, якія нам зразумелы, топчамся на месцы.

### Некаторыя агульныя вывады.

За час з ранейшага абсьледваньня арганізацыі праведзена вялікая работа і ў асноўным яна мела творчы дзелавы характар. Ня гледзячы на гэта, у шэрагу паасобных галін, у тым ліку важнейшых, маюцца буйныя недахопы. Далейшая работа арганізацыі павінна быць накіравана на яшчэ больш энэргічнае зьнішчэньне гэтых недахопаў, шляхам яшчэ большага ўзмацненьня тэмпу і якасьці работы. Перажываемыя цяжкасьці, якія выплываюць з агульнага росту, наяўнасьць асобных момантаў хістаньня і ўхіленьня ў некаторае часткі партыйцаў, патрабуюць ад арганізацый вялікага растлумачэньня нашага гаспадарчага і ўнутрыпартыйнага становішча; мабілізацыі партыйнай і беспартыйнай масы на барацьбу з усякімі адхіленьнямі ад генэральнай лініі партыі на аснове рашэньня XV-га Зьезду партыі і XVI-й парткан-фэрэнцыі. Гэта ва ўмовах Нова-Беліцкай арганізацыі на першае месца ставіць пытаньне аб падняцьці палітычнага і агульнага ўзроўню партыйных і беспартыйных мас. Рашэньне Акругкому па выніках абсьледваньня, праведзенага з максімальным удзелам арганізацыі бязумоўна памогуць у справе аздараўленьня і ўмацаваньня ўсяе работы.

---

М. Шапіра.

# Што перашкаджае выкананьню пяцігодкі.

*(Барысаў, ф-ка „Рабочы“).*

„Ажыцьцяўленьне 5-цігадовага пляну, які зьяўляецца праграмай разгорнутага сацыялістычнага наступленьня, зьвязана з перамаганьнем вялізарных цяжкасьцяў унутранага і вонкавага парадку.

Гэтыя цяжкасьці выцякаюць з напруджанасьці самага пляну, а напруджанасьць вынікае з тэхнічна-эканамічнай адсталасьці краіны, з складанасьці задач рэканструкцыі распыленых сялянскіх гаспадарак на базе каляктыўнай працы і ўрэшце з абставін капіталістычнага акружэньня нашай краіны. Гэтыя цяжкасьці паглыбляюцца абвастрэньнем клясавай барацьбы і супраціўленьнем капіталістычных элемэнтаў, якія няўхільна выціскаюцца ўзрастаючым наступленьнем сацыялістычнага пралетарыяту.

Перамаганьне гэтых цяжкасьцяў магчыма толькі пры рашучым палепшаньні якасьці працы і дысцыплінаванасьці працы ўва ўсіх галінах народнае гаспадаркі...

Канфэрэнцыя лічыць неабходным адзначыць, што перамаганьне гэтых цяжкасьцяў і ажыцьцяўленьне 5-цілетняга пляну магчыма толькі на падставе найвялікшага ўзросту актыўнасьці і арганізаванасьці працоўных мас наогул і рабочае клясы асабліва, на падставе ўсямернага ўцягненьня мільёнfamous мас рабочае клясы ў сацыялістычнае будаўніцтва і кіраўніцтва гаспадаркай, на падставе ўсямернага разгортваньня соцыялістычнага спаборніцтва і моцнага разьвіцьця самакрытыкі мільённых мас зьнізу супроць бюрократычных скажэньняў дзяржапарату“... (З рэзалюцыі XVI-ай партканфэрэнцыі аб пяцігадовым пляне разьвіцьця народнае гаспадаркі).

Нам неабходна на падставе вывучэньня практычнай працы асабліва на прадпрыемствах прааналізаваць, як гэтыя дырэктывы праводзяцца ў жыцьцё і на падставе гэтага вывучэньня намеціць тыя моманты, якія становяцца пасярод шляху выкананьня іх, і на гэтыя моманты накіраваць наш бальшавіцкі агонь. З гэтага пункту погляду прыведзеныя ніжэй факты і матар‘ялы працы на Нова-Барысаўскай Капыльнай ф-цы „Рабочы“ прадстаўляюць значную цікавасьць.

У якіх умовах працуе ф-ка „Рабочы“?

Можна адзначыць, што на гэтай ф-цы маюцца ўсе ўмовы для добрай пастаноўкі працы. Кіраўніцтву ф-кі, дырэктару, у прыватнасьці, ня прыходзіцца займацца пытаньнямі фінансаваньня, пытаньнямі забясьпечаньня ф-кі сырцом і заказамі, усё гэта праводзіцца Барысаўскім аддзяленьнем Лесбелу. Заводакіраўніцтву прыходзіцца толькі займацца пытаньнямі ўстанаўленьня правільнае арганізацыі працы на ф-цы, правільных узаемаадносін паміж рабочымі і ніжэйшым адміністрацыйным пэрсаналам, наглядам за дысцыплінай працы сярод

рабочых і г. д. пры гэтых умовах можна было-б паставіць працу ф-кі на вышыню ўзорнасьці, прыкладнасьці ў параўнаньні з іншымі прадпрыемствамі, тым больш, што ф-ка невялікая (усяго ў 3-х зьменах каля 180 рабочых). Але паглядзім, што высьветлілася пры аглядзе гэтай ф-кі камісіяй гаркому КП(б)Б.

### 1. Становішча прац. дысцыпліны на ф-цы.

Працоўная дысцыпліна на ф-цы кульгае і маецца шэраг фактаў парушэньня яе з боку рабочых як беспартыйных, так і партыйцаў і камсамольцаў.

Маецца шэраг выпадкаў, калі ў часе працы п'юць чай, кідаюць работу і вядуць гутарку, перарываючы працу на 1—2 гадз. Шэраг рабочых за поўгадзіны, альбо за 15—20 хв. да гудка ідуць у сталоўку, альбо зусім з работы; шэраг рабочых кідаюць работу на 1-2 гадз. і ходзяць па сваіх справах. Заўважаны выпадкі, калі качагар спаў на рабоце, адзначана шэраг выпадкаў адмаўленьня рабочых ад выкананьня распараджэньня адміністрацыі, асабліва парушэньня працоўнай дысцыпліны наглядаецца ў часе працы 3-й зьмены: маюцца выпадкі, калі рабочы займаецца забаўкамі, сыплюць адзін другому ў вочы апілкі садзяць рабочага на тачку і возяць па ўсёй ф-цы, а ўсе рабочыя кідаюць работу і зьбіраюцца глядзець на гэта, як на спэктакль. Распаўсюджаны выпадкі, калі рабочыя і работніцы самі выбіраюць сабе працу, з такім разьлікам, каб было лягчэй працаваць і каб можна было больш зарабіць. Калі вывесілі на ф-цы правілы ўнутранага распарадку, многія рабочыя былі гэтым нездаволены і павялі такія гутаркі: „вось, вывесілі ікону, каб нам на яе маліцца“, „гэта новы дырэктар свае законы піша“ і г. д.

Адначасова з гэтым, устанаўленьню добрай працоўнай дысцыпліны перашкаджае тое, што з боку адміністрацыі да гэтага часу не праяўлялася дастатковай распараднасьці; распаўсюджваецца думка, што цьвікавое аддзяленьне ф-кі не рэнтабэльна і пагэтаму ня важна калі яно выпрацуе менш цьвікоў, а ў выніку гэтага маецца шэраг выпадкаў, калі цьвікавое аддзяленьне фактычна працуе па 5—6 гадз. у дзень Недастаткова прадумана сыстэма арганізацыі працы на ф-цы, напрыкл., калі частка шліфоўшчыкаў была адпушчана ў адпачынак, задзельшчыкі, якія даюць ім полуфабрыкат заставаліся ў той-жа колькасьці і рабочы час у іх быў не нагружаны асобныя аддзяленьні, як пакоўня, ня мае адказных за сваю работу людзей і калі рабочыя зьвяртаюцца, каб іх забясьпечылі неабходным матар'ялам для вытворчасьці, ніхто не зацікаўлены ў тым. У выніку ўзьнікае прастой, ападае вытворчасьць працы і інш.

З прычыны ўсяго гэтага, на ф-цы наглядаецца расхлябанасьць, якая адбіваецца на ўсёй працы ф-кі.

### 2. Становішча адміністрацыйнага кіраўніцтва фабрыкі.

Дырэктар фабрыкі (вылучэнец ф-кі „Чырвон. Бярэзіна“), быў высунуты на гэтую працу ў ліпені м-цы 1928 г., пасьля чаго, як па пастанове гаркому, былі зьняты з працы дырэктар ф-кі Сазьвенка за грубасьць з рабочымі, зажым самакрытыкі і іншыя ўчынкі. Тады-ж былі праведзены нечарговыя перавыбары бюро ячэйкі і фабкому і былыя кіраўнікі былі зьняты з працы.

Усё гэта ўскладала на дырэктара, на бюро ячэйкі і фабком абавязак належна ставіцца да свае працы, у мэтах выкананьня пастановы

гаркому, аб утварэньні больш здаровай атмасфэры на ф-цы, аб разгортваньні самакрытыкі. Практыка паказала, што гэтае становішча ня было ўлічана і ня выказана ніякага жаданьня правесьці ў жыцьцё пастановы гаркому і шматлікія ўказаньні ячэйкі аб упарадкаваньні становішча на ф-цы.

У працы адміністрацыі ф-кі наглядаліся за час працы дырэктара такія недахопы:

а) Няўважлівыя адносіны да насьценгазэты і да прапаноў рабочых адносна яе, прычым у асобных выпадках дайшло да яўнага скажэньня лініі партыі ў гэтым напрамку. Так, у адказ на заметку ў насьценгазэце аб тым, што дзяжурныя пажарнікі замярзаюць, бо ў пакоях холадна, дырэктар зьмяшчае ў насьценгазэту наступны адказ: „няхай пажарнікі бяруць венікі і парацца, тады ім будзе цёпла, а не халодна“. На заметку аб тым, што рабочых, аблічваюць; дырэктар дае наступны адказ: „рабочых не аблічваюць, той, хто гэта пісаў, займаецца склокамі, а склочнікам няма месца на ф-цы сярод рабочых“, прычым ён раней наогул не хацеў даваць адказ на гэтую заметку, кажучы, што калі хочаце, перадайце справу пракурору і тады будзе відаць, хто праў, хто вінават. У гутарцы з рабкорам ён пагражаў, што за гэтую заметку перадасьць яго ў ДПУ. Наогул, адказы на заметкі альбо даваліся праз 2—3 м-цы, альбо не даваліся зусім (прыклад, заметка „Неабходна папярэдзіць няшчасны выпадак“, засталася без адказу, не ўважаючы на тое, што яна зьмешчана 4 м-цы таму назад).

б) У выніку няправільна зразумелай эканоміі рабочыя ў большасьці выпадкаў за прастой па віне адміністрацыі аплаты не атрымоўвалі. Так, шліфоўшчыкі ў працягу сьнежня, студзеня і лютага м-ца прастайвалі ў сярэднім ад 20 да 45 гадз. у м-ц, але аплочана было толькі ад 2-х да 8 гадз. Такое-ж становішча наглядалася і ў іншых цэхах. Арганізацыйныя недахопы ў працы адміністрацыі, якія выклікалі прастоі ня ставіліся ва ўвесь рост перад фабрычнымі арганізацыямі. Усё гэта прыводзіла к недавер'ю, рабочых да адміністрацыі і ў гэтым у некаторай частцы тлумачыцца адмаўленьне асобных рабочых у выкананьні распараджэньняў адміністрацыі. (Калі адміністрацыя пераводзіла часовага рабочага на менш аплачваемую работу, рабочы быў упэўнены, што заработак яго будзе зьніжацца).

в) Грубыя адносіны да рабочых і да ніжэйшага адміністрацыйнага пэрсаналу. Лаянка рабочых і майстроў, пагрозы паслаць на біржу. Асобныя выпадкі падавалі на зьдзек над рабочымі; так, быў выпадак калі рабочыя сушыльшчыкі ў ліку 4-х чалавек працавалі ў вялікі мароз на дварэ, некалькі разоў прасілі яны аб выдачы ім хаця-б часова зімовай спэцвопраткі, што было зусім магчыма, бо спэцвопратка знаходзілася на складзе. Дырэктар раней адмаўляўся выдаць, а потым прышоў да рабочых і кажа: „пішэце заяву, атрымаеце“. Рабочыя напісалі, панесьлі ў кантору і падалі. Але дырэктар наклаў рэзалюцыю „выдачы не падлягае“. Быў яшчэ выпадак, рабочыя сьлесары працавалі па нядзелях, за што ім было абяцана заплаціць у падвойным разьмеры але пры расплаце, аказалася, што ім вылічана зарплата за гэтую работу ў ардынарным разьмеры. Рабочыя прышлі ў кантору і ў працягу некалькіх гадзін спрачаліся з дырэктарам. Часовым рабочым балваншчыкам была дырэктарам зьніжана расцэнка з 4-х да 3-х кап., затое дырэктар казаў“: можаце працаваць колькі хочаце“, а калі рабочыя адказалі, што ахова працы гэтага не дапусьціць, дырэктар адказаў: „вас ахова працы не датыкаецца, вы часовыя і працуеце са штукі“.

г) Недастатковае рэагаваньне на выпадкі парушэньня працоўнай дысцыпліны і паломак машын. Быў выпадак, калі дырэктар прышоў

у фабрычную сталоўку і ўбачыў, што рабочыя за 20 хв. да гудка палуднуюць. Ніякага рэагаваньня на гэтае зьявішча ня было. Выпадак, калі рабочы спаў каля паравога катла, таксама прайшоў так сабе. Шматлікія выпадкі спыненьня працы да гудка прайшлі паўз увагу адміністрацыі. Качагарамі ставіліся неабучаныя рабочыя, у выніку чаго парваўся новы насос, а калі рабочыя пыталіся ў дырэктара, чаму гэта так здарылася, адказаў, што: „адна галава на век, а машына павінна калі-небудзь сапсавацца“. Калі рабочы комсамолец сказаў дырэктару, што варштат хістаецца, і ён можа ўзьляцець, дырэктар адказаў: „хай ляціць“,—мы і цябе да яго прывяжам і ты таксама паляціш“.

д) Неўрэгуляваны ўзаемаадносіны паміж майстрамі, прыёмшчыкамі і рабочымі. Прыёмка калодак ад шліфоўшчыкаў не наладжана, Да самага апошняга часу былі выпадкі, калі адзін з прыёмшчыкаў, альбо старшы майстра гаварыў: „што гэтыя калодкі добрыя, іх можна прыняць“, а другі прыёмшчык бракаваў. Маецца шэраг недахопаў у працы шліфоўшчыкаў, як, напрыклад, шэраг рабочых недастаткова зацікаўлены ў якасьці прадукцыі і імкнуцца толькі вырабатаць вялікую колькасьць, што дрэнна адбіваецца на якасьці. Маюцца выпадкі, калі шліфоўшчыкі бяруць у шліфоўку дэфэктыўныя калодкі, жадаючы апрацаваць большую колькасьць. Наглядаецца імкненьне асобных рабочых і работніц схаваць недахопы свае працы, ускладаючы адказнасьць на прыёмшчыкаў, а з боку прыёмшчыкаў маецца яшчэ больш недахопаў, так, прыёмшчык Масьліцкі, прымае ад свайго швагра шліфоўшчыка Пагоцкага калодкі, амаль што без разбору, што выклікае нездаволенасьць рабочых. Наогул пры прыёмцы ў значнай меры справа залежыць ад настрою майстра і прыёмшчыка і пры гэтым падыход да рабочых і работніц ня роўны. З кім прыёмшчык не паладзіў у тых больш бракуюць. Усе скаргі рабочых і работніц дырэктараў, на няправільны падыход майстра і прыёмшчыкаў заставаліся без усякага рэагаваньня і рабочым даваліся такія адказы: „гэта справа не мая, а майстра“, „трэба паменш бегаць сюды са скаргамі, а пабольш працаваць“. Работніца Касьяровіч, зьвярнулася да дырэктара (3/IV-29 г.) з указаньнем аб тым, што майстар не папраўляе варштат і ў выніку псуецца сыравіна і зьмяншаецца вырабатак. Яна ніякага адказу не атрымала і дырэктар на гэта не зьвярнуў ніякай увагі. Такіх выпадкаў было шмат.

е) Разьмеркаваньне працы, паміж варштатнымі пастаўлена дрэнна, адным даецца толькі абточка, а іншым толькі ператочка калодак, у той час, як праца па ператочцы лягчэйшая і пры гэтым можна больш зарабіць. Гэтае скарыстоўваецца для таго, каб націснуць на асобных рабочых, калі адміністрацыя імі не здаволена за крытыку і г. д. і ў выніку, асобным рабочым пры аднальковых кваліфікацыях і пры большай напруджанасьці працы зьмяншаецца зарплата на 20—30 р. у м-ц, такі выпадак быў з рабочым Карпека і з іншымі.

Усе вышэйпаказаныя недахопы і шэраг іншых больш дробных дэфэктаў у працы заводакіраўніцтва і ніжэйшага адміністрацыйнага пэрсаналу прывялі да таго, што рабочыя ў шэрагу выпадкаў дрэнна адносяцца да фабрыкі, робяць параўнаньні паміж кіраўніцтвам былога гаспадара ф-кі капіталіста і савецкім дырэктарам і прыходзілі да вываду, што пры капіталістах было больш справядлівасьці. Ніжэй прыводзіцца выступленьне асобных рабочых па гэтаму пытаньню:

„Калі мне трэба ісьці на ф-ку, дык я думаю, што лепш ісьці ў турму“.

„Наш дырэктар ф-кай ня цікавіцца, ён толькі ходзіць, ды люльку пакурвае, яму мала гора, калі ф-ка дрэнна працуе, заработак яму забясьпечаны“.

„Дырэктар ня хоча пускаць рабочых у экскурсію ў іншыя лепш абсталяваныя прадпрыемствы, бо ён баіцца, што рабочыя даведаюцца аб большых расцэнках, а тое, што мы можам там пераняць лепшыя мэтады працы, яго ня цікавіць“.

„Дырэктар толькі ходзіць па ф-цы ды глядзіць, дзе можна прыціснуць рабочага, ды сарваць яго заработак, а становішча вытворчасьці яго ня цікавіць“.

Так ацэньвалі дырэктара шэраг рабочых з вялікім вытворчым стажам у 20—30 гадоў. Вядома, што з гэтым поглядам у значнай частцы згадзіцца, нельга, але яны адбіваюць настрой рабочых у сувязі з становішчам на ф-цы.

### 3. Як рэагавала парт'ячэйка, фабком і камсамол на гэтыя зьявішчы.

Пытаньне аб становішчы з працдысцыплінай ячэйка паставіла толькі ў красавіку м-цы, такім чынам усе шматлікія выпадкі парушэньня працдысцыпліны з боку партыйцаў і камсамольцаў засталіся фактычна без рэагаваньня. Ячэйка сваечасова не завастрыла ўвагі ўсіх рабочых на неабходнасьць рашучай барацьбы за падняцьце працоўнай дысцыпліны.

Комсамольская ячэйка абмежавалася тым, што апрацавала плян гаспадарчага паходу камсамолу, але практычна нічога не зрабіла ў сэнсэ падняцьця працоўнай дысцыпліны.

Фабком ні пляну, ні мерапрыемстваў па гэтаму пытаньню не апрацоўваў і практычна нічога не зрабіў.

На праяўленьне няправільнага адміністраваньня з боку дырэктара і ніжэйшага адміністрацыйнага пэрсаналу, ячэйка рэагавала, але толькі часткова, разьбіраючы становішча на пасяджэньнях бюро і на агульных сходах ячэйкі. Пастановы па гэтых пытаньнях выносіліся ў большай частцы надта агульнага зьместу, якія не паддаюцца праверцы, а тыя пункты пастаноў, якія носяць больш канкрэтны характар, недастаткова правяраліся і на іх невыкананьне слаба рэагавалася. Шэраг пытаньняў у ячэйцы не абгаварваліся, як, напрыклад, пытаньне аб прастоях, аб рэагаваньні на заметкі ў насьценгазэты і т. п. Сакратар ячэйкі і асобныя члены бюро паддаліся настрою, што, пакольні дырэктар надта ўпарты, з ім нічога ня зробіш і рэагаваць на нездаровыя зьявішчы няма сэнсу.

Наогул ячэйка слаба дысцыплінавана, прыкладам гэтага можа служыць нядаўны выпадак, калі члены партыі Дакука і Аўчук, будучы нездаволены пастановай ячэйкі і агульнага сходу рабочых аб адпрацоўцы 2-х гадз. на карысьць Шэф. Т-ва для правядзеньня вясеньняй пасеўкампаніі, паднялі бузу ў цэху і дабіліся скліканьня новага сходу рабочых, які адмяніў ранейшую пастанову аб адпрацоўцы 2-х гадзін.

Шэраг сяброў парт'ячэйкі з актыву разьбілася на асобныя групоўкі, якія вялі паміж сабой спрэчкі і споры, з прычыны чаго ячэйка не змагла дружна ўзяцца за зьнішчэньне на ф-цы недахопаў.

Прафарганізацыя (фабком), надта нерашуча адстаівала запатрабаваньні рабочых, а ў асобных выпадках вылучаны партыец у рабочую частку РКК вёў хвасьціцкую лінію, не жадаючы адмовіць рабо-

чаму ў яго дамаганьнях, калі ён і ня праў, дабіваўся перадачы справы ў інспэкцыю працы, дзе яны залежваліся і ў асобных выпадках прападалі, што дрэнна адбівалася на настроі рабочых.

Неабходна адзначыць, што, ня гледзячы на давольна частыя наведваньні ф-кі прадстаўнікамі ЦП саюзу Дрэваапрацоўшчыкаў, рэагаваньне ЦП на ўсе недарэчнасьці было зусім недастатковае.

Становішча на ф-цы патрабуе рашучага пералому ўва ўсёй працы фабрыкі і ўсіх фабрычных арганізацыях.

## 4. Вынікі.

У чым-жа заключаюцца галоўныя ўрокі, якія могуць узяць для сябе шэраг нашых прадпрыемстваў, вывучаючы становішча на ф-цы „Рабочы"?

Справа ў тым, што на кожным прадпрыемстве можна знайсьці частку таго, што рабілася на ф цы „Рабочы" з тэй розьніцай, што на ф-цы „Рабочы" адмоўныя зьявішчы знаходзіліся састаўнымі ўсе разам, у канцэнтраваным выглядзе. Выпадкі бюрократычных адносін да прапаноў рабочых, выпадкі грубасьці і іншых бюрократычных скажэньняў своечасова не выжываюцца моцнай самакрытыкай зьнізу і бюрократычныя скажэньні замацоўваюцца на доўгі час, і прыходзіцца як гэта было зроблена Барысаўскім Гаркомам КП(б)Б „рабіць рэволюцыю": зьнімаць дырэктара, праводзіць датэрміновыя перавыбары бюро ячэйкі і інш.

Але ня гэтыя меры зьяўляюцца грунтоўным шляхам па выжываньню недахопаў на прадпрыемстве. Яны прымяняюцца як экстраардынарная мера тады, калі справа зайшла ўжо надта далёка. Адзіна правідловы шлях—гэта шлях вызначаны XVI-ай партканфэрэнцыяй і шэрагам іншых партыйных пастаноў у гэтай галіне.

Кіравацца партпастановамі ў сваёй штодзеннай практычнай працы, а не абмяжоўвацца як гэта бывае, толькі параднай „прапрацоўкай" на сходах—вось важнейшая задача кожнага работніка. Хто на гэтае забываецца, той перашкаджае правядзеньню ў жыцьцё важнэйшых дырэктыў партыі.

---

# ЗЬМЕСТ



## Наша трыбуна



## Пытаньні культуры, літаратуры, мастацтва.



## На мясцох

